Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 1
СТУДЗЕНЬ

МЕНСК — 1929



# Да XII зьезду КП(б)Б.

XII зьезд КП(б)Б зьяўляецца важнейшым этапам у гісторыі нашай арганізацыі. Зьезд павінен зацьвердзіць пяцігадовы плян нашага сацыялістычнага будаўніцтва, сацыялістычнае рэканструкцыі нашае гаспадаркі. Ужо той факт, што мы здолелі паставіць такую вялізарную мэту, як наметка пяцёхгадовага пляну, сьведчыць аб нашым прасоўваньні ўперад па шляху сацыялістычнага будаўніцтва. Пяцігадовы плян—гэта ўжо ёсьць кавалак сацыялізму.

Два другіх пытаньні ў павестцы зьезду—вярбоўка ў партыю рабочых, рэгуляваньне росту і чыстка партыі, а таксама пытаньне аб прафсаюзах, цесна зьвязаны з гэтым асноўным пытаньнем нашага сацыялістычнага пляну. Задачы сацыялістычнай рэканструкцыі патрабуюць моцнага бальшавіцкага адзінства нашай партыі, моцнага саюзу рабочых і асноўных мас сялянства, яснай клясавай лініі партыі, рашучага змаганьня з усялякімі ўхіламі ад ленінізму. Усё гэта будзе забясьпечана, калі мы партыю ачысьцім ад усяго струхнелага, чужога, шкоднага, разложанага, а поруч з гэтым настойліва і рашуча ўцягнем у партыю „тых рабочых і работніц, якія выказваюць найбольшую палітычную стойкасьць у пэрыяды цяжкасьцяй, зьяўляюцца сапраўднымі пралетарскімі інтэрнацыяналістымі, асабістым прыкладам спрыяюць росту вытворчасьці і працоўнай дысцыпліны, горача і ўпарта змагаюцца з бюракратызмам, актыўна працуюць над сваім культурным разьвіцьцём і тым самым здольны ўзмацніць ленінскія шэрагі пралетарскага авангарду“.

Вялізарная задача пры выкананьні пяцёхгадовага пляну кладзецца і на плечы нашых прафсаюзаў. Партыя толькі тады пасьпяхова выканае задачы сацыялістычнае рэканструкцыі, калі ў справу сацыялістычнага будаўніцтва будуць уцягнуты самыя шырокія масы рабочых і работніц, пры максымальнай актыўнасьці ўсяе рабочае клясы. Адгэтуль ва ўсю вышыню вырастае роля прафэсыянальных саюзаў. Прафсаюзы павінны стаць на справе школай камунізму, стаць на справе асноўным прыводным рамянём нашае партыі. Шырокае разгортваньне ўнутры саюзнай дэмократыі, самае шырокае ўцягненьне прафсаюзных мас у эканамічнае, савецкае, культурнае будаўніцтва, падняцьце культурнага ўзроўню рабочых мас—вось задачы, якія стаялі і якія сёньня прымаюць асабліва значэньне ў рабоце прафсаюзаў. Без выкананьня гэтых задач мы ня здолеем нанесьці рашучы ўдар бюрократызму, абломаўшчыне, верхаглядзтву, якія моцна ўкараніліся ў нашых савецкіх, гаспадарчых і нават прафэсыянальных апаратах. Бюрократызм-жа і абломаўшчына зьяўляюцца аднэй з галоўных перашкод у выкананьні намі задач сацыялістычнай рэканструкцыі.

Пабудова пяцёхгадовага пляну сацыялістычнае рэканструкцыі нашай гаспадаркі сустракае ў БССР асаблівыя цяжкасьці. Беларусь зьяўляецца найбольш адсталай краінай у эканамічных і ў культурных адносінах. На Беларусі, якая зьяўлялася плацдармам сусьветнай і грамадзкай вайны, як прамысловасьць, так і сельская гаспадарка падпалі



значнаму зруйнаваньню. Рыскай умовай праз Беларусь праведзена штучная мяжа. Гэтай мяжой адрэзаны чыгуначныя, водныя і іншыя шляхі зносін, што бязумоўна адбілася на ўсёй эканоміцы Беларусі старыя цэнтры эканамічнага цягненьня страцілі сваё значэньне, праходзіць працэс утварэньня новых цэнтраў эканамічнага цягненьня.

Усё гэта разам узягае не дае магчымасьці правесьці як сьлед эканамічнага раёнаваньня БССР і робіць адмоўны ўплыў на пабудову пляну нашае гаспадаркі.

Беларусь была найменш дасьледаванай з навуковага боку краінай. З боку навуковага дасьледаваньня Беларусь была пустой плямай на мапе б. царскай Расеі. Дзякуючы гэтаму ў нас яшчэ дагэтуль няма вучоту энэргэтычных рэсурсаў краіны, як напрыклад торфу. З гэтай прычыны мы яшчэ і сёньня ня маем хоць бы прыблізнага пэрспэктыўнага пляну электрафікацыі БССР.

Нізкі культурны ўзровень насельніцтва, вялізарны процант няграматных, асабліва сярод сялянства, зьяўляецца таксама тормазам у нашай рабоце па сацыялістычнаму будаўніцтву. Калі да гэтага дадаць амаль поўную адсутнасьць кадраў інжэнерна-тэхнічнага складу, малую колькасьць блізкіх да нас кадраў агранамічных, дык перад намі ўва ўсю вышыню ўстае труднасьць тых вялізарных задач, якія паставіць перад партыяй, перад пралетарыятам XII зьезд.

Гэтыя задачы ў галіне сельскае гаспадаркі зводзяцца ня больш ня менш да поўнай агранамічнай рэвалюцыі. Падняць пасеўную плошчу на 15 проц., падняць ураджайнасьць амаль на 50 проц., разам з радыкальнай рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі ў бок жывёлагадоўлі і тэхнічных культур, ахапіць агульным каапераваньнем 86 проц. сялянскіх гаспадарак БССР—гэта нязьмерная цяжкая, але і ўдзячная задача, якая разам з задачай рэканструкцыі прамысловасьці павінна захапіць натхненьнем кожнага камуністага, кожнага пралетара, кожнага члена працоўнай сям'і.

У пляне рэканструкцыі сельскае гаспадаркі асаблівую ўвагу павінна зьвярнуць на сябе праблема мэліарацыі БССР. Асушка 540 тысяч гэктараў забалочаных зямель, мэліарацыя 44 проц. усіх забалочаных сенажацяй разам з мэліарацыяй лясных плошчаў значна зьменяць самы характар і тэмп разьвіцьця нашае сельскае гаспадаркі На інтэнсыўна мэліараваных плошчах, якія павінны дасягнуць 150.000 гэктараў, прадбачыцца разьвіць буйнае саўгаснае і калгаснае будаўніцтва.

Увесь-жа плян будаўніцтва саўгасаў і калгасаў пабудован так, каб разьмеры зямельнай плошчы пад саўгасамі і калгасамі склалі да канца пяцёхгодкі ня менш 12 проц. усяе пасеўнае плошчы пры адначасовым курсе на будаўніцтва буйных калгасаў.

Далейшае разьвіцьцё нашае сельскае гаспадаркі бязумоўна ўпіраецца ў разьвіцьцё прамысловасьці, цесна зьвязана з праблемай індустрыялізацыі і наадварот. Таму, „далейшая індустрыялізацыя БССР, павялічэньне ўдзельнае вагі прамысловай прадукцыі ў агульнай прадукцыі ўсяе народнае гаспадаркі, узмацненьне і пашырэньне прамысловай вытворчасьці, якая грунтуецца галоўным чынам на мясцовым сельска-гаспадарчым, лясным і мінэральным сырцы, а таксама праз насаджэньне ў Беларусі прамысловых прадпрыемстваў, якія грунтуюцца на транспарта-рэнтабельным завозным сырцы і паўфабрыкатах“— вось асноўная задача, якая стаіць перад партыяй у галіне рэканструкцыі нашае прамысловасьці.

Ажыцьцяўленьне гэтай задачы патрабуе вялізарных капітальных укладаньняў аграмаднай напружанай энэргіі пралетарскіх мас, падвойнага росту вытворчасьці працы. Тэзіс, што: „Ажыцьцяўленьне задач

індустрыялізацыі БССР патрабуе ўсямернага прыцягненьня шырокіх пралетарскіх мас да практычнай работы па ўзмацненьні прамысловага будаўніцтва БССР, разгортваньне шырокай ініцыятывы і самадзейнасьці рабочых, узмацненьне працы вытворчых нарад і часовых кантрольных камісій, шырокага разгортваньня самакрытыкі і выяўленьня недахопаў у працы гаспадарчых і будаўнічых органаў, мабілізацыі грамадзкай думкі навакол гаспадарчых задач, усебаковага абмеркаваньня гаспадарчых плянаў сярод шырокіх рабочых мас і аказаньня ўсямернага садзейнічаньня гаспадарчым органам у справе правядзеньня 5 гадовага пляну ў жыцьцё",—гэты тэзіс набывае вялізарнае значэньне асабліва ў рабоце прафэсыянальных саюзаў.

Толькі выкананьне гэтых задач апраўдае ўкладаньне ў цэнзавую прамысловасьць 260 мільёнаў, а ў мясцовую прамысловасьць 24 мільёнаў рублёў, дасьць магчымасьць зьніжэньня сабекошту ня менш як на 32 проц. з адпаведным зьніжэньнем адпускных цэн, дасьць магчымасьць павялічыць агульную прадукцыю па ВСНГБ на 377 проц. з павялічэньнем колькасьці рабочых па ўсёй прамысловасьці на 54,5 тысяч чалавек, дасьць магчымасьць падняць рэальную заработную плату рабочых да 50 проц., адным словам, дасьць магчымасьць падняць удзельную вагу прамысловасьці ў нашай гаспадарцы, а разам і значна пашырыць пралетарскую базу. Усё гэта ўзмоцніць вядучую ролю пралетарыяту і зьявіцца асноўным штурхачом далейшае сацыялістычнае рэканструкцыі беларускае вёскі.

Выкананьне рэканструкцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі будзе забясьпечана падвядзеньнем устойлівай энергэтычнай базы пад разьвіцьцё ўсяе народнае гаспадаркі. Прадугледжаныя плянам 70 міл. р. на электрабудаўніцтва, пуск у ход у 1930 годзе раённай станцыі імя Сталіна, пачатак пабудовы ў працягу 5-цігодзьдзя другой раённай электрастанцыі на 30 тыс. квт і гідраэлектрастанцыі на 15—20 квт поруч з будаўніцтвам раду электрастанцый мясцовага значэньня, у значнай меры забясьпечыць нашу прамысловасьць і часткова сельскую гаспадарку патрэбнай энэргіяй.

Поруч з праблемай энэргэтыкі, задачамі электрафікацыі краіны плянам надаецца вялізарная ўвага і праблеме хімізацыі народнае гаспадаркі БССР, паколькі хэмічная прамысловасьць ва ўмовах Беларусі займае амаль першае месца і паколькі ад разьвіцьця гэтай прамысловасьці ў значнай меры залежыць і хутчэйшы ўздым сельскае гаспадаркі.

Стан нашых дарог і наогул шляхоў зносін зьяўляецца значным тормазам у рабоце па рэканструкцыі асабліва сельскае гаспадаркі. Дарожнае будаўніцтва, аднаўленьне і палепшаньне водных (Бярэзінская сыстэма) і шасэйна-грунтавых шляхоў патрабуюць значных укладаньняў з дзяржаўнага і мясцовага бюджэту. Да справы дарожнага будаўніцтва, якая ў нашых прыгранічных умовах набывае асаблівае значэньне, павінна быць прыцягнута ўвага ўсяго насельніцтва, асабліва сялянства.

Плянам прадугледжваецца барацьба з беспрацоўем і жыльлёвае будаўніцтва. Канкрэтнай задачай у галіне жыльлёвага будаўніцтва ставіцца—давядзеньне жыльлёвай плошчы да мінімальнай санітарнай плошчы на душу насельніцтва ў рабочых раёнах і каапэраваньне насельніцтва ў колькасьці ня менш 32.000 супроць 16 8 у 1927-28 г. з адпаведным укладаньнем сродкаў (ня менш 85,5 міл. руб.).

Сацыялістычная рэканструкцыя ўсяе нашае гаспадаркі цесна зьвязана з задачай культурнай рэвалюцыі. Таму культурны сэктар у 5-цігадовым пляне займае адпаведную ўдзельную вагу. Плян культурнага

будаўніцтва прадугледжвае дзьве асноўных рэчы: ліквідацыя няпісьменнасьці і ўтварэньне патрэбных кадраў для сацыялістычнай рэканструкцыі.

Для вырашэньня першай задачы прадбачыцца ўвядзеньне абавязковага ўсеагульнага навучаньня з ахопам пачатковай школаю дзяцей ва ўзросьце ад 8 да 12 год на 100 проц. і ліквідацыя няпісьменнасьці сярод падросткаў і дарослых такім тэмпам, каб лік няпісьменных з 725 тысяч скараціць да 177 тысяч. Разам з гэтым павялічваецца сетка дашкольных устаноў. Прадугледжана паляпшэньне матар'яльнага стану настаўніцкіх кадраў.

Для вырашэньня другой задачы плянам прадугледжана пашырэньне прафтэхнічнае асьветы, пры разьвіцьці праграмы сярэдняй і вышэйшай школы далейшае пашырэньне хэміка-тэхнічнай асьветы з павялічэньнем разьмераў стыпэндый студэнтаў вышэйшых школ, тэхнікумаў і прафшкол на 100 проц.

Пабудова рабочых клюбаў, хат-чытальнь, радыёфікацыя і кінофікацыя БССР, пашырэньне выдавецкай справы, далейшае разьвіцьцё мастацтва, разьвіцьцё навукова-дасьледчай работы—усё гэта разам з правядзеньнем пляну ўсеагульнага навучаньня запатрабуе траты 251 мільёну па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэтах.

Якімі-ж сродкамі мы распалагаем для выкананьня намечанага пляну?

„Каб падвесьці трывалую і моцную базу пад разьвіцьцё мясцовага і дзяржаўнага бюджэтаў, трэба з дапамогай спэцыяльнай датацыі ад Саюзу ССР зрабіць сур'ёзныя грашовыя ўкладаньні ў народную гаспадарку БССР. Бюджэт з 81 мільёну руб. 1927-28 г. прадбачыцца давесьці да 181 мільёнаў руб. у 1932-33 г.“

Як і за мінулы час БССР у сваёй рабоце будзе абапірацца на пралетарскую дапамогу Саюзу, бо толькі ў цесным супрацоўніцтве з пралетарыятам усяго Саюзу, толькі з дапамогай Саюзу магчым далейшы рост эканомікі, далейшы росквіт беларускай культуры.

З якімі-ж ітогамі мы прыдзем к канцу 5-цігодкі?

Больш чым падвойны рост нашай прамысловасьці, пашырэньне пралетарскай базы, давядзеньне ролі каапэрацыі да 86 проц. у пасрэдніцкім звароце; павялічэньне аграмаджанага сэктару да 87,2 проц. у розьніцы; давядзеньне пасеўнай плошчы калектыўных гаспадарак з двух да 12 проц., ахоп агульным каапэраваньнем 86 проц. сялянскіх гаспадарак з далейшым ростам спэцыяльных ведаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі, разьвіцьцё саматужнай каапэрацыі—вось у асноўным той балянс, які мы здолеем падвесьці пры пасьпяховым правядзеньні пяцігадовага пляну.

Сталёвае адзінства ленінскіх радоў нашай партыі, шырокі актыўны ўдзел пралетарскіх мас у сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі зьяўляюцца парукай таго, што пастаўленыя перад намі задачы будуць выкананы.

---

В. Гантман

# Аб вярбоўцы рабочых у партыю

„Шырокая вярбоўка рабочых павінна быць злучана са строгай праверкаю цяперашняга складу партыі і самаю рашучаю чысткаю яго ад сацыяльна-чужых, якія папрымазваліся, паабюракрачваліся і параспадваліся, элемэнтаў".

(Рэзалюцыя лістападаўскага пленуму ЦК Усе КП(б).

Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б), а таксама заступіўшы за ім пленум ЦК КП(б)Б, прынялі рашэньне адносна ўзмацненьня работы ўсяе партыі па вярбоўцы ў яе шэрагі лепшых, найбольш кваліфікаваных, палітычна стойкіх, рабочых і работніц з вытворчасьці. Неўважаючы на вялізарны рост партыі, рабочая кляса выяўляе сабой яшчэ большыя рэзэрвы для росту нашае партыі. Шырокія і ўсё растучыя кадры беспартыйнага пралетарскага актыву ў прафсаюзах, на прадпрыемствах, у саветах, камсамоле, дэлегацкіх сходах работніц і дабраахвотных грамадзкіх арганізацыях, забясьпечвае магчымасьць для ўзмоцненага росту партыі. Прынятыя Пленумам рашэньні аб тым, каб да канца 1930 году мець у партыі ня менш за палову яе складу рабочых ад вытворчасьці, абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі значна шырэй разгарнуць работу па ўцягненьню рабочых і работніц у партыю абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі ценгля праверадь і рэгуляваць сацыяльны склад новага папаўненьня.

Адным з буйнейшых недахопаў работы па ўцягненьню ў партыю рабочых ад варштату і нашае партыйнае арганізацыі, а таксама як і ў цэлым шэрагу іншых партыйных арганізацый заключаецца ў тым, што прыцёк быў хвалявабразным, узмацняўся ў пэўныя пэрыяды, калі партыйныя арганізацыі асяроджвалі на гэтай рабоце ўвагу, а потым ён паслабляўся. Гэтая акалічнасьць гаворыць пра тое, што паўсёдзённае, сыстэматычнае, масава-палітычнае і арганізацыйнай работы па ўцягненьню ў партыю мы не праводзілі. Калі возьмем рост нашае партарганізацыі за апошнія паўтара гады, дык ён малюецца нам у такім выглядзе: за III квартал 1927 г. прынята ў партыю 1.004 чал., за IV квартал 1927 г. 2.901 чал., за I квартал 1928 г.—2.641 чал., за II квартал мы ўжо маем вялікі спад—932 чал., за III квартал невялічкае падвышэньне—1.267 чал. Гэтыя даныя цалком і поўнасьцю падцьвярджаюць ацэнку ўцягненьня ў партыю. Праўда, за апошні год мы маем вялікае палепшаньне ў адносіне сацыяльнага складу партыйнага папаўненьня. З 1/I-27 г. па 2-X-28 г. процант рабочых павялічыўся з 30,9 проц. да 37,2 проц. (рабочых ад варштату). Мы маем таксама павялічэньне проценту батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, з 1,1 проц. да 2,2 проц. Аднак, гэтыя вынікі нас задаволіць ня могуць, яны толькі кажуць пра тое, што пры некаторай хоць-бы пэрыядычна ўзмацняемай увазе да пытаньня рэгуляваньня сацыяльнага складу, можна дама-

гчыся жаданых вынікаў. Маючы на сёньняшні дзень рабочых з вытворчасьці, у тым ліку батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых—39,4 проц. перад КП(б)Б стаіць вялікая і адказьнейшая задача па папаўненьні яе шэрагаў за лік рабочых ад варштату, батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых для таго, каб пад канец 1930 г. мець ня менш за палову рабочых з вытворчасьці. Калі прыняць пад увагу натуральнае выбываньне партарганізацый за гэтыя два гады, калі ўлічыць таксама надыходзячую чыстку шэрагаў нашае партыі, дык усё-ж за гэтыя два гады неабходна ўцягнуць у шэрагі партыі 14—15 тысяч рабочых з вытворчасьці, батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых. Некаторыя паасобныя таварышы выказваюць сумненьне з прычыны магчымасьці ўцягненьня такое колькасьці рабочых, скептычна адносяцца да гэтага пытаньня. Асноўны довад якім аргумэнтуюць гэтыя таварышы, заключаецца ў тым, што ў Беларусі слаба разьвіта прамысловасьць, што мы ня можам „цягацца“ з вялікімі прамысловымі цэнтрамі ў гэтае адносіны і г. д. Якраз гэтым довадам яны самі сябе б'юць. Праўда, удзельная вага прамысловасьці ў народнай гаспадарцы Беларусі меншая чым у іншых раёнах, праўда, пралетарская праслойка тут танчэйшая, але ўсякі з нас адгэтуль зможа і павінен рабіць зусім іншы вывад: што мы павінны тут шпарчэй расьці, што наша прамысловасьць, а тым самым рабочая кляса павінна расьці у Беларусі шпарчэй, чымся ў цэлым шэрагу іншых раёнаў. Але на апошні выпадак калі мы нават хоць на адну хвіліну згодзімся з гэтымі таварышамі, дык то даныя аб колькасьці рабочых і партпраслойцы сярод іх красамоўней за ўсякія довады адвяргаюць і разьвейваюць усякія сумненьні наконт гэтага. Агульная колькасьць рабочых у 1927—28 г. складае 95.000, партыйная праслойка сярод іх дасягла ўсяго 12,7 проц. сярод фабрычна-заводзкіх рабочых, партыйная праслойка некалькі вышэй і дасягла 15,8 проц., самы высокі процант камуністаў мы маем сярод транспартных рабочых, дзе ён складае 19,5 проц. Як бачым і пры налічным ліку рабочых у Беларусі партыя мае яшчэ вялізарныя рэзэрвы каб расьці. А калі яшчэ прыняць пад увагу прадбачаны рост рабочае клясы пад канец 1930 г., дык зусім адпадваюць усялякія супярэчаньні з поваду магчымасьці для росту. А калі мы возьмем суадносіны камуністаў для беспартыйных, батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, дык тут мы маем яшчэ больш пераконваючыя лічбы наконт магчымасьцяй росту. З агульнае колькасьці батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, дарэчы сказаць, яшчэ па няпоўных даных, у 55,5 проц. тыс. мы маем у складзе КП(б)Б 715 чалавек батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, што складаюць мізэрны процант. Так што ўсялякія гутаркі адносна „ўцягненьня“ ў гэтым пытаньні ня маюць пад сабой ніякае глебы. Іншая справа, работу па вярбоўцы ў шэрагі партыі вытворчых рабочых, батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых давядзецца значна ўзмацніць у параўнаньні з мінулым, дамагчыся большае плянамернасьці прыцёку, не паслабляць увагі да гэтага пытаньня, праз увесь час. Гэта правільна і гэтую задачу праўда нялёгкую, але зусім выпаўнімую задачу, наша партарганізацыя павінна перад сабою паставіць.

### Практычныя шляхі да ўзмацненьня росту партыі за лік рабочых з вытворчасьці.

Раней за ўсё неабходна рашуча папярэдзіць партыйныя арганізацыі аб мэханічным падыходзе да выкананьня гэтае партыйнае дырэктывы. Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) падкрэсьліў, што „неабходна ў партыю вярбаваць сапраўды перадавыя элемэнты рабочае клясы, здоль-

ныя ісьці ў авангардзе рабочых мас, па практычным перамаганьні цяжкасьцяй сацыялістычнага будаўніцтва, па адпору дробна-буржуазным, ідэйным хістаньням і г. д.“ Гэта чоткая і ясная дырэктыва лістападаўскага Пленуму папярэджвае партыйныя арганізацыі аб фармальным падыходзе, гаворыць адносна адбору лепшых рабочых з вытворчасьці. Трэба адкрыта прызнацца ў тым, што партыйныя арганізацыі на прадпрыемствах не заўсёды ведаюць свой рабочы актыў, вельмі недастаткова і павярхова вывучаюць гэты рабочы актыў. Затым у шмат якіх выпадках прыцёк у партыю ідзе самацёкам. Партячэйкі на прадпрыемствах ня прыглядываюцца да работы кожнага паасобнага рабочага, ня ставяць перад сабой задачу ўцягненьня ў партыю пэўных груп рабочага актыву. Вывад адгэтуль зусім ясны, партячэйкі на прадпрыемствах, цэхавыя ячэйкі, парторгі, апоргі, жаноргі, індывідуалы, якія праводзяць паўседзённую масавую работу на прадпрыемствах, павінны ўлічваць, лепш вывучаць і прыглядвацца да рабочага актыву. Рабочыя і работніцы, якія асабістым прыкладам спрыяюць росту вытворчасьці і працоўнае дысцыпліны, цёнгля праяўляюць жывую цікавасьць да свайго прадпрыемства і вытворчасьці, працуюць над павышэньнем свайго культурнага і палітычнага ўзроўню, актыўна ўдзельнічаюць у грамадзкай рабоце, даюць каштоўны і патрэбны матар'ял для нашае партыі. Сярод гэтых груп беспартыйнага рабочага актыву павінна праводзіцца сыстэматычна і ўпарта глыбокая палітычная і выхаваўчая работа, якраз за лік гэтых груп нашым вытворчым ячэйкам патрэбна папаўняць шэрагі партыі. Неабходна пагаджаць работу па палітычным выхаваньні з арганізацыйнай дапамогаю для таго, каб бяз усякіх затрымак і працяжак гэтыя кадры актыву прымаць у шэрагі партыі. Трэба работу партарганізацый на прадпрыемствах паставіць такім парадкам, каб устанавіць заўсёдышнюю асабовую сувязь камуністаў з беспартыйным актывам, ня толькі ўзмоцнена ўцягваць і надбліжаць да партыйнае арганізацыі і работы, і ня толькі даваць ад партячэйкі тыя ці іншыя паасобныя заданьні яшчэ да ўступленьня ў шэрагі партыі, але таксама праз паўседзённыя таварыскія адносіны з беспартыйным актывам узьдзейнічаць на яго да ўступленьня ў партыю. Так трэба разумець рашэньне лістападаўскага Пленуму адносна вярбоўкі ў партыю рабочых з вытворчасьці. *Уся наша масавая палітычная работа на прадпрыемствах павінна праводзіцца ня толькі з пункту гледжаньня мабілізацыі ўсяе пралетарскае ўвагі навокал важнейшых палітычных задач, ня толькі з пункту гледжаньня ўцягваньня ў сацыялістычнае будаўніцтва ўсё новых і новых пластоў рабочае клясы, але і з пункту гледжаньня актыўнагя ўдзелу лепшых і клясава вытрыманых пралетарыяў у рабоце авангарду рабочае клясы—Камуністычнае партыі.*

*У далейшым ацэнка кожнае нашае партыйнае арганізацыі, кожнае паасобнае партыйнае ячэйкі на вытворчасьці, у саўгасе, калгасе і на сяле, работа кожнага паасобнага партыйнага зьвяна павінна ацэньвацца з пункту гледжаньня росту, прыцёку ў гэтыя арганізацыі рабочых, работніц, батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых.*

*Не падлягае сумненьню, што калі прыцёк у партыю рабочых з вытворчасьці ў тэй ці іншай арганізацыі прыпыніўся, хоць-бы і часова, дык гэта адзначае, што масавая палітычная работа гэтай арганізацыі, сувязь з рабочаю клясаю данай арганізацыі, асабліва, што ў гэтым выпадку становішча арганізацыі трэба прызнаць ня ў добрым стане. Толькі з такім крытырыем неабходна падайсьці да ацэнкі работы кожнае паасобнае арганізацыі. Ніякіх скідак, на перагружанасьць ячэйкі рознымі кампаніямі, ці на „аб'ектыўныя“ ўмовы ў гэтай адносіне даваць нельга.* Некалькі заўваг адносна ўцягненьня



ў партыю работніц з вытворчасьці. Калі прызнаць партпраслойку сярод рабочых на цэлым шэрагу прадпрыемстваў недастатковаю, дык сярод работніц трэба прызнаць яе недастатковаю ўдвая. Калі возьмем і вылучым прадпрыемствы з большаю колькасьцю работніц, як, напрыклад, запалкавыя фабрыкі. У той час, калі на фабрыцы „Везувій“ партпраслойка складае 13,2 проц., сярод работніц партпраслойка значна ніжэйшая і складае 9,9 проц., яшчэ горш на фабрыцы „Днепр“, дзе агульная партпраслойка складае 14,5 проц., а сярод работніц 7,2 проц., на фабрыцы імя К. Маркса партпраслойка сярод работніц больш, чым у два разы ніжэйшая за партпраслойку сярод усіх рабочых. Такі самы малюнак маем і на фабрыцы „Дзьвіна“. Тут скажуць, што гэта тлумачыцца нізкім культурным і палітычным узроўнем работніц, ці тым, што большасьць работніц жывуць і зьвязаны з вёскаю. Гэта правільна, аднак і тут неабходна зрабіць зусім іншы вывад. Трэба з куды большаю актыўнасьцю праводзіць работу па палітычным выхаваньні работніц, работа сярод работніц павінна быць ня толькі „прызначэньнем“ жанарганізатараў, а павінна праводзіцца ўсёю партыйнаю ячэйкаю, усімі арганізацыямі на прадпрыемствах. Вопыт, які маецца ў гэтай адносіне, даводзіць, што і ў галіне вярбоўкі работніц, пры наліччы сур'ёзнае разгорнутае масавае работы, можна дамагчыся большых вынікаў. У галіне вярбоўкі работніц у партыю неабходна яшчэ дамагчыся крутога пералому ў настроі некаторых нашых партработнікаў на прадпрыемствах. У першай чарзе неабходна зрабіць гэта на тых прадпрыемствах, дзе маецца вялікая праслойка работніц.

Што-ж тычыцца вярбоўкі ў партыю батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, дык да гэтае задачы яшчэ як сьлед не падышлі. Ня кажучы ўжо пра тое, што ў гэтай галіне не праводзіцца сыстэматычная работа, уся цяжкасьць заключаецца ў тым, што нашы сельскія партарганізацыі нават ня ведаюць батрацкага актыву на сяле. Ва ўяўленьні шмат якіх таварышоў, якія працуюць у вёсцы, усё батрацтва ўяўляе з сябе падросткаў, вартых хіба толькі на папаўненьне піанэрскіх арганізацый, і не на папаўненьне шэрагаў партыі. Не даводзіцца вядома гаварыць пра тое, і даводзіць, што такое ўяўленьне сьведчыць пра нашу думку аб тым, што некаторыя сельскія партарганізацыі нават і ня ведаюць батрацкага актыву. Праўда, за апошні час маецца некаторы зрух у гэтай адносіне, але яшчэ вельмі слабенькі, недастатковы. За апошнія два гады па лініі прафсаюзнае работы ёсьць прыкметныя вынікі па падрыхтоўцы і выхаваньню батрацкага актыву. Праведзеныя цэнтральныя і акруговыя курсы па падрыхтоўцы прафактыву, вясковыя палітшколы, якія абслужылі досыць значныя батрацкія кадры, усё гэта кажа пра тое, што ўжо і на сёньняшні дзень маецца кадр батрацкага актыву, які можа быць уцягнуты ў партыю. У далейшай рабоце зразумела, папаўненьне партыі за лік батракоў і батрачак будзе залежаць ад правадзімае сярод іх культурнае і палітыка-выхаваўчае работы. Чым больш энэргічна, шырока і лепш будзе праводзіцца гэтая работа, тым больш пасьпяховы і ўзмоцнены будзе прыцёк у партыю. Ня толькі сельскія партарганізацыі, але і прафсаюзныя органы, шэфскія арганізацыі, павінны самым актыўным парадкам праводзіць гэтую работу разам з партыйнымі арганізацыямі. У такім выпадку заўсёдышны прыцёк у партыю лепшых актыўных, найбольш перадавых батракоў і батрачак, якія прайшлі хоць-бы некаторую школу грамадзкае работы ў прафсаюзах, саветах і г. д., мы будзем мець.

Апошняе арганізацыйнае пытаньне, якое мае вялікае значэньне ў адносіне выкананьня задач, якія стаяць перад намі, гэта заўсёдышняя

непаслабная ўвага ўсіх партыйных органаў зьверху да нізу да пытаньня рэгуляваньня сацыяльнага складу партыі. Неабходна значна часьцей, чымся раней, займацца праверкаю сацыяльнага складу партыйнага прыцёку, значна глыбей і лепш вывучаць гэты прыцёк, пры малейшай затрымцы ці паслабленьні прыцёку трэба добрасумлена і падрабязна вывучаць прычыны. Толькі ў гэтым выпадку можна будзе сваечасова ўжываць меры да паляпшэньня масавае і арганізацыйнае работы таго ці іншага партыйнага зьвяна. Стан партыйнага прыцёку зьяўляецца лепшым і найбольш яркім паказьнікам посьпехаў ці недахопаў у рабоце. З гэтага трэба выходзіць. Я ўжо не кажу пра тое, што партарганізацыі павінны з найбольшаю асьцярожнасьцю падыходзіць да прыёму ў партыю не рабочых, а ў асаблівасьці служачых. Напор з боку служачых часта бывае надзвычайна вялікі, некаторыя арганізацыі здаюць лінію пад гэтым напорам і ў выніку часта рабочы прыцёк сводзіцца на нішто прыёмам хоць-бы невялікае групы служачых. Гэта неабходна заўсёды памятаць. Тут сапраўды самыя лепшыя, найбольш праверaныя, на працягу цэлага шэрагу гадоў, найбольш моцна зьвязаныя з рабочай клясай, найбольш палітычна вытрыманыя, устойлівыя, могуць быць не прапушчаны ў шэрагі партыі.

Работа па вярбоўцы ў шэрагі нашае партыі рабочых і работніц з вытворчасьці, батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, зьяўляецца аднэю з важнейшых задач нашае ўнутры-партыйнай работы на ўвесь наступны пэрыяд. Чымся лепш і больш пасьпяхова будзе працякаць вярбоўка рабочых з вытворчасьці ў партыю, тым мацней і непарыўней будзе сувязь нашае партыі з шырокімі рабочымі масамі, тым больш згуртаваным будуць шэрагі нашай партыі, тым менш мы будзем мець хістаньняў ад ленінскае бальшавіцкае лініі ў шэрагах нашае комуністычнае партыі.

Конюхаў і Пасюкевіч

# Пра работу савецкіх ячэек КП(б)Б

ЦК і ЦКК(б)Б была праведзена работа па праверцы дзейнасьці савецкіх ячэек. Праверкаю было ахоплена 26 партыйных і 4 камсамольскіх ячэек—адміністрацыйных, гаспадарчых і гандлёва-каапэрацыйных органаў.

У зьмест праверкі работы ячэек, галоўным чынам, уваходзіла, у якой меры парт. ячэйкі правялі і праводзяць у жыцьцё дырэктывы партыі па барацьбе з бюракратызмам, рэжыму эканоміі, разгортваньню самакрытыкі і палепшаньню апарату.

Ацэньваць ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі савецкімі ячэйкамі трэба па тым, якія канкрэтныя вынікі дасягнуты імі на грунце выконваньня пастаноў партыі, якія арганізацыйныя формы і мэтады ўстанавіліся ў барацьбе з бюракратызмам, у прыцягненьні шырокіх мас, які практычны вопыт набылі парт. ячэйкі пры ажыцьцяўленьні задач, пастаўленых перад імі партыяй. І асьвятляючы пад гэтым пунктам погляду зьмест работы партыйных ячэек, знаходзім, што карысьней будзе загастрыць увагу на недахопах, station ўчым вопыце, з тым, каб гэта паслужыла якаснаму палепшаньню далейшае іхнае дзейнасьці.

## Бюракратызм і барацьба з ім

Як агульнае зьявішча для ўсіх правераных парт. ячэек—пытаньне барацьбы з бюракратызмам—у іх дзейнасьці не набыло таго актуальнага значэньня, якое-б сьлед было яму адвесьці. У пастановах парт. ячэек знаходзім: „Весьці рашучую барацьбу з бюракратызмам“. У шэрагу выступленьняў камуністаў на сходах адзначаецца, „што ў нас ёсьць бюракратызм, бюракратычныя зьявішчы“. Аб тым, як весьці барацьбу з бюракратызмам, якімі мэтадамі, як уцягнуць у гэтую справу шырокія беспартыйныя масы, ніводная парт. ячэйка прыстасоўна да ўмоў абслугоўваемых устаноў, не абгаварыла, не прапрацоўвала. Яшчэ яскравей будзе, калі адзначыць, што на працягу 1928 г. ніводная парт. ячэйка, па сваёй ініцыятыве, не рэагавала на канкрэтныя выпадкі бюракратызму, цяганіны і грубасьці. Калі і былі паасобныя рэагаваньні, дык „вымушанага“ характару па заметках у друку, па патрабаваньням кантрольных органаў і пададзеных пісьмовых заявах, і толькі ў трох выпадках на дробныя зьявішчы няўважлівасьці. На пытаньне сакратару ячэйкі „а чаму вы не рэагавалі на паасобныя факты грубасьці і бюракратызму?“ сакратар ячэйкі запэўніваў, „што ў нас ня было такіх выпадкаў“ (С-кий). Ці значыць гэта, што ня было праяўленьня грубасьці, цяганіны і бюракратызму ў абслугоўваемых парт. ячэйкамі ўстановах? Не, ня значыць. А тлумачыцца тым, што парт. ячэйкі вельмі слаба зьвязаны з установамі, ня ўлічваюць настрою мас, не рэагуюць на паасобныя факты, якія праяўляліся ў абслугоўваемых установах, але аб якіх часта парт. ячэйкі ня ведалі, паасобныя каму-

ністы маўчалі пра іх, нездаволеныя праходзілі міма ячэек. Нават тыя факты, па якім і было рэагаваньне, ня былі скарыстаны ў напрамку выхаваўчага значэньня, ім ня было дадана шырокае галоснасьці.

Паасобныя камуністы, супрацоўнікі апарату, падавалі шмат фактаў няўважлівасьці да наведвальнікаў, цяганіны, якія мелі месца ў мінулым і ў сучасным у шэрагу устаноў. Але аб гэтым парт. ячэйкі не інфармаваліся, ня былі ў курсе, камуністы не заўсёды лічылі за свой абавязак паведаміць сваечасова парт. ячэйку. Для ілюстрацыі прывядзем некалькі прыкладаў:

I. Тэхнічны сакратар „ОИК“ Лапкоўскі гр-цы Эрэнбург заявіў: ня ведаю, дзе твая заява, ды і наогул-бы я не прыняў яе ад вас, у той час, як праз 4 мес. заява знашлася ў Лапкоўскага бяз руху (М-ч і К-й).

Вялікая колькасьць скаргаў, заяў на прыкашчыкаў ЦРК і асабліва Вайсмана заставаліся без рэагаваньня па сутнасьці.

На 15 скаргаў з боку наведвальнікаў, занесеных у кнігу з самага пачатку яе прымяненьня, рэагаваньня ня было. Зав. сталоўкі заявіў—няхай пішуць, папера церпіць.

Аднаго гр-на за 30 вер. работнік Пятрыкоўскага РВК Кайкало прымусіў хадзіць за даведкай чатыры разы.

Прыём паявых узносаў устаноўлены да 1 гадз. дню, а калі прыходзіш пасьля—ня прымаюць (Ф-н) і заяўляюць: скардзіся ў РСІ (жонка рабочага).

У Фінчастцы Петрыкоўскага РВК сабралі да 1500 скаргаў і заяў у зьвязку з сел. гас. падаткам.

Фактаў такога роду вельмі многа і аб доўгіх гадзінах чаканьня ў прыёмных, аб зьдзеках над наведвальнікам, калі яго ганяюць ад стала да стала, аб цяганіне. Сярод вельмі істотных фактаў ёсьць і дробныя, але сутнасьць у тым, каб рэагаваць на кожнае праяўленьне няўважлівасьці, грубасьці, бюракратызму, цяганіны, хутка і сваечасова. Іменна па кожным канкрэтным выпадку, паасобным факце. Шляхоў і магчымасьцей для гэтага вельмі поўна. Чаму-б паасобныя факты не паставіць на абгаварэньне супрацоўнікаў апарату, чаму-б парт. ячэйцы не загастрыць увагу адпаведных устаноў, чаму-б не надаць шырокае галоснасьці паасобным фактам і мерапрыемствам па ўплыву на канкрэтных насіцелей бюракратызму? Гэта ня толькі магчыма, але і патрэбна рабіць. Гэта выхаваўчым парадкам будзе адбівацца на апараце, на шырокіх масах. Парт. ячэйкі гэта, па сутнасьці, самае галоўнае ў барацьбе з бюракратызмам, выпусьцілі з галавы. Гэта і значыць, што рашучай барацьбы з бюракратызмам не вялі, прызнавалі бюракратызм у сваіх пастановах, а на канкрэтныя яго праяўленьні рэагавалі зусім недастаткова, ня выхоўвалі нецярпімасьці да бюракратызму сярод шырокіх мас на канкрэтных выпадках, на канкрэтных фактах.

Наглядаецца сярод паасобных савецкіх ячэек і паасобных камуністаў замоўчваньне, захоўваньне недахопаў, злачынстваў, дапушчаемых кіраўнікамі і іншымі „важнымі асобамі“, тады, як яны ёсьць сябрамі гэтае ячэйкі. І тады, калі кіраўніка пераводзяць на іншае месца, пераводзяць у іншую арганізацыю, парт. ячэйкі і паасобныя члены пераходзяць у „наступленьне“, усьлед за ім ускрываюць і выяўляюць грубейшыя недахопы і скажэньні. Вось некалькі фактаў:

Калі быў кіраўнік касы т. Барташэвіч (ён-жа сакратар ячэйкі), дык усё ішло гладка. Як толькі ён паехаў у Ленінград на фінкурсы, дык на заўтра-ж (літаральна) пачынаюць ускрываць у яго

цэлы шэраг няправільных дзеяньняў—прыём на службу знаёмых без узгадненьня з прафсаюзнымі арганізацыямі, пагрозы насьценкорам за тое, што яны крытыкуюць ягоныя недахопы. Між іншым, калі стаяў даклад аб касе ашчаднасьці на бюро ячэйкі, некаторыя партыйцы ведалі аб гэтых фактах, але іх не паказвалі. (З вывадаў па ячэйцы банкаўскіх органаў).

Дырэктар Прамбанку Дзюнін, які купляў дырэкцыі мэблю за кошт установы, паставіў радыё-прыёмнік за 2 тыс. руб., але сродкі правёў на рамонт быццам памяшканьня банку. Гэта рабілася на вачох многіх супрацоўнікаў, у тым ліку і партыйцаў, аднак выявілася толькі пасьля яго ад'езду.

Ячэйка Працасьветы (Мазыр) аб Заг. Акрана Ермакову ў сваёй пастанове: піша „адзначыць, што мела месца калі на другі дзень пасьля пастановы бюро культасьветнае сэкцыі Гарсавету, Ермакоў выклікае да сябе ў габінэт члена гарсавету т. Урэцкую і інспэктара т. Ліца і робіць ім вымову за тое, што яны выступалі з крытыкай супроць яго (Ермакова) як інспэктара. Падкрэсьліваючы адзначанае, бюро парт. ячэйкі просіць АК КПБ узьдзейнічаць на т. Ермакова, як сябра АК".

Бюро парт. ячэйкі не рашылася выказаць свае думкі аб гэтым бюракратычным учынку аб грубейшым скажэньні рабочае дэмакратыі. Калі-ж парт. ячэйка стала абгаварваць пастанову бюро ячэйкі, дык пайшла некалькі далей, але з яўным хістаньнем і нерашучасьцю. У яе пастанове гаворыцца: „за грубое праяўленьне бюракратызму, за падрыў лініі партыі ў адносінах да рабочае дэмакратыі і за парушэньне бюджэтнай дысцыпліны, паставіць Ермакову на від" (прынята 11 галасамі за, 8 за вымову і 4 устрымаліся).

Ермакова пераводзяць у Менск і тады парт. ячэйка высоўвае шэраг новых абвінавачаньняў.

„У зьвязку з тым, што Ермакоў вылучаны на адказную выхаваўчую працу інспэктарам народнае асьветы Менскай акругі бюро яч. лічыць неабходным падняць пытаньне перад АК КПБ аб тым, і думку ячэйкі аб Ермакову пра выяўленьні грубога бюрократызму, адсутнасьці цьвёрдае клясавае лініі, і плевацельскіх адносін да ячэйкі і г. д., давесьці да ведама ЦК КПБ".

Аб памянёных вышэй фактах паведамляюць таксама матар'ялы з Віцебску. Гэта гаворыць аб тым, што некаторая „боязкасьць" сярод камуністаў ёсьць, ёсьць замоўчваньне недахопаў некаторых работнікаў. І гаварыць пасьля таго, каб гэтым ячэйкам памаглі ў выяўленьні недахопаў шырокія масы, наўрад ці сьлед. Гэтая боязкасьць працякае і ў асяродак масы супрацоўнікаў.

„Характэрным прыкладам боязкасьці супрацоўнікаў адкрыта выступаць супроць „начальства" сьведчыць сход у касе ашчаднасьці, калі разьбіралася справа няправільных дзеяньняў кіраўніка касы. Калі галасавалася рэзалюцыя па пунктах, дык супроць галасуюць толькі тады, калі кіраўнік адвярнецца ў бок, і зараз рука апускаецца, як толькі ён пачынае глядзець" (З вывадаў па ячэйцы банкаўскіх органаў).

Такія выпадкі ня рэдкія, яны гавораць аб тым, што парт. ячэйкам прыдзецца правесьці шырокую вялізарную работу па выхоўваньню арміі „сав. чыноўнікаў", робячы з яе армію савецкіх работнікаў.

У абсьледваных ячэйках Гомельскай АКК адзначаецца, што ніводная ячэйка не прапрацавала пытаньня аб узаемаадносінах работнікаў з наведвальнікамі, асабліва такія ячэйкі, як ЦРК, Земаддзелу, Аддзелу

працы, Камунаддзелу, дзе маецца кожны дзень шмат людзей. Тое-ж самае і ў іншых ячэйках. З Менскіх ячэек толькі ў банкаўскай стаяла пытаньне аб скліканьні сходу супрацоўнікаў сумесна з абслугоўваемымі імі масамі (кліентамі), але гэта пастанова ня была ажыцьцёўлена.

Трэба адзначыць зусім фармальны падыход многіх бюро парт. ячэек да розных заяў партыйцаў. Калі апошнія падаюць пісьмовую заяву абчым-небудзь, гэта яшчэ так-сяк разглядаецца, а вусныя заявы (у час выступленьняў) аб тых ці іншых недахопах ня ўлічваюцца, застаюцца без рэагаваньня. Напрыклад.

> На ячэйцы Наркамзему некаторыя выступалі адносна становішча ў Цэнтраземскладзе, давалі некаторы повад аб ненормальных там зьявішчах—бюро ячэйкі не зьвярнула на гэта ўвагі, тое-ж самае па касе ашчаднасьці. Да пісьмовай заявы аднаго таварыша ў Ячэйцы Наркамзему, які апісаў дзейнасьць „Дому селяніна“ і недахопы яго працы, ячэйка падышла так: „адзначыць тэндэнцыю да склокі з боку т. Зэлікава“. Праўда, гэты таварыш падаў тады заяву, калі яго намецілі да скарачэньня, аднак, паказаныя факты пацьвердзіліся.

Трэба адзначыць і тое, што парт. ячэйкі вельмі слаба вялі барацьбу з протэкцыянізмам і кумоўствам. На паасобныя выпадкі парт. ячэйкі не рэагавалі, не загастралі ўвагі вакол такіх выпадкаў. Самі члены ячэек гавораць: „як папаў сакратаром Акрза Івашкевіч? чаму быў уладжаны інфаматарам АВК Земніцкі? чаму некаторыя адказныя працаўнікі садзейнічаюць устройству на працу паміма біржы працы, пасылаючы пісулечкі? якім чынам аказалася ў Нарсудзе 1-га вучастку Лакіш замест зволенай Вайсман“ (з вывадаў па Мазыру). Ці яшчэ:

> „Ва ўстановах, якія ахоплены ячэйкай пры Віцебскім РВК, былі факты протэкцыянізму, ячэйка-ж гэтага пытаньня не абгаварвала. У адным з гэтых выпадкаў беспартыйны кіраўнік каапэратывам выпісаў з Крыму свайго знаёмага члена саюза Рабземлес і паставіў на работу ў каапэратыве. Мясцком, групком і Акрпраўленьне саюзу Савгандльслужачых пастанавілі зьняць яго з работы. Аднак, да гэтага часу ён ня зьняты і старшыня групкому савгандльслужачых партыец пры аглядзе ячэйкі выказаў пэўную боязкасьць узьнімаць зноў гэтае пытаньне. Старшынёй савету каапэратыву, кіраўнік якога выпісаў свайго знаёмага зьяўляецца сакратар Райкому КПБ“ (з вывадаў па Віцебску).

Ёсьць паасобныя выпадкі неразуменьня з боку партыйцаў задач па барацьбе з бюракратызмам і недахопамі ў рабоце ўстаноў. У ячэйцы лячэбных устаноў пры дакладзе аб рабоце ячэйкі справе барацьбы з бюракратызмам — адзін партыец выказваўся так: „насьцен. газэт ня трэба. Эканомкамісіі непатрэбны. Бюракратызму ў нас няма, а калі ёсьць паасобныя выпадкі, дык яны застануцца і пры сацыялізьме, а таму з імі нічога ня зробіш. Ёсьць загадчыкі, гаспадарнікі, якія ведаюць, што трэба рабіць і няхай сабе працуюць“.

Такім чынам, *дырэктывы партыі аб барацьбе з бюракратызмам з боку парт. ячэек выконваюцца вельмі слаба.* Гэтаму вучастку работы дзейнасьці савецкіх ячэек давядзецца прызначыць вялізарную ўвагу, паставіць яе ў цэнтры работы, прыцягнуць шырокія масы. Органам АКК-РСІ неабходна прыйсьці на дапамогу, парткомам, шляхам жывога інструктаваньня палепшыць парткіраўніцтва.

## Эканомпраца і кіраўніцтва парт. ячэек

У галіне рацыяналізацыі рэжыму эканоміі і кіраўніцтва эканомработай парт. ячэйкі згуртавалі значна больш увагі, чымся раней.

Пытаньне рацыяналізацыі, рэжыму эканоміі ўзялі больш месца ў рабоце саміх ячэек, установ, эканомкамісій і нарад. Прывядзем наступную табліцу:

| Колькасьць пытаньняў | НАЗВА ЎСТАНОВЫ: | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | НКЗем | ЦЗСкл. | Дзярж-банк | Камун-банк | Ц. С. К. | Віцеб. група. | Усяго |
| Разгледжана на эканомкамісіі . . . . . | 12 | 6 | 7 | 6 | 8 | 38 | 77 |
| Разгледжана на эканомнарадах . . . . . | 1 | — | 5 | 1 | 2 | 10 | 19 |
| Стаяла на бюро парт. яч., як даклады фр. МК па эканомрабоце . . . | 2 | — | 3 | — | 1 | 3 | 9 |

Характарыстыка пытаньняў, разгледжаных на паседжаньнях эканомкамісій і эканом. нарад:

1. Спрашчэньне дзелаводзтва . . . . . . . 37
2. „ абслугоўваючых частак (курьеры трансп.) . 20
3. Структурныя зьмены . . . . . . . . 6
4. Справаздачнасьць . . . . . . . . . 5
5. Правы і абавязкі супрацоўнікаў . . . . . 4
6. Бухгальтэрыя . . . . . . . . . . 3
7. Палепшаньне сыстэмы работы рэв. камісій . . . . 2

Усяго: . 77

Адсюль відаць, што эканомкамісіі разглядваюць ня толькі пытаньні, зьвязаныя з спрашчэньнем дзелаводзтва, але і структуры апарату найбольш цяжкую галіну работы— палепшаньне вучоту і справаздачнасьці. З вынікаў па Мазырскай акрузе, аб рабоце савецкіх ячэек відаць, што:

„Эканомкамісія АВК разглядала і высунула на сваіх 7 паседжаньнях прапановы, з якіх 70 проц. ужо выканана (скарацілі бухгальтэра, пратакаліста, перавялі рэгістрацыю на картачную сыстэму, рацыяналізіравалі дзелаводзтва і г. д.).

Пры актыўным удзеле эканомкамісій Акрза палепшылі апарат, нагрузілі яго і на гэтым з „эканомілі 5 адзінак—1505 р. Таксама „эканомілі на рацыянальным правядзеньні вытворчых мэліарацыйных работ—5596 р. Акрамя гэтака было праведзена 5 спэцыяльных нарад па рацыяналізацыі рэжыму эканоміі земляўпарадкавацелей, лясных работнікаў, гідратэхнікумаў і таксатараў.

Прывіваецца ў практыцы тое, што тыя ці іншыя недахопы апарату паасобныя мерапрыемствы ўстановы шырока асьвятляюцца на сходах супрацоўнікаў апарату, эканомнарадах. Для ілюстрацыі можна падаць і некалькі прапаноў з гэтакіх нарад:

„У штодзённай рабоце Акрза назіраецца цэлы шэраг ненармальных зьявішч, якія далёка не садзейнічаюць зьнішчэньню бюракратызму і цяганіны. Шмат супрацоўнікаў сыстэматычна позьняцца на работу і ў некаторых супрацоўнікаў не наглядаецца

зацікаўленасьці спрашчэньнем работы. Дзялаводы Акрза зусім няўважліва адносяцца да сваіх абавязкаў. Паперы ў большасьці пішуцца так, каб толькі адпісацца, што робіць лішнюю перапіску.

Падняць працоўную дысцыпліну на належную вышыню, не дапускаць наглядаючых ненармальнасьцяй і ўсім супрацоўнікам неабходна больш зацікаўлена адносіцца да сваёй работы, казённыя адносіны да службовых абавязкаў павінны быць зжыты".

Гэткія нарады праводзяцца яшчэ рэдка па ўстановах, але яны вельмі неабходны. Іх трэба шырэй практыкаваць, каб на канкрэтных выпадках недахопаў, на мерапрыемствах установы загастраць увагу апарату і павышаць якасьць яго работы.

Парт. ячэйкі, заслухоўваючы справаздачы камуністаў, што працуюць у эканомнарадах і камісіях, у большасьці сваёй паказвалі на грунтоўныя мерапрыемствы тае ці іншае ўстановы. Але-ж яшчэ ня ўсюды прывілася такая практыка, каб перад эканомкамісіямі і нарадамі парт. ячэйкі на вызначаны тэрмін высунулі грунтоўныя задачы, зьвязаныя з палепшаньнем апарату, яго спрашчэньнем, уцягненьнем у гэтую справу шырокіх мас.

Зусім выпушчана з галавы пытаньне барацьбы з растратамі, запазычанасьцю некаторых супрацоўнікаў апарату. Парт. ячэйкі не рэагавалі, не загастралі ўвагі партыйнага складу работнікаў устаноў па барацьбе з растратамі і запазычанасьцю. Тады, калі выпадкі запазычанасьці, заавансіраваньня з боку супрацоўнікаў маюцца, што да некаторай ступені паслабляе магчымасьці растрат. Напрыклад, з 25—26 г. за Фарыгіным лічыцца аванс 100 р., Волкавым 75 р., Жыткевічам 395 р. і г. д (Петрыкаў). Па АВК (Мазыр) з 1926-27 г. лічыцца за Мазалеўскім 204 р., за Багацько 70 р., за Ракавым 60 р. і г. д. Зусім ясна, што парт. ячэйкі павінны рэагаваць на такія зьявішчы, абавязаць камуніста ўважліва сачыць за такімі недахопамі, тым самым сваечасова папярэдзіць ад магчымае растраты таго ці іншага працаўніка і магчымасьць матар'яльнае шкоды ўстанове.

## Самакрытыка і масавая работа

Трэба сказаць, што парт. ячэйкі не разгарнулі самакрытыкі. Да гэтага пытаньня аднесьліся, як да кампанейскага, як да бягучага пытаньня дню. Абгаварылі, і то яшчэ ня ўсе парт. ячэйкі, адозву ЦК аб самакрытыцы, „папрэлі" і на гэтым скончылася. Нават на тыя заўвагі, якія былі выказаны на самых партыйных сходах—не атрымалі рэагаваньня, праверкі, ухіленьня адзначаных недахопаў. А небясьпека якраз у тым, што калі ня будзе рэагаваньня на недахоп, выяўляючыся з указаньня мас, дык лёзунг партыі не дасягне мэты. І грунтоўны недахоп парт. ячэек сыходзіць да таго, што яны не паставілі ў цэнтры ўвагі гэтага пытаньня. А гэта, у сваю чаргу, можа прытупіць ініцыятыву і актыўнасьць мас, а не падняць яе на выяўленьне недахопаў і ўхіленьне іх.

Якія-ж зрухі і ажыўленьне ўнесла самакрытыка ў пастаноўку масавае работы? Трэба адзначыць, што маюцца выпадкі, калі сходы зрываюцца па неяўцы, калі наведаньне дасягае ніжэй 50 проц. і сходы часта праходзяць пасыўна. Парт. ячэйкі пад уплывам самакрытыкі да гэтага часу не пераглядзелі мэтадаў масавае работы, ня высунулі новых, адпаведных разгортваньню самакрытыкі, падняцьцю актыўнасьці і ініцыятывы мас.

Шэраг прапаноў, адзначаных фактаў рабочымі і служачымі на сходах, у насьцен. газэтах часта заставаліся без рэагаваньня, бяз вучоту.

Для падняцьця зацікаўленасьці, актыўнасьці зусім неабходна весьці ўсебаковы вучот усіх дзельвых прапаноў і дамагацца ў адпаведных органах правядзеньня іх у жыцьцё. На гэта ў кожнай ячэйцы трэба вылучыць спэцыяльную асобу.

Для прыцягненьня большае ўвагі рабочых і служачых да сходаў, для большае актыўнасьці на гэткіх неабходна практыкаваць шырокую папулярызацыю ў масах павестак дню. За 2—3 тыдні паведаміць якія па іх думцы паставіць пытаньні на чарговым сходзе. З усяе сумы прапанованых пытаньняў выбраць найбольш патрэбныя, важныя.

Ніводнаю ўстановаю не заведзены сшыткі запытаньняў і адказаў, дзе-б шырокія масы маглі даваць як запытаньні, гэтак і прапановы па адхіленьні таго ці іншага недахопу. Таксама ня ўсе ўстановы яшчэ ўвялі кнігі скаргаў. Парт. ячэйкі ня цікавіліся зьместам скаргаў, рэагаваньнем на іх у тых установах, дзе яны ўведзены і дзе зьмешчана вялікая колькасьць заяў і прапаноў (ЦРК, Мазыр).

Няма яшчэ шырокае практыкі, калі-б адміністрацыя рабіла справаздачы перад рабочымі і служачымі аб выкананых прапановах, пастановах. Неабходна ўвесьці ў сыстэму справаздачы адміністрацыі на сходах рабочых і служачых, адначасова з гэтым практыкаваць вылучэньне камісій у паасобных выпадках з рабочых і служачых па праверцы выконваньня паасобных пастаноў. Яшчэ ня ўсюды ўстаноўлена дзяжурства і парт. ячэйкам трэба праверыць і ўвесьці гэткія ў найбольш масавых установах.

У выніку, лёзунг партыі аб самакрытыцы не знайшоў рэальнага практычнага пераламленьня ў дзейнасьці савецкіх ячэек: Пад уплывам самакрытыкі парт. ячэйкі, яшчэ не дасягнулі ажыўленьня работы ўсіх зьвеньняў. Парт ячэйкі не арганізавалі кіраўніцтва па барацьбе з недахопамі, якія выяўляюцца масамі. Маса застаецца ўцалку ня ўцягнутай у крытыку нашых недахопаў. Лёзунг партыі аб самакрытыцы з пункту гледжаньня разгортваньня яго не павёў за сабою канкрэтна распрацаваных дырэктыў і напрамку з боку парт. ячэек у адносінах да камсамолу, прафсаюзаў, дабрахвотных таварыстваў і ў рабоце сяроджанчын.

## Аб насьценгазэтах

Насьценгазэты ў апошні час, у зьвязку з правядзеньнем лёзунгу самакрытыкі, трохі ажывілі зьмест артыкулаў у насьценгазэтах, больш рашуча сталі выяўляць недахопы сваёй установы, аднак, назіраецца, што з боку адміністрацыі мы маем дрэнныя адносіны да насьценгазэт. Па закранутых пытаньнях і заметках у насьценгазэтах рэдка хто адказваў (рэагаваньне на заметкі). Нават больш таго, ёсьць выпадкі варожых адносін да насьценгазэты, калі складаецца тэорыя, што насьценгазэта кампрамэтуе кіраўніка, што насьценгазэту будуць чытаць кліэнты (гэта ў касе ашчаднасьці) і што затым лепш перайсьці да вуснае газэты. Замест таго, каб сапраўды выправіць памылкі (калі былі гэткія ў газэце) своечасовымі адказамі і растлумачэньнямі, дзе памыляецца сьцянкор, пачынаюцца гэткія размаўленьні. Пасьля такое прапановы кіраўніка, рэдактар насьценгазэты (беспартыйны) падаў заяву, каб аслабанілі яго ад абавязкаў.

Галоўным чынам газэтныя артыкулы маюць агульны характар (109), хаця значна асьвятляюць пытаньні, зьвязаныя з работаю сваёй установы. Аднак, па пытаньнях, дзе адзначаны недахопы ўстановы і калі зьнішчэньне залежыць ад правядзеньня кіраўніком установы, дык тыя ці іншыя недахопы і зьнішчаюцца ў працэсе работы, але кіраўнікі (амаль што ніхто) ня пішуць адказаў ці артыкулаў у насьценгазэту, за

выключэньнем Камунбанку, дзе ёсьць такое правіла, што кіраўнік дае адказы і іншыя органы, якіх датычыць заметка.

Вельмі мала прызначаецца ўвагі высьвятленьню паасобных фактаў бюракратызму, цеганіны і г. д. Тыя факты, якія паказаны ў табліцы, тычацца, галоўным чынам, радавых работнікаў і дробных фактаў. За кіраўнікоў мала бяруцца і толькі ў насьценгазэтах ЦСК і касы ашчаднасьці сапраўды выяўлялі факты няправільных дзеяньняў кіраўнікоў (аб іх часткова асьвятлялася вышэй), але гэтыя факты (у большасьці) застаўлены без разгляду і на парт. ячэйках, і на мясцкомах.

Заметкі агульнага друку, якія паказваюць на тыя ці іншыя недахопы ўстановы, ячэйкамі разглядаюцца, але пасьля прысылкі іх з органаў ЦКК РСІ. Так, 3 заметкі па ЦСК прысланы з РСІ, яч. НКЗ 4 заметкі прысланы з РСІ, таксама і банкаўскія ўстановы. Магчыма, што гэта толькі і былі тыя заметкі якія пісаліся пра недахопы ўстановы.

Аднак трэба адзначыць, што гэта работа ячэек пастаўлена зусім кепска. Няма такое сыстэмы ў рабоце, каб сачыць за заметкамі аб сваёй установе і адпаведным чынам на іх рэагаваць.

## Пра камсамольскія ячэйкі ў савецкіх органах

Пры тых установах, дзе абсьледваны парт. ячэйкі, маецца толькі 5 камсамольскіх савецкіх ячэек, прычым тры з іх складаюцца, галоўным чынам, не з камсамольцаў, якія працуюць ва ўстанове, а з прымацаваных. Так, ячэйка КСМ пры Акрфа (Віцебск) складаецца з 35 чал., а працуе ва ўстанове толькі 7 камсамольцаў.

Гэтая асаблівасьць работы камсамольскіх савецкіх ячэек, калі значная частка камсамольцаў у ячэйках ня зьвязана з работаю ўстаноў, зьяўляецца перашкодай да разгортваньня работы ячэек па барацьбе з бюракратызмам і палепшаньню работы ва ўстановах.

З момантаў практычнае работы ячэек КСМ у гэтай галіне выяўлена наступнае:

1. Паасобныя ячэйкі ў горадзе і вёсцы (Паведамленьне Ліозьнянскага і Гарадоцкага Райкомаў) вывучалі пытаньне работы ячэек КСМ па барацьбе з бюракратызмам і недахопамі ў рабоце ўстановы.
2. Ячэйка КСМ пры Акрфа (Віцебск) праводзіла дзьве нарады камсамольцаў, што працуюць у Акрфа. Прапрацоўвалася пытаньне рэжыму эканоміі, заслухоўвала справаздачу прадстаўніка ў ЭК.
3. Ячэйка пры Камунгандлю ставіла пытаньне ўдзелу ячэйкі КСМ у пытаньні зьніжэньня цэн.

Пастановы ячэек па дакладах ня досыць канкрэтныя. Маецца шэраг фактаў практычнага ўдзелу паасобных камсамольцаў у палепшаньні работы ва ўстанове. Досыць арганізаванага ўдзелу ўсіх камсамольцаў у гэтай рабоце яшчэ няма.

Паасобныя ненармальнасьці ва ўстановах (цеганіна, пратэкцыянізм) не даволі прыцягваюць увагу камсамольскіх ячэек. Выказваюцца толькі думкі, што „мы, моладзь, ня можам прымаць удзелу ў эканомрабоце, бо кепска ведаем апарат“ (Віцебск).

Сярод камсамольскага актыву ў горадзе створана дастатковая думка вакол пытаньня барацьбы з бюракратызмам і рацыяналізацыі апарату. У канцы 1926 г. была нарада актыву камсамольскіх савецкіх ячэек, на якой стаяла пытаньне аб рацыяналізацыі апарату, і гэтае самае пытаньне прапрацоўвалася на канфэрэнцыях КСМ.

Такім чынам, камсамольскія ячэйкі ў параўнаньні з мінулым маюць некаторыя дасягненьні—больш пачалі абгаварваць на сваіх пасяджэньнях паасобныя недахопы ўстановы, большы ўдзел у эканомрабоце і



насьценгазэтах. Ячэйкі арганізавалі атрады „лёгкае кавалерыі“, якія, праўда, яшчэ выкарыстоўваюцца ў большай частцы па-за сьценамі сваёй установы, але і ўнутры ёсьць шэраг прыкладаў актыўнасьці гэтых атрадаў. Недахопамі ў рабоце камсамольскіх ячэек назіраюцца:

1. Адсутнасьць суцэльнасьці ва ўсёй гэтай рабоце і сыстэме. Гэта можна тлумачыць тым, што не ўважаючы на цэлы шэраг дырэктыў і па лініі камсамолу—адозвы ЦК УсеЛКСМ, і супольная адозва ЦК УсеКП і ЦК УсеЛКСМ (27 г.)—гэтыя дырэктывы на некаторых ячэйках не прапрацоўваліся (ЦСК), а ў некаторых прайшлі неяк неўзаметку (Банк), без належнай прапрацоўкі.

2. Недахопы, якія выяўляюцца на камсамольскіх ячэйках у часе сходаў, гэтак і застаюцца на паперы: пасьля сходу ня ўносяцца, скажам, паасобнымі пытаньнямі ў парт. ячэйку для прыняцьця належных мер. Прымацаваныя ад парт. ячэек да камсамольскіх таксама не сыстэматызыруюць гэтых абгаварэньняў і ня ўносяць у бюро парт. ячэйкі. Такім чынам складаецца думка ў радавых камсамольцаў, што гутарка застаецца гутаркаю, што ніякіх мер да віноўных ніхто ня прымае. Паказаць большую ініцыятыву—самому дамагчыся пастаноўкі гэтых пытаньняў і вырашэньня іх—рэдка ў каго хопіць настойлівасьці.

3. Калі назіраецца, што кіраўнікі ўстаноў недастаткова інфармуюць парт. ячэйку па розных пытаньнях і намечаных мерапрыемствах, дык у адносінах да камсамольскае ячэйкі справа яшчэ горш. Ёсьць выпадак, калі кіраўнік зрабіў даклад на камсамольскай яч. (ЦСК), але сказаў, што абгаварваць яго даклад камсамольцы ня маюць права, бо гэта інфармацыйны даклад, які можа быць прыняты да ведама.

4. Парт. ячэйкі не заўсёды, як належыць, дапамагаюць у рабоце камсамольскіх ячэек у гэтым напрамку, няма належнае ўзгодненасьці паміж партыйнымі і камсамольскімі ячэйкамі ў рабоце па палепшаньню савецкага апарату, і барацьбе з бюракратызмам.

Паколькі асноўнай работаю савецкіх ячэек (партыйных і камсамольскіх) зьяўляецца работа па палепшаньню савецкага апарату, было-б вельмі мэтазгодным, каб парт. і камсамольскія ячэйкі выпрацоўвалі адзіны плян работы, які потым больш практычна і падрабязна мог-бы прапрацоўвацца ў эк. кам. і нарадах, тады ня было-б гэткае разрозьненасьці і меўся-б большы эфэкт у рабоце парт. і камсамольскіх ячэек.

## Савецкія ячэйкі і органы КК—РСІ

XV зьезд УсеКП(б) па дакладзе ЦКК—РСІ вынес спэцыяльную пастанову, якая тычыцца савецкіх ячэек: „...партыйныя і камсамольскія ячэйкі савецкіх устаноў сваёю паўсядзённаю работаю павінны дапамагаць органам ЦКК—РСІ у іх складанай і цяжкай рабоце па перапрацоўваньню дзяржапарату ў духу ўзмацненьня яго сувязі з шырокімі масамі“.

Органамі КК—РСІ выносіцца шэраг рашэньняў, якія тычацца розных устаноў. Ці праводзяцца гэтыя пастановы ў жыцьцё і як, ці дапамагла ячэйка калектыўна кіраўніку ўстановы іх ажыцьцявіць. Абсьледваньне некаторых ячэек паказвае, што апошнія досыць часта ня ведаюць пра такія пастановы, г. зн. кіраўнік установы не інфармаваў калектыў партыі пра іх. А калі ячэйкі і ведаюць пра іх, дык зусім забываюць прасачыць, як прапановы органаў КК—РСІ ажыцьцяўляюцца і гэта будзе самая лепшая дапамога і садзейнічаньне з боку савецкіх ячэек органам КК—РСІ, калі будзе ўстаноўлены кантроль над правядзеньнем іхных прапаноў. Да гэтага часу ніводная савецкая ячэйка не паведаміла КК—РСІ пра невыкананьне тых ці іншых пра-

паноў, а тымчасам пры паўторным абсьледваньні ўстаноў гэтае невыкананьне сустракаецца і тут і там.

У матар'ялах ячэек маюцца факты, што паасобныя таварышы, выступаючы на сходах, выражаюць нездавальненьне праведзенай работай таго ці іншага інспэктара работніка КК—РСІ. Бязумоўна, як пры кожнай рабоце, так і пры правядзеньні абсьледваньня могуць быць некаторыя памылкі (за выключэньнем фактаў проста нездаваленьня работаю органаў РСІ). Так на ячэйцы НКЗему выступалі і гаварылі, што „ня ўсе інспэктары РСІ разумеюць добра тое, што яны прапануюць. Белсельтрэсту прапанавалася такая сыстэма севазвароту, якая ня існуе на сьвеце" (з выступленьня на ячэйцы).

На банкаўскай ячэйцы выступалі, гаварылі, што РСІ вельмі часта праводзіць абсьледваньне і патрабуе даволі шмат часу на зьбіраньне розных вестак, а таксама, што быў прысланы ІДБЭ нейкі экспэрт (праф. Монаў), які прапанаваў такую бухгальтэрыю, што трэба яшчэ чал. 20 супрацоўнікаў, каб справіцца з работаю. ІДБЭ (т. Левін) гаворыць, што гэтыя таварышы не зразумелі, у чым справа.

Трэба аб такіх фактах, каб ячэйкі паведамлялі адпаведныя органы КК—РСІ, інфармавалі апошніх, каб мець магчымасьць выправіць недахопы. І зноў такі аб гэтых зьявішчах ніводная савецкая ячэйка не паведаміла.

Як павінны дапамагаць органам КК—РСІ савецкія ячэйкі?

Звычайна абмяжоўваюцца толькі такой думкай, што калі прыдзе той ці іншы прадстаўнік з КК—РСІ, дык толькі тады можна яму штонебудзь дапамагчы. Між іншым практыка паказвае, што калі нават і прыходзіць такі прадстаўнік, дык савецкія ячэйкі, бюро ячэек не заўсёды праяўляюць ініцыятыву, каб паставіць перад ім якія-небудзь пытаньні для праверкі, ці даць факты, якія-б характэрызавалі пастаноўку і сыстэму работы ўстановы, дзе знаходзіцца сав. ячэйка. Бязумоўна, што прадстаўнікі органаў РСІ, згодна дырэктыў XV зьезду і апошніх дырэктыў ЦКК УсеКП(б) павінны ў абавязковым парадку самі ўвязваць усю сваю работу з масавымі арганізацыямі ўстановы (парт. ячэйкі, КСМ, Камслужы, экаиомкамісіі, насьценгазэты), але гэтая ўвязка вельмі часта абмяжоўваецца інфармацыяй аб мэтах, а потым аб выніках абсьледваньня. Але-ж дапамога павінна ісьці ў напрамку дачы такога матар'ялу, фактаў і распрацованых прапаноў, якія-б пры ўключэньні іх у канчатковыя прапановы значна паляпшалі, зьліквідоўвалі маючыя недахопы, спросьцілі-б работу ўстановы. Гэта неабходна таму, што якім-бы „спэцам" прадстаўнік КК—РСІ ня быў, за кароткі тэрмін работы ён ня мае магчымасьці ахапіць усебакова ўсе недахопы, дасягненьні, можа выпусьціць якія асноўныя ці дробныя зьявішчы, але што маюць у сыстэме работы ўстановы значную вагу.

А, тымчасам, члены ячэйкі (і члены іншых грамадзкіх і прафэсыянальных арганізацый), якія працуюць даўно ў гэтай установе, штодзённа назіраюць за сыстэмаю работы апарату на працягу доўгага часу, яны могуць пры жаданьні даць многа фактаў і асьвятліць становішча работы так, як яно ёсьць з усімі недахопамі і недарэчнасьцямі і ўжыць крокі праз бюро ячэйкі да зьліквідаваньня гэтых недахопаў, не чакаючы нават прадстаўнікоў КК—РСІ.

## Парт. кіраўніцтва і ўзаемаадносіны

Трэба канстатаваць, што ў большасьці сваёй парт. ячэйкі абслугоўваюць поўна ўстаноў. Напрыклад, яч. АВК—18, гандлёва-каапэрацыйная—15, Петрыкаўская гарадзкая—25 (Мазыр), і г. д. І дзякуючы

гэтаму, маюцца значныя цяжкасьці—немагчымасьць ахопу ўстаноў, немагчымасьць прыстасаваць карысную дапамогу і кіраўніцтва да ўмоў і зьместу работы ўстаноў. Напрыклад, асноўная ўвага гандлёва-каап. ячэйкі (Мазыр) была згуртавана на пытаньнях работы Дзяржгандлю, ЦРК, Райсаюзу, а ўстановы Сельгасбанк, Сельгассаюз са складу гэтае ячэйкі—не прыцягнулі ўвагі. Прычына ў тым, што большасьць камуністаў і сама ўстаноўка ў абслугоўваньні ўстаноў будзе і надалей канцэнтравацца вакол гэтых устаноў. Такіх прыкладаў поўна. Таму неабходна ўсебакова перагледзець структуру пабудовы савецкіх парт. ячэек з такім разьлікам, каб парт. ячэйкі ўключалі камуністаў і абслугоўвалі ўстановы найбольш аднародныя, зьвязаныя адна з аднэй. Тым больш, што склад камуністаў з ячэек дазваляе іх драбніць. Напрыклад, колькасны склад ячэек прадстаўляецца ў такім выглядзе: ячэйка АВК—46 ч., гандлёва-каап.—29, Гарсавецкая—(Петрыкаў) 45, і г. д.

АК і райкомы, дырэктывы ЦК наконт драбненьня савецкіх ячэек яшчэ да гэтага часу цалкам ня выканалі і таму прыдзецца гэтую работу ў бліжэйшы час правесьці.

Некалькі палепшылася работа парт. ячэек зьмест і падыход да праверкі выконваньня партыйных дырэктыў і пастаноў парт. ячэек. З найбольш пашыраных мэтадаў зьяўляецца: а) вылучэньне камісій па абсьледваньню работы тае ці іншае арганізацыі, у зьвязку з заслухоўваньнем іх дакладаў; б) вылучэньне камісій па праверцы выконваньня дырэктыў партыі (аб 20% зьніжэньні адм.-гасп. выдаткаў) з уцягненьнем шырокіх мас і в) азнаямленьне з боку бюро ячэек аб ходзе выконваньня дырэктыў шляхам заслухоўваньня інфармацый. Аднак, яшчэ цьвёрдае ўстаноўкі ў прыстасаваньні гэткіх мэтадаў работы ячэек ня ўсюды устаноўлена.

Работа з беспартыйным актывам ва ўсіх парт. ячэйках адсутнічае, няма вучоту, таксама няма вучоту нагрузкі яго і ўцягненьня ў практычную работу. Парт. ячэйкі не заняліся тым, як нагружаны, як працуе беспартыйны актыў выбарных органаў—саветаў, профсаюзаў, дабраахвотн. т-ваў.

Найбольш распаўсюджанымі парушэньнямі парт. этыкі ў парт. ячэйках ёсьць п'янства, рэлігійныя абрады, палавая распушчанасьць. Праўда, парт. ячэйкі рэагавалі на гэтыя зьявішчы, скарыстоўваючы іх у напрамку выхаваўчага значэньня, але на гэтых зьявішчах трэба і на далей згуртаваць рашучую барацьбу.

Матар'ялы паказваюць, што парт. ячэйкі дапускаюць паралельнасьць у рабоце. Напрыклад: яч. гандлёва-каап. заслухоўвае даклад установы, дае дырэктывы тады, калі гэтыя дырэктывы ўжо былі дадзены АК. Такіх прыкладаў шмат. Пры гэтым іншы раз дырэктывы з боку парт. ячэек супярэчаць агульнай устаноўцы, умовам тае ці іншае ўстановы, а галоўнае—адносна да дырэктыў парт. камітэтаў. А таму неабходна парт. ячэйкам савецкіх органаў заслухоўваць тыя ўстановы, якім дадзены поўныя пастановы з боку парт. камітэтаў.

Парт. кіраўніцтва з боку АК і райкомаў савецкімі ячэйкамі было дастатковае. Склікаліся нарады, ставіліся пытаньні палепшаньня работы, але-ж штодзённага рэагаваньня на паасобныя недахопы парт. ячэек было вельмі недастаткова. Перад парт. ячэйкамі ня высоўваліся, адпаведна яе ўмоў, практычныя задачы. Парт. ячэйкі не заслухоўваліся на АК, не практыкуюцца выклікі парт. ячэек тады, калі заслухоўваюць даклад тае ці іншае ўстановы, якая абслугоўваецца данаю парт. ячэйкаю. Трэба таксама адзначыць, што кіраўнікі тае ці іншае

ўстановы не заўсёды інфармуюць парт. ячэйку пра зьявішчы, якія назіраюцца ва ўстанове, пра тыя мерапрыемствы, якія праводзяцца. Гэта ў значнай меры мае ўплыў на тое, што парт. ячэйка бывае ня ў курсе праводзімых мерапрыемстваў абслугоўваемае ўстановы і ня зусім ведае настроі шырокіх мас.

Вось тыя моманты, якія маюцца ў рабоце савецкіх ячэек і з якімі трэба ў бягучай штодзённай рабоце весьці рашучую барацьбу, уцягваючы ў гэтую справу шырокія масы, выхоўваючы армію супрацоўнікаў савецкага апарату і паляпшаючы яго якасьць.

---

**Пав. Шаліма**

# Да пытаньня аб камуністычным выхаваньні моладзі

Цяпер „галоўнейшай характэрнейшай рысай для нашага савецкага саюзу зьяўляецца абастрэньне клясавае барацьбы“. Аб гэтым гаварыў наш 15-ты парт. зьезд і гэта абастрэньне клясавае барацьбы ўнутры нашае краіны найбольш яскрава высьвятлілася ў апошнія эканамічныя кампаніі, што праведзены нашай партыяй і савецкай дзяржавай, асабліва ў вёсцы, асабліва ў момант хлебазагатоўчае кампаніі.

Клясавая барацьба набыла не такія, як гэта было раней, у пэрыяд вайсковага камунізму, формы, яна цяпер ускладнілася, стала няпрыкметнай для простага, няўзброенага вока, асабліва рабочай і сялянскай моладзі, якая падчас ня мае яшчэ жыцьцёвага вопыту. Цяпер таксама абастрылася барацьба за ўплыў на моладзь. Барацьба гэта ўзмацнілася таму, што з кожным днём, бачучы бязумоўны, бясспрэчны рост нашае сацыялістычнае гаспадаркі, сацыяльна-варожыя нам элементы, зайздросьцяць нам таму, што моладзь выхоўваецца ў спрэчных умовах НЭП‘у. Наша моладзь ня бачыла ў свой час адкрытага клясавага ворага так, як гэта бачыла цяперашняе юнацтва і старыя партыйныя кадры, г. з. не сустракаліся ў барацьбе за свае жыцьцёвыя патрабаваньні з гаспадаром капіталістым, з абшарнікам; ня бачыла прыстава, гарадавога, жандара.

Бязумоўна і бясспрэчна тое, што рабочая кляса пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі за апошні час дасягнула шмат посьпехаў у справе сацыялістычнага будаўніцтва свае народнае гаспадаркі і прамысловасьці. Бясспрэчна зразумела і тое, што камсамол за час свае работы вельмі поўна прарабіў у справе арганізаваньня і камуністычнае асьветы мас рабочае і сялянскае моладзі; у справе сапраўднага прыцягненьня мас пралетарскай моладзі да ўдзелу ў сацыялістычным будаваньні народнае гаспадаркі. *Інакш і быць ня можа, бо рабочая моладзь ёсьць частка рабочае клясы.*

Але разам з гэтым, мы ня можам прайсьці міма тых адмоўных зьявішчаў, якія маюцца сярод нашае моладзі. Сярод паасобных груп рабочае моладзі прыкмячаецца яшчэ зьявішча слабае вытворчае дысцыпліны, недастатковае зацікаўленасьці ў рабоце прадпрыемстваў, факты незразуменьня і дзейнічаньня супроць работы па рацыяналізацыі нашае прамысловасьці. Зразумела, што гэтыя адмоўныя зьявішчы ў большай меры характэрны для кадраў моладзі, якія нядаўна ўліліся ў вытворчасьць з вёскі і мястэчка, моладзі клясава яшчэ не аформленае і не перавыхаванае, якая часам яшчэ не парвала з ідэалёгіяй саматужна-мяшчанскага атачэньня.

Сярод беспрацоўнае моладзі на біржах працы і некаторых груп малааплачваемае моладзі, што жыве ў цяжкіх матар‘яльных умовах— для гэтае часткі моладзі характэрна расчараваньне. Сярод вузаўскае

моладзі, асабліва летам мінулага году, мы наглядалі выпадкі самагубстваў і такія выпадкі, якія звычайна кваліфікуюцца як „есеніншчына“. Сярод моладзі, асабліва на рабочых ускраінах, ёсьць яшчэ шмат выпадкаў п‘янства. Гэта ўсё бязумоўна ёсьць спадчынаю мінулага, вынікам нашае някультурнасьці, няўмельства прастасавацца з культурна-масаваю работаю, няўмельства арганізаваць добра досуг рабочых і рабочае моладзі, каб адцягнуць яе ад ненармальнага скарыстаньня часу.

Зразумела, што са ўсімі гэтымі зьявішчамі трэба весьці рашучую барацьбу. Мы на такія адмоўныя зьявішчы глядзімо цьвяроза, ускрываем і зьнішчаем іх.

* * *

Уся наша сыстэма работы, канчатковая мэта, што вымагаецца нашай партыяй, арганізацыямі і органамі рабочае клясы, якія працуюць пад кантролям і непасрэдным кіраўніцтвам кампартыі, накіраваны да таго, каб выхоўваць у камуністычным духу рабочых, сялянства і працоўнае насельніцтва. У справе перапрацоўкі і камуністычнага выхаваньня партыя зварочвае асаблівую ўвагу на маладое пакаленьне.

Якім-жа чынам, мэтадамі, у якіх формах і якім тэмпам ідзе гэта камуністычнае выхаваньне маладняка, і што патрэбна для таго, каб гэтую справу палепшыць?

## I

У агульным, не ўважаючы на некаторыя, нават прынцыповыя, разыходжаньні паміж камсамолам і гаспадарчымі нашымі арганізацыямі ў пытаньнях арганізаваньня юнацкае працы ў прамысловасьці, за апошні год, мы можам адзначыць і прызнаемо, *што сучаснае эканамічнае становішча рабочае моладзі ў дзяржаўнай прамысловасьці— ёсьць здавальняючым, устойлівым, што ёсьць усе прадпасылкі да далейшага палепшаньня яго. Паляпшаць матар‘яльна-бытавыя ўмовы і працягваць далейшы палітычны і культурны рост гэтае моладзі.*

Мы стаімо перад задачай сапраўднага вырашэньня праблемы культурнае рэвалюцыі. І бязумоўна, што гэтае вырашэньне не магчыма без падрыхтоўкі новых кадраў рабочае клясы, прыстасаваных да рэканструкцыйнага пэрыяду і рацыяналізацыі прамысловасьці, без падрыхтоўкі новых кадраў спэцыялістых па ўсіх галінах сацыялістычнае гаспадаркі, і ў першую чаргу з складу пралетарскае моладзі.

Для новых прадпрыемстваў, якія будуць будавацца *на больш высокай тэхнічнай базе, нам патрэбен будзе добра кваліфікаваны рабочы, тэхнічна адукаваны, культурны, грамадзка і палітычна разьвіты рабочы, які добра разумее ўвесь працэс вытворчасьці, які зьяўляецца ўладаром, гаспадаром вытворчасьці.*

Каб выканаць гэта, нельга ніколі падыходзіць з чыста-вузка гаспадарчых інтарэсаў сёньняшняга дня (так, як гэта цяпер падыходзіць цэлы шэраг гаспадарнікаў і прафэсыяналістаў). Нельга эканоміць сёньняшнюю капейку на шкоду заўтрашняму рублю. У нашай савецкай краіне трэба падыходзіць да пытаньняў вытворчага навучаньня моладзі з пункту погляду камуністычнага навучаньня і арг. працы моладзі на сацыялістычных пачатках.

А калі выходзіць з таго, што „канцэнтраваная эканоміка ёсьць палітыка“, мы павінны пакамуністычнаму выхоўваць асабліва кадры моладзі, бо сёньня затрачаная капейка ў будучым выкупіцца з лішкам для ўсяе рабочае клясы ў цэлым.

Асноўнымі формамі рабочае асьветы ў БССР цяпер зьяўляецца дзенныя і вячэрнія рабфакі, якія ставяць сваёй мэтай падрыхтоўку рабочых, батракоў і бяднейшых сялян старэйшага ўзросту (юнацкага),

да паступленьня ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Вячэрнія агульна-адукацыйныя школы для малапісьменных, школы рабочае моладзі і школы дарослых павышанага тыпу. Гэтыя школы ставяць сваёй мэтай падвышэньне агульна-адукацыйнага, культурнага і палітычнага ўзроўню рабочых. Фабрычна-заводзкае вучнёўства (школы ФЗВ), мэтавай устаноўкай якіх ёсьць наданьне падросткам належнае вытворчае кваліфікацыі і агульна-адукацыйных тэхнічных ведаў згодна запатрабаваньняў пэўнае фабрыкі ці заводу. І вячэрняя профтэхасьвета для дарослых рабочых і моладзі; розныя тыпы профтэхкурсаў, што ставяць на мэце падвышэньне кваліфікацыі дарослых рабочых і моладзі і наданьне апошнім тэарэтычных ведаў па спэцыяльнасьці і наогул зьвязаных з умовамі працы пэўнае галіны вытворчасьці.

У адносінах акадэмічнай пасьяховасьці студэнтаў рабфаку мы маем бязумоўна шэраг дасягненьняў. Адсутнасьць у БССР тэхнічных вышэйшых навучальных устаноў, куды галоўным чынам імкнуцца паступіць асобы, што скончылі рабфакі, з рабочых, а таксама адсутнасьць належнага рэгуляваньня паступленьня апошніх у ВНУ РСФСР спрыяла таму, што за апошнія гады ў вышэйшых навучальных установах БССР паступіла толькі блізка паловы скончыўшых беларускія рабфакі, астатнія-ж паступілі ў ВНУ РСФСР. *Наогул трэба сказаць, што рабфакі з асноўнай мэтай, якая была пастаўлена перад імі, а менавіта зьяўляцца сродкам для падрыхтоўкі рабочых і бяднейшых сялян у ВНУ справіліся. З ідэалёгічнага боку, дзякуючы добраму сацыяльнаму і партыйнаму складу студэнцтва, выхаваньне апошняга праводзіцца ў марксыцкім духу.*

За апошнія часы мы бачым вялікі рост сеткі школ рабочае моладзі і школ дарослых павышанага тыпу.

Вельмі шпаркі рост устаноў вячэрняй рабочай асьветы тлумачыцца вялікаю цягаю з боку рабочае моладзі да падняцьця свайго палітычнага, агульна-адукацыйнага і культурнага ўзроўню. Трэба стазаць, што, не ўважаючы на такі шпаркі рост гэтых устаноў, поўнасьцю здаволіць цягу моладзі яны яшчэ ня могуць. Напрыклад, у 1926—27 навучальным годзе з агульнага ліку падаўшых заявы ў вячэрнія школы рабочае моладзі было прынята толькі 60 проц., астатнім было адмоўлена, бо ня мелася больш вакантных месц у школах.

Вячэрнія рабочыя школы павышанага тыпу і школы рабочае моладзі будуюцца над школай малапісьменных, курс навучаньня ў іх 3 гады. Школа павышанага тыпу дае веды за курс 7-годкі, а школа рабочае моладзі за 5 клясаў 7-годкі. Матар'яльнае становішча школ павышанага тыпу і школ рабочае моладзі нездавальняючае і водпуск сродкаў на навучальную частку складае ў сярэднім 1 руб. 20 кап. на вучня.

Сацыяльны склад вучняў вячэрніх школ рабочае моладзі і школ дарослых павышанага тыпу складае 65 проц. рабочых, астатнія—служачыя і сяляне. Трэба адзначыць, што ў адносінах палепшаньня сац. складу гэтых школ прыдзецца многа зрабіць з тэй мэтай, каб яны сапраўды зьяўляліся школамі рабочае моладзі і дарослых рабочых.

Пачынаючы з 1923—24 г., рост сеткі ўстаноў прафтэхадукацыі і колькасьць у іх вучняў ідзе шпаркім тэмпам.

Асабліва ён расьце за апошнія гады, калі наша гаспадарка і дзяржаўны бюджэт усё мацнее і мацнее, напрыклад: тэхнікумы ў 1923—24 г. абыходзіліся ў 148.000 руб., а ў 1927—28 г. у 1.741.000 руб. Профшколы ў 81.000 руб., а ў 1927—28 г. у 661.000 руб. Няроўнае разьвіцьцё сеткі прафшкол і тэхнікумаў тлумачыцца арганізацыяй з першых гадоў рэвалюцыі шэрагу тэхнікумаў і школ не прыстасованых да патрэб народ-

нае гаспадаркі. Рост за апошнія гады ідзе больш паступовым тэмпам, але-ж у асноўным увязаны з патрэбамі прамысловасьці і асноўных галін народнае гаспадаркі. У мэтах сапраўднае пралетарызацыі ўстаноў прафтэхнічнае асьветы дзяржава траціць вялікія сродкі на матар'яльную забясьпечанасьць пралетарскага складу слухачоў. Не гаворачы аб выдатках на ўтрыманьне інтэрнатаў і сталовак студэнтаў, толькі на стыпэндыі траціцца ў тэхнікумах 496.298 руб., а ў прафшколах—160.299 руб. (матар'ялы за 1927—28 год). Процант забясьпечанасьці стыпэндыямі студэнтаў па тэхнікумах дасягае ў сярэднім 50 проц., а па прафшколах—60 проц.

У 1927—28 навучальным годзе на Беларусі маецца 6 школ фабзав. вучнёўства з агульным лікам вучняў 300 чал. (сюды не ўваходзяць 6 школ чыгуначнікаў). Школы ФЗВ ахопліваюць наступныя галіны прамысловасьці: паліграфічную, скураную, ільнапрадзільную, лесапільную і папяровую. Што датычыць матар'яльнага становішча, дык яно відаць з таго, што на кожнага вучня ў год у сярэднім прыпадае 155 р., а ў месяц 13 руб. без зарплаты.

Усяго на Беларусі на прамысловасьці ВСНГ у броні налічваецца 1369 чал., такім чынам лік падросткаў-бранёвікаў, якія навучаюцца ў школах ФЗВ, складае 17 проц. у той час, як па РСФСР школамі ФЗВ ахоплена 40 проц. падросткаў, якія лічацца ў броні. Адсюль можна зрабіць вывад, што школы ФЗВ па Беларусі пашыраны слаба. Разам з аб'ектыўнымі ўмовамі, што перашкаджаюць разгортваньню школ ФЗВ, маюцца і суб'ектыўныя прычыны з боку гаспадарчых органаў, якія яскрава вызначыліся ў апошнія гады, накіраваныя да зачыненьня існуючых школ ФЗВ.

Ня вызначылася пытаньне аб існаваньні школ; цяжкае матар'яльнае становішча апошніх вельмі дрэнна адбіваецца на ўсім працэсе іх навучаньня. Не ўважаючы на гэта, кваліфікацыя вучняў на вытворчасьці з году на год усё больш павышаецца. Сучаснае становішча школ ФЗВ па прамысловасьці ў адносінах іх абсталяваньня, забясьпечаньня належным інструктарскім і пэдагагічным пэрсаналам і пастаноўкі вытворчага навучаньня трэба прызнаць зусім нездавальняючым. Большасьць школ ФЗВ не прыстасавана для падрыхтоўкі патрэбных кваліфікацый прадпрыемству і патрабуюць рэарганізацыі з мэтаю больш цеснае ўвязкі іх з запатрабаваньнямі прамысловасьці ў кваліфікаванай рабочай сіле. Для прадпрыемстваў, якія будуюцца, патрэбен добра кваліфікаваны, тэхнічна адукаваны культурны і грамадзка-палітычна разьвіты рабочы, такі рабочы, які добра разумее ўвесь працэс вытворчасьці, які зьяўляецца гаспадаром на прадпрыемтве. Задачу выхаваньня такога рабочага можа выканаць толькі фабзавуч, пры добрай пастаноўцы ў ім справы, бо толькі ён ёсьць асноўнаю формаю сацыялістычнае рэарганізацыі юнацкае працы моладзі ў СССР.

Вячэрняя профтэхнічная асьвета пашырана на Беларусі вельмі слаба. Усяго па вестках НКА існуе 6 індустрыяльных прафтэхкурсаў. Прычынаю гэтага становішча трэба лічыць неяскравасьць пытаньня ў адносінах утрыманьня курсаў (ВСНГ адмаўляецца ад іх утрыманьня, а НКА на бюджэт не бярэ) і незацікаўленасьць, галоўным чынам, гаспадарчых органаў у арганізацыі гэтых курсаў, адсутнасьць плянаў па іхнай арганізацыі і г. д. На бліжайшае 5-годзьдзе вызначаецца пашырыць гэтую сетку профтэхрабасьветы, якая павінна ахапіць пад 10.000 рабочых мас.

За апошнія два гады праароблена вельмі шмат клапатлівае работы як у справе сапраўднага прыцягненьня мас рабочае моладзі да ўдзелу ў сацыялістычнай стройцы нашае гаспадаркі, гэтак і па ахове эканаміч-

ных, матар'яльна-бытавых умоў рабочае моладзі. Вось прыблізна як абстаіць справа з адукацыяй моладзі.

Найбольшы процант моладзі, ахопленае прафсаюзамі, падае на прамысловую групу саюзаў і саюз сельска-гаспадарчых рабочых. У агульнай пастаноўцы пытаньня аб прафсаюзах і рабочай моладзі за апошні час, адным з дасягненьняў трэба лічыць тое, што работа сярод моладзі не вызначаецца з агульнай прафработы, а становіцца яе часткаю. Шэраг прадстаўнікоў камсамолу ў праўленьні саюзаў цяпер працуе на адказнай праф. рабоце сталымі работнікамі.

Асноўная наша задача цяпер заключаецца ў тым, каб замацаваць пазіцыі моладзі, дасягнутыя ў прафарганізацыях. Каб моладзь была актыўнай і наведвала агульныя сходы рабочых, каб яна сваёй энэргічнай работай палепшыла і ажыцьцявіла працу вытворчых камісій і нарад, наогул усе органы рабочае клясы.

## II

Для характарыстыкі таго, наколькі рабочая моладзь ахоплена ЛКСМБ, прывядзем лічбы аб тым, якое мейсца яна займае ў сучасны момант у агульным складзе КСМ і якое мейсца займала два гады таму назад:

| Тэрмін | Усяго сяброў ЛКСМБ | | З іх рабочых | |
|---|---|---|---|---|
| | Абсалютн. | % | Абсалютн. | % |
| На 1-I—26 г. . . . | 39377 | 100 | 11997 | 30,5 |
| На 1-I—27 г. . . . | 60329 | 100 | 19238 | 31,9 |
| На 1-I—28 г. . . . | 59870 | 100 | 19734 | 33,0 |
| Прырост за 2 г. . . | 20493 | 52,0 | 7737 | 64,5 |

Калі ўзяць лічбы аб месцы, што займае рабочая моладзь у фактычным росьце арганізацыі (сюды не ўваходзяць лічбы па Менскай арганізацыі), дык убачым, што за апошнія 2 гады ўсяго прынята 19.098, з іх рабочых 5.651.

З лічбаў відаць, што калі ЛКСМБ за 2 гады павялічыў свае шэрагі на 52%,—дык лік рабочых, перавышаючы агульны прырост арганізацыі на 12,5%, павялічыўся на 64,5% (ці ў абсалютных лічбах на 7737 чал.), пры чым у арганічным росьце арганізацыі за гэтыя два гады багата палепшылася становішча на карысьць рабочых за кошт сялян і саматужнікаў: гэтак у 26 г. рабочыя ў агульным росьце арганізацыі мелі 26 9%, а ў 27 г. ужо 32,9%. Дзякуючы шпаркаму тэмпу росту рабочых за агульны рост арганізацыі, рабочыя па сваёй удзельнай вазе займаюць цяпер большае мейсца ў складзе ЛКСМБ, чым гэта было 2 гады таму назад: удзельная вага рабочых узьнялася з 30,5% на 33%.

Каб паказаць як ЛКСМБ пасьпяхова выконвае задачу аб уцягненьні асноўных кадраў рабочае моладзі ў свае шэрагі, а таксама і які ён мае палітычны, ідэёвы ўплыў на гушчу рабочае моладзі, праглядзім лічбы ахопу комсамолам Беларусі рабочае моладзі, а таксама моладзі, якая ўцягнута ў кастрычнікаўскі заклік. Па выбарачнаму ма-

тар'ялу агляду 40 прадпрыемстваў агульны процант ахопу ЛКСМБ рабочае моладзі на 1-1—28 г. 62,5%, у гэтых 40 прадпрыемствах рабочае моладзі знаходзіцца 5 473 чал., з іх комсамольцаў 3.367 чал.

Калі браць паасобныя прадпрыемствы, дык матар'ялы паказваюць, што па частцы з іх процант ахопу перавышае сярэдні, напрыклад: па Галоўных Гомельскіх майстэрнях Заходняе чыгункі—86,7% (339 чал.); па Палесдруку—93,5% (110 чал.); на заводзе „Пролетары“, Гомель—77,6% (139 чал.); на заводзе Мэгпром № 3, Віцебск—66,3% (160 чал.); па Дняпроўскай мануфактуры—70% (287 чал.); на заводзе „Пролетары“, Ворша—95%.

Павялічэньню колькасьці рабочых у організацыі садзейнічаў кастрычнікаўскі заклік, у выніку якога было прынята ўсяго 1917 чал., з якіх 1698 чал.—88,6% падае на рабочую моладзь.

Такім чынам, на падставе пададзеных лічбаў можна зрабіць зусім правільны вывад, *што: ЛКСМБ у асноўным з посьпехам выконвае пастаўленую перад ім партыяй задачу аб заваёве на свой бок і ўцягненьні ў свае шэрагі асноўных кадраў рабочае моладзі.* Лічбы яскрава паказваюць, што асноўныя кадры рабочае моладзі політычна і ідэёва заваёваны і ідуць за КСМ і партыяй.

Аднак, разам з станоўчымі бакамі ў сэнсе ўплыву ЛКСМБ на гушчы рабочае моладзі патрэбна асабліва падкрэсьліць, што камсамол Беларусі далёка яшчэ ня выканаў задачы аб 100% ахопе рабочае моладзі сваімі шэрагамі і поўным ідэёва-палітычным уплыве на ўсю рабочаю моладзь. Прычым па больш буйных прадпрыемствах, на што асабліва важна зазначыць, уплыў і ахоп рабочае маладаі куды меншы, чым па дробных прадпрыемствах і, галоўным чынам, по такіх галінах прамысловасьці, як ільнапрадзільная, шкляная, запалкавая і папяровая (яны спэцыфічны і займаюць вялікае мейсца ў прамысловасьці БССР).

Так на ільнапрадзільнай ф-цы „Двина“ ахоп рабочае моладзі камсамолам дасягае толькі 50% (усяе моладзі 700 чал.); на запалкавай ф-цы „Везувий“ ахоплена 42,4% (моладзі 460 чал.); на гуце „Коминтерн“, Бабруйск—23,6% (моладзі 157 чал.); на гуце „Труды“, Полацак—53,3%; на папяровай ф-цы „Гэрой працы“—61,3% (усяе моладзі 375 чал.); на папяровай ф-цы „Чырвоная Зорка“, Віцебск—48,9%; на тэкстыльнай ф-цы „Карл Маркс“—36% (моладзі 216 чал.) і на Віцебскім вузьле МББ Чыгункі—52% (моладзі 346 чал.).

Асноўнымі прычынамі слабага ўплыву і ахопу рабочай моладзі ЛКСМБ па вышэй названых прадпрыемствах (акром такіх прычын як: нізкі палітычны і культурны ўзровень рабочае моладзі ў параўнаньні з астатнімі групамі рабочае моладзі, значныя пласты рабочае моладзі прышоўшыя нядаўна ў вытворчасьць з вёскі, мястэчку і гораду—запалкавая, шкляная,—і не пасьпеўшыя пераварыцца ў пралетарскім катле, значная колькасьць дзяўчын-работніц, якія менш ахоплены КСМ і якіх больш цяжка ўцягваць у КСМ) зьяўляюцца:

Слабое прыстасаваньне культурна-масавай і эканамічнае работы да запатрабаваньняў рабочае моладзі, інакш кажучы, сыстэма і мэтады работы ячэек і калектываў КСМ яшчэ разыходзяцца з запатрабаваньнямі моладзі, пры чым па вышэй названых прадпрыемствах, як і па ўсіх, праводзімая работа не прыстасавана да розных пластоў рабочае моладзі (кваліфікаванай часткі дарослай, нядаўна прышоўшай у вытворчасьць з вёскі і мястэчка, дзяўчын і г. д.), чым вытворчыя арганізацыі.

Адносна меншая эканамічная забясьпечанасьць рабочае моладзі гэтае групы прадпрыемства: дрэнныя жыльлёвыя, матар'яльна-бытавыя ўмовы і адсутнасьць прыстасаваных культурных установ (клюбаў і

памяшакньняў), дзе-б можна было праводзіць культурна-масавую работу сярод рабочае моладзі.

III

Разам з станоўчымі фактамі, мы наглядаем шэраг недахопаў у нашай палітычнай асьвеце рабочай моладзі. Ня кажучы пра станоўчасьць работы палітшкол у асноўным з адмоўных бакоў можна характарызаваць наступным: недастатковая лёгічная чарговасьць і сувязь у пытаньнях, якія разглядаюцца; недастатковае скарыстоўваньне бягучага палітычнага моманту для падцьверджаньня вывучаемае тэорыі. Матар'ялы аб лічбовым складзе наведваньня палітшкол сьведчаць аб значнай цякучасьці складу; так, напрыклад: у леташнім навучальным годзе Менская палітшкола пры адчыненьні лічыла 342 чалавекі, а к канцу—146 чал., тое самае мы можам наглядаць і па іншых школах.

За апошні час мы хоць і маем узмацненьне культурна-масавае работы, дапасаваньне новых мерапрыемстваў па лініі падняцьця культурнага ўзроўню і арганізацыі культурнага адпачынку моладзі, але гэта ня можа здаволіць тыя патрэбы, якія маюцца сярод асноўных кадраў моладзі. Тыя формы каляктыўнага наведваньня тэатраў, чытка лекцый, дыспуты навакол пытаньняў кіно і паасобных кіно-фільм ня могуць служыць яшчэ формай задавальненьня патрэб моладзі.

За апошні час у шэрагу арганізацый прышчапіліся конкурсы і спаборніцтвы розных відаў: фізкультурных, вайсковых, вытворчых, шашачна-шахматных і інш., вытворчыя вечары з конкурсамі на хутчэйшае выкананьне вытворчага заданьня, таксама не задавальняюць інтарэсы моладзі. Такія мерапрыемствы праводзімыя летам—экскурсіі, іншыя віды турызму, масавыя экскурсіі рабочай моладзі ў Ленінград і Маскву, праводзімыя клюбам „КІМ“ навуковыя лекцыі для рабочае моладзі—гэта таксама не задавальняла патрэб моладзі, хаця зацікаўленасьць была вельмі вялікая з боку рабочае моладзі гэтымі відамі і формамі масавае работы.

Практычныя вынікі ў галіне беларусізацыі да цяперашняга часу мы можам падвесьці наступныя: вывучэньне беларускае мовы пераважнай часткаю кіраючага актыву і камсамольцаў, значны перавод на беларускую мову выхаваўчае і агітацыйнае работы і правядзеньне значнае работы ў арганізацыі па растлумачэньню сутнасьці і асноў нац. палітыкі партыі. Аднак тэмп беларусізацыі і масавае работы і ўжываньня беларускае мовы ў быту далёка недастатковы. У даным выпадку трэба адзначыць існуючую да гэтага часу пасыўнасьць, нават і на прадпрыемствах з пераважным складам беларусоў, што ў асобных выпадках гэта перарастае ў факты варожых адносін да правядзеньня беларусізацыі.

У зьвязку з агульнаю пастаноўкаю пытаньня аб нац. палітыцы мы можам наглядаць поўнае адсутнічаньне прац на роднай мове сярод польскае рабочае моладзі на фабрыках і заводах (гута „Кастрычнік“, „Камінтэрн“, „Домбаль“, папяровая ф-ка „Спартак“). Гэта вылівалася ў форму ненармальных зьявішч, якая зьвязана з нацыяналістычнымі перажыткамі: жаданьне рабочых-палякаў арганізаваць свою польскую калёну на кастрычнікаўскай дэманстрацыі ў Шклове, уплыў ксяндзоў і г. д.

З паказаным вышэй мы маем некаторыя посьпехі сярод яўрэйскае рабочае моладзі. Цяпер мы маем уцягненьне яўрэйскае моладзі ў буйную і сярэднюю дзяржаўную прамысловасьць, а таксама і ў прамысловасьць саматужную. Таксама маем некаторае палепшаньне экана-

мічнага становішча асноўных груп мястэчковае працоўнае моладзі ў сувязі з агульным гаспадарчым ростам краіны.

Лічбы сьведчаць аб узрастаньні проценту яўрэйскае рабочае моладзі ў дзяржаўнай прамысловасьці. Гэта ставіць перад намі пытаньне аб яшчэ большым узмацненьні работы па ўцягненьню яўрэйскае моладзі ў буйную дзяржаўную прамысловасьць (асабліва на чыгунцы, дзе да рэвалюцыі зусім ня было яўрэйскіх рабочых). Адначасова з агульным працэсам арганізацыі яўрэйскага насельніцтва трэба ставіць пытаньне адносна прыцягненьня часткі моладзі да земляробства ў самой Беларусі, аддаючы перавагу арганізацыі сельска-гаспадарчых калектываў і калектывізацыі. Трэба пераламаць тыя настроі, якія падчас існуюць сярод часткі мястэчковае яўрэйскае моладзі аб нежаданьні ісьці працаваць у сельска-гаспадарчыя калектывы і наогул на зямлю.

*Як вынік, у вагуле мы можам лічыць адносіны рабочае моладзі да мерапрыемстваў партыі па нац. палітыцы ў асноўнай сваёй масе сьвядомымі. Але гэта аднак ня выключае наяўнасьці шэрагу адмоўных зьявішч, як: антысэмітызм, пасыўныя адносіны да беларусізацыі, праяўленьне шавінізму як вялікадзяржаўнага, гэтак і беларускага, што галоўным чынам груптуецца на непаразуменьнях сутнасьці нацыянальнае палітыкі партыі.*

* * *

У жыцьцё ідуць зусім новыя людзі—моладзь, якая яшчэ расьце. Моладзь, якая ня ведае мінулага капіталістычнага жыцьця, яна не знаёма ні з сваявольствам царскага вурадніка, ні з уціскам капіталістычнае фабрыкі, з яе цяжкім 10—12-гадзінным рабочым днём, з яе сыстэмай штрафаў, незнаёма і нават з эпохай грамадзянскае вайны.

Гэтая моладзь, якая ня мае належнага рэвалюцыйнага загартаваньня і часам палітычна няпісьменная, можа вельмі лёгка страціць пэрспэктыву сацыялістычнага нашага будаўніцтва, падпасьці пад уплыў варожых рабочай клясе элемэнтаў, актыўнасьць і нагласьць якіх у сувязі з абвастрэньнем клясавае барацьбы ўзрасла. Моладзь яшчэ не заўсёды ясна, чотка і правільна разумее сутнасьць нашага шляху да сацыялізму, сваё мейсца і абявязак удзелу ў гэтым будаўніцтве. Падругое, мы наглядаем з боку паасобных груп камсамольцаў і актывістых недаацэнку значэньня палітычнае асьветы і тэорыі, што падчас на шкоду палітычнай тэорыі і жыцьця мы займаемся вузкалобым дзяляцтвам у сваёй рабоце.

Вось чаму зараз так войстра становіцца пытаньне адносна палітычнага выхаваньня моладзі, камсамольцаў і ў першую чаргу нашага актыву.

Палітадукацыя ў надыходзячым навучальным годзе будзе будавацца на падставе пасьлядоўнага ажыцьцяўленьня поўнай дабраахвотнасьці у выбарах форм палітадукацыі, *пры абавязковасьці для кожнага камсамольца сталага вывучэньня рэвалюцыйнай тэорыі.* Такое рашэньне вынес апошні пленум ЦК ЛКСМБ. Разнастойнасьць форм палітвучобы дае магчымасьць кожнаму камсамольцу выбраць сабе форму вучобы па „душы“, як кажуць, якая б адпавядала яго палітычнаму і культурнаму ўзроўню.

Пасіляючы работу па задавальненьню інтарэсаў асноўных мас рабочае і сялянскае моладзі разгортваючы разнастойную форму палітвучобы, трэба дабіцца усямернага палепшаньня якасьці працы камсамольскіх палітшкол. Таксама трэба паставіць перад парт. арганізацыяй пытаньне пры намячэньні сеткі нізавой і сярэдняй парт. асьветы, прадугледзіць магчыма больш поўнае ўцягненьне ў партсетку камсамольцаў і ў першую чаргу *камсамольскага актыву.*

Гэта нам зараз патрэбна, як паветра.

## IV

Зразумела, што ва ўмовах надзвычайна складаных абставін, што ва ўсёй працы пры абвастрэньні клясавай барацьбы ў краіне як на эканамічным, так і на ідэалёгічным фронце і г. д. у камсамоле маюць мейсца праяўленьні хваравітыя зьявішчы, якія ідуць: сярод рабочай моладзі па недастатковым разуменьні некаторымі камсамольцамі, маладымі рабочымі ўсяе сутнасьці сацыялістычнае нацыяналізацыі вытворчасьці. Адгэтуль моманты праўленьня вузка-цэхавых настрояў, хвасьцізму, асабліва за апошні час у сувязі з гаспадарчымі цяжкасьцямі. На вёсцы хваравітыя зьявішчы выяўляюцца і ўжо выявіліся ў шэрагу ячэек пакрыўленьнем клясавае лініі імі пры правядзеньні хлебазагатозак і асабліва самаабкладаньня—моманты пасыўнасьці ў рабоце, а таксама выпадкі актыўнага супрацьдзейнічаньня, нежаданьня падтрымаць лінію партыі. Поўна якія ячэйкі скрывілі лёзунг „удзелу ў гаспадарчым будаўніцтве“ і пайшлі па лініі ўмацаваньня ўласных гаспадарак, ня вырашаючы пытаньняў вытворчага каапэраваньня і калектывізацыі сельскае гаспадаркі. У карэньнях усіх гэтых балючых зьявішчаў ляжыць грунтоўная прычына слабасьці нашае работы па клясавым перавыхаваньні сялянскае моладзі. Мы наглядаем яшчэ нізкі палітычны ўзровень камсамольцаў і напор дробна-буржуазнага асяродзьдзя.

Асноўнае мейсца ў балючых зьявішчах займае п'янства, хуліганства і шэраг іншых бытавых перакручваньняў, моманты палавое распуснасьці і нетаварыскіх адносін да дзяўчат. З прычыны яшчэ слаба разгорнутае самакрытыкі ў шэрагах КСМ і рабочае моладзі, маруднага тэмпу работы па перабудове ўсяе сыстэмы саюзнага кіраўніцтва і дзейнасьці камсамолу на грунце дабрахвотніцтва і творчае ініцыятывы мас камсамольцаў і моладзі—маюць мейсца факты бюракратычнага закасьцяненьня і адрываньня актыву ад мас камсамольцаў (Віцебск, Глуск, Каралін) і як вынік гэтага паслабленьня ў гэтых арганізацыях дысцыпліны, налічча „мёртвых душ“ і адрыў ад рабочае моладзі. Напрыклад. *У Віцебскай, пралетарскай, у асноўным здаровай, моцнай, бальшавіцка-вытрыманай камсамольскай арганізацыі мелі рост хваравітыя зьявішчы разлажэньня паасобных членаў ЛКСМБ і паасобных актывістаў,* вынікам чаго пасьледвала рашэньне Бюро ЦК ЛКСМБ аб зьняцьці з кіраўнічае работы амаль усяго складу Бюро Віцебскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.

Што-ж мы там мелі? Тут нам прыйдзецца зьвярнуцца да фактычнага матар'ялу. Трэба сказаць, што найвялікшае мейсца сярод хваравітых зьявішч у арганізацыі займалі *выпадкі п'янства з хуліганскімі выхадкамі, дэбошам, скандаламі і бойкай.* Так, з 127 выключаных за апошні час з шэрагаў ЛКСМБ—58,3 проц. прыпадае на выключэньне за п'янства і яго вынікі (дэбош, бойка, хуліганства). П'янства мела мейсца ў паасобных вытворчых ячэйках, сярод паасобных яе членаў у гарадзкой арганізацыі. П'янкаю заражаны паасобныя члены часткі вясковых ячэек і, галоўным чынам, у районах найбольш эканамічна моцных (Ліозно, Высачаны, Бешанковічы, Віцебск). Вось выпадкі.

Па гарадзкой арганізацыі.

У клюбе паўночна-заходняга чыгуначнага вузла камсамолец за тое, што ня пусьцілі яго п'янага ў клюб, выхватвае браўнінг і з пагрозай страляньня ўваходзіць у клюб, зьбівае некаторых таварышоў. З камсамольцы ў п'яным відзе заходзяць у польскі клюб, разьбіваюць вокны і пачынаюць бойку. На МББ чыг. 2 камсамольцы на глебе рэўнасьці парэзалі адзін аднаго нажамі. На шчацінпай ф-цы 2 камсамольцы рас-

пачалі бойку цаглінамі. Яч. П. З. Дарог, камсамолец Радзішчэўскі выключаны за п'янства і хуліганства. У гэтай-жа яч. знаходзім такую пастанову:

„У віду таго, што за т. Крыпікам і раней прыкмячалась недысцыплінаванасьць (ненаведваньне сходаў, няўплата адлікаў, невыкананьне нагрузак, бойка ў п'яным відзе ў сям'і), цяпер парэзаў жанчыну,—выключыць".

На ільно-прадзільнай ф-цы „Двина" камсамолец Сувараў выключаны за п'янства. Пры затрыманьні і вобыску знойдзены кісьцень.

На вёсцы.

У Крынкаўскай яч. камсамолец Жэланаў выключаны за п'янства і разлажэньне актыву, а таксама за ўдзел у рабаваньнях.

Сіманаўская яч. (Сураж). 3 камсамольцы наладжваюць п'яныя дэбош на вечарынцы.

Пышнякоўская ячэйка (Сураж) Зьмітрок Якук выключаецца, як непапраўны хуліган і п'яніца. Падварыцкая яч. (Сенно) 2 Кісьляковы выключаны за забойства 2 грамадзян. Забойства зрабілі будучы п'янымі.

Па даным канфліктнай камісіі АК ЛКСМБ з гарадзкіх раёнаў міліцыі ў АК паступалі што тыдзень у сярэднім 7—8 заяў аб затрыманьні п'яных камсамольцаў. Маецца факт, калі быўшы сэкратар 2-га (вытворчага) Райкому КСМ т. Мешка быў затрыманы п'яны міліцыяй, цяпер ён зьняты з камсамольскае работы і пасланы на вытворчасьць.

Праяўленьне палавое распуснасьці і іншых анты-моральных зьявішч, праяўляюцца хоць і ў нязначнай меры, але і тыя выпадкі сыгналізуюць нам, што неабходна павесьці супроць гэтага барацьбу самым рашучым чынам.

Гэтыя факты толькі намі заўважаны, а колькі іх яшчэ нявыкрыта?

*Усе гэтыя факты гавораць нам аб тым, што яшчэ поўна някультурнасьці сярод нашае моладзі. Што яшчэ часта зьдзекуемся з жанчын працаўніц. Што яшчэ шмат у нас мяшчанства ў быту і г. д. і г. д.*

Вынікам чаго мы маем такую суму фактаў па Віцебскай арганізацыі? Вынікам чаго ў нас яшчэ ёсьць шмат выпадкаў п'янства і як яго рэзультаты—хуліганства, дэбош і г. д. і факты праяўленьняў палавое распусты?

*Мы ўсё гэта маем толькі таму, што былое кіраўніцтва якое зьнята з працы ў ліпені м-цы, былы склад кіруючых работнікаў ня змог сваечасова папярэдзіць гэтых зьявішч, бо частка з актыву была сама ў гэтых справах умешана, была,—„падмочана". Мы ўсё гэта маем у такім памеры таму што самі паасобныя актывістыя падавалі дрэнныя прыклады; што паасобныя актывістыя ў тым ліку і члены АК ЛКСМБ п'янствавалі, рабілі неэтычныя ўчынкі ў быту; што была слабая сувязь вяршка акруговага актыву з рабочаю часткаю саюзу; што была зусім слаба разгорнута ў арганізацыі самакрытыка, як ітог недастатковага правядзеньня ўнутрысаюзнае дэмакратыі; што была пастаўлена нездавальняюча ў арганізацыі і культурна-масавая работа, асабліва ў фабрычна-вытворчых ячэйках; што адсутнічала з боку АК глыбокае вывучэньне гэтых хваравітых зьявішчаў у бок іх зьнішчэньня і папярэджаньня, вынікам чаго зьяўлялася рэагаваньне на ўжо адбыўшыя факты. Была недастатковая барацьба з хваравітымі зьявішчамі, мяккасьць з боку камітэту да т. т. з актыву, якія рабілі праступкі ўжо некалькі разоў; было слабае кіраваньне камсамольскаю организацыяй з боку партыйнай, асабліва ў пытаньнях барацьбы з хваравітымі зьявішчамі.*

Вось, прыкладам, які вынік мы можам падвесьці з сэнсу так званае Віцебскае „Справы“. Адсюль зразумела, якія паўстаюць задачы перад камсамолам у справе перастройкі ўсяе работы пановаму.

## V.

Пэрыяд партыйнага разьвіцьця і сацыялістычнага будаўніцтва пасьля 15-га зьезду УсеКП праходзіць пад лёзунгам самакрытыкі. Ісьці ўперад, паляпшаць сваю работу, камсамол у далейшым зможа толькі шляхам разгортваньня самакрытыкі ў сваіх шэрагах і крытыкуючы свае недахопы.

Крытыка і самакрытыка ў нашым разуменьні як быццам адно тое самае, але самакрытыкай мы яе называем затым, што рабочая кляса крытыкуе самую сябе, крытыкуе работу, промахі свае дзяржавы, сваё будаўніцтва, свае органы. Мы гэтым кажам, што крытыкаваць свае памылкі, сваё будаўніцтва мы абы каму і ворагам рабочае клясы не дазволім. Зразумела, што самакрытыка ёсьць не сама мэта, а сродак, каб лепш прасоўвацца ўперад. Задачы самакрытыкі—зрабіць нас больш моцнымі, зьнішчыць і выкрыць усе нашы недахопы, ускрыць нашага ворага і г. д. „Лёзунг самакрытыкі ня ёсьць нешта мімалётнае, хутка праходзячае. Самакрытыка ёсьць важны мэтад, бальшавіцкі мэтад выхаваньня кадраў і рабочае клясы наогул у духу рэвалюцыйнага разьвіцьця“ (Сталін). У справе разгортваньня самакрытыкі, асабліва ў нізох камсамолам яшчэ зроблена мала. Асабліва цяпер пры абнаглеласьці нашага клясавага ворага, на разгортваньне сустрэчнай хвалі самакрытыкі зьнізу намі павінна быць прызначана вялікая ўвага. Бо разгортваньне самакрытыкі ў нашых вытворчых ячэйках садзейнічае ўзмацненьню дысцыцпліны, актыўнасьці і інцыятывы мас, яна дапаможа рабочай моладзі змагацца з недахопамі ў сваіх уласных шэрагах, супроць парушэньня вытворчае дысцыпліны, п‘янства, разлажэньня ў быту, прагулаў, нядбайнымі адносінамі да варштатаў і інструманту і г. д.

У вёсцы разгортваньне самакрытыкі дапаможа разьвіць актыўнасьць камсамольскіх ячэек у барацьбе з іскажэньнямі клясавай лініі партыі і саюзу, у барацьбе супроць выпадкаў „смычкі“ камуністаў і камсамольцаў з кулацкімі і інш. варожымі элемэнтамі, у барацьбе з уплывам кулацтва на серадняка і бедняка, у барацьбе з самавольствамі і недахопамі нашага нізавога апарату.

Разам з ярасным разгортваньнем бальшавіцкае самакрытыкі ў нашых камсамольскіх шэрагах, нам як маладзежнай арганізацыі рабочае і сялянскае моладзі таксама важным ёсьць, каб моладзі паказваць і станоўчыя бакі жыцьця і нашага сацыялістычнага будаўніцтва; каб паказам толькі адмоўных бакоў не параджаць пэсымызму і ўпадніцтва, *а выхоўваць энтузіястаў, бадзёрых сілаю і духам будаўнікоў, разьвіваць веру ў перамогу і г. д. Трэба рабіць гэта, увязваючы выкананьне гэтых задач з станоўчай творчасьцю сацыялістычнага будаўніцтва.*

* * *

Творчая работа нашае камуністычнае партыі за апошні час праходзіць ва ўмовах абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяй у краіне. Узмацненьне пазыцыі сацыялізму, далейшы рост нашае прамысловасьці пасьлядоўна-сацыялістычнага тыпу і энэргічнае будаўніцтва саўгасаў і калгасаў у вёсцы, узьняцьце с.-гасп. на базе яе каапэраваньня—выклікаюць узрастаньне актыўнасьці і нагласьці з боку клясавага ворага. Ён імкнецца працівадзейнічаць усялякаму росту сацыялістычнага сэктару народнае гаспадаркі як у горадзе, так асабліва ў вёсцы. Адгэтуль

*камсамолу як бліжэйшаму памочніку нашай партыі цяпер стаіць наперадзе разгарнуць вялізарную работу па згуртаваньню пралетарскіх сіл у краіне, каб энэргічным удзелам ва ўсіх галінах будаўнічае работы садзейнічаць узмацненьню пралетарскае дыктатуры.*

Гэнэральная задача нашае партыі—ёсьць задачаю ўзмацненьня тэмпу індустрыялізацыі краіны, пад'ёму і калляктывізацыі сельскае гаспадаркі, задача рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты краіны. Практычна выконваючы гэтыя задачы, партыя сустрэлася з цэлым шэрагам цяжкасьцяй, што выцякаюць як з адсталасьці ўсяе нашае гаспадаркі, абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяй у вёсцы, таксама і з недахопаў нашага кіраўніцтва і плянаваньня. Гэтыя цяжкасьці пры бурным росьце сацыялістычнага сэктару мелі і маюць уплыў на паасобныя элемэнты нашае партыі і камсамолу і выклікаюць у іх хістаньне, настроі і схільнасьці да ўступак нашым клясавым ворагам. Рэшткі былой троцкіскае апазыцыі спрабуюць выкарыстваць гэтыя цяжкасьці і вядуць ужо наяўна контр-рэвалюцыйную работу.

Ідэалёгічна *дабіваючы* асколкі троцкіскае апазыцыі, трэба лічыць цяпер *галоўнейшаю задачаю ў нашай рабоце барацьбу з праваю, яўна апартуністычнаю небясьпекай, якая заключаецца ў змазваньні клясавае барацьбы, у не жаданьні сварыцца з кулаком, у спробах пераглядзець гэнеральную лінію 15-га зьезду УсеКП(б) на індустрыялізацыю краіны і стрымаць існуючы тэмп індустрыялізацыі.* Гэтая барацьба з правым ухілам ня можа весьціся без пасьлядоўнага засуджэньня ўсялякіх спроб *прымірэнчых адносін да правае небясьпекі з боку паасобных членаў партыі і камсамолу.*

У камсамольскіх шэрагах гэта правая небясьпека маецца і часам праяўляецца: у выпадках супраціўленьня ці пасыўных адносін да лёзунгу партыі аб індустрыялізацыі; у выпадках супраціўленьня і пасыўных адносін да праводзімае партыяй і прафсаюзамі сацыялістычнае рацыяналізацыі прамысловасьці; у бяспрынцыповым дзеляцтве арганізацый і ў адыходу ад актыўнага палітычнага жыцьця; у выпадках пасыўнасьці да праводзімай партыяй работы па арганізацыі беднаты, узмацненьне яе саюзу з серадняком; у выпадках пасыўнасьці, а падчас і выступленьні супроць, у справе правядзеньня наступацельнага руху на капіталістычныя элементы гораду і вёскі, асабліва ў вёсцы на кулака; заява аб тым, што з кулака поўна бяруць, а нічога не даюць; жаль да кулака, які можа перарасьці у спачуваньне і падтрыманьне (што мы падчас бачылі ў моманты правядзеньня надзвычайных мер і самаабкладаньня); у забываньні камсамольцамі задач калляктывізацыі і каапэраваньня сельскае гаспадаркі і ў імкненьні да разьвіцьця гаспадаркі выключна на індывідуальнай аснове і г. д. Каротка гаворачы, правая небясьпека ў камсамоле можа праяўляцца ва ўсіх яе рознастайных выглядах (што ўжо маецца дзе-ні-дзе) *па лініі пакрыўленьня клясавае палітыкі камсамолу.* Адсюль вынік.

Мабілізуючы ўвагу камсамольскіх мас і рабочае моладзі на барацьбу з ухіламі ад правідловае Ленінскае партыйнае лініі, мы павінны аднэй з цэнтральных задач на бягучы момант паставіць: узмацненьне ўдзелу мас моладзі ў гаспадарчым будаўніцтве; барацьбу за моцную вытворчую дысцыпліну, барацьбу з усялякімі хвасьцісцкімі настроямі ў камсамоле, асабліва сярод камсамольскага актыву.

Удзел у грамадзка-гаспадарчым жыцьці, палітычная вучоба і культурная работа ў масах; арганізацыя моладзі навакол КСМ, высоўваньне і кансалідацыя кіруючых пралетарскіх вытрыманых кадраў і г. д.—*наогул цьвёрдае выконваньне генэральнае лініі нашае камуністычнае партыі.*

---

.. Дорахаў.

# Як працуе Заслаўская раённая партарганізацыя

Цэнтральным Камітэтам было праведзена абсьледваньне Заслаўскае партарганізацыі. Абсьледваньне выкрыла шмат буйных, досыць паважных недахопаў у рабоце арганізацыі. Шмат якія з іх уласьцівы ня толькі Заслаўскай, але і іншым нашым раённым арганізацыям. За гэтым азнаямленьне з работаю Заслаўскае партарганізацыі, з памылкамі і недахопамі ў яе практыцы, будзе карысна ўсім раённым партарганізацыям у сэнсе змабілізаваньня іхнае ўвагі на адхіленьні такіх недахопаў у сваёй рабоце.

## I

Заслаўскі раён зьяўляецца прыгранічным. А ад прыгранічнага раёну мы патрабуем значна больш у сэнсе: дасканаласьці работы ўсяго партыйна-савецкага апарату, больш высокага ўзроўню масавае работы, работы з беднатою і батрацтвам, інакш кажучы—больш трывалае сувязі партарганізацыі з масамі, лепшае пастаноўкі культурна-гаспадарчага абслугоўваньня раёну, яснага правядзеньня нацпалітыкі і г. д. Трэба проста сказаць, што за малым ніводнаму з гэтых запатрабаваньняў стан работы Заслаўскае партарганізацыі не адпавядае. Менавіта па гэтых важнейшых вузлавых задачах і галінах работы маем у арганізацыі найбольшую колькасьць недахопаў.

Апрача прыгранічнасьці, трэба ўлічыць яшчэ і некаторыя іншыя асаблівасьці раёну. Работа арганізацыі ўскладняецца налічкам у раёне значнае праслойкі антысавецкага актыву, якая складаецца, у першую чаргу, з досыць саліднае кулацкае групы. Досыць сказаць, што ў раёне лічыцца 411 поўтрудавых гаспадарак, ад якіх урэзваецца 4.528 дзес. зямлі і пад 800 гаспадарак, што карыстаюцца з наёмнае працы. Акром таго, у раёне поўна „былых людзей"—чыноўнікаў, паліцэйскіх і былых „грамадзкіх дзеячоў", якія аселі тут з прычыны выдобнасьці. Значны % пазбаўленых выбарчых правоў. Да гэтага трэба дабавіць актыўную работу папоў, ксяндза і яўрэйскіх клерыкалаў. Пралетарскае базы ў раёне няма, акром групы батракоў і с.-г. рабочых, што налічваецца пад 400 чалавек (дарослых).

У раёне больш за 1.000 чалавек польскага насяленьня. Значная праслойка беларусаў-каталікоў і 610 чал. яўрэйскага насяленьня.

Па эканоміцы—раён ёсьць выключна сельска-гаспадарчым, прамысловых прадпрыемстваў няма, раён слаба зямляўпарадкаваны (12%), шматпольле разьвіта слаба (8,6% ад усяе плошчы).

Усе гэтыя акалічнасьці ўскладняюць работу партарганізацыі. Але гэта зусім ня значыць, што цяжкасьцямі работы можна апраўдаць буйнейшыя прахоны ў рабоце. Наадварот, усе пералічаныя асаблівасьці раёну патрабуюць ад арганізацыі максымальнае дасканаласьці ў

парткіраўніцтве, высокага, напруджанага тэмпу работы, найлепшага арганізаваньня батрацтва і беднаты, стварэньня шырокага бядняцка-серадняцкага актыву,—каб усе гэтыя цяжкасьці перамагчы.

II

Якія дасягненьні можна адзначыць у рабоце Заслаўскае арганізацыі? Дасягненьняў вельмі мала і дасягненьнямі іх можна назваць хіба толькі з вялікім намаганьнем. Можна зазначыць на паздараўленьне работы с.-г. крэдытнае каапэрацыі, колькасны рост малочных арцеляй, узмацненьне работы па дабрабыту вёскі і каапэраваньню беднаты.

Але гэтыя дасягненьні літаральна патаюць у тэй масе недахопаў і прахонаў, што маюцца ў рабоце арганізацыі.

Возьмем *унутранае становішча организацыі*. Арганізацыя колькасна невялікая—90 чалавек (61 чл. і 29 канд.), 30 чал. іх знаходзяцца ў местачковым (раённым) цэнтры. З усяго складу арганізацыі толькі 17 чал. занята выключна на сельскай гаспадарцы. Гэта абцяжарвае ўстанаўленьне патрэбнае сувязі арганізацыі з сялянскаю масаю. Палітычны ўзровень партыйцаў слабы.

Але гэта ў значнай меры кампэнсуецца налічам у раёне моцнае партарганізацыі пагранатраду (157 ч.), якая налічвае ў сваім складзе ня мала добра падрыхтаваных, вытрыманых партыйцаў. Значыць, ад Заслаўскае арганізацыі можна патрабаваць добрае пастаноўкі ўнутрыпартыйнае работы. На справе гэтага няма. Самакрытыка разгорнута вельмі слаба, лёзунг самакрытыкі яшчэ ня ўзяў досыць практычнага праламленьня ў рабоце. Ячэйкі абмежаваліся разглядам адозвы ЦК, але нічога ня была ўжыта для канкрэтызацыі дырэктыў ЦК. Ёсьць пакуль што гутаркі пра самакрытыку, але няма яшчэ самакрытыкі ў паўсядзённай практычнай рабоце. Ёсьць няправільнае вытлумачэньне лёзунгу самакрытыкі. У выніку і цяпер яшчэ наглядаецца ў паасобных партыйцаў боязкасьць выступаць. Кажуць адзін аднаму: „Маўчы, лепш будзе, а то ня туды пападзеш“. Адзін раённы работнік гэтак ахарактарызаваў разгортваньне самакрытыкі ў арганізацыі: „Пра самакрытыку ў нас усё гаворыць сэкратар РК, ён пачынае, ён аднаўляе пытаньне, ён сканчае... а ўсё такі боязна выступаць, боязна, што цябе „абрэжуць“—ёсьць...“

Як вынік слабога разьвіцьця самакрытыкі, у арганізацыі (галоўным чынам сярод камуністаў, што жывуць у мястэчку) разьвіты плёткі, гутаркі за вуглом і г. д. Баба ў значнай ступені адбіваецца на рабоце і перашкаджае згуртаванасьці арганізацыі. Актыўнасьць у арганізацыі заслабая. Буйнейшым недахопам у рабоце ёсьць *адсутнасьць патрэбнае згуртаванасьці партактыву навокал РК*. Райком недаацаніў важнасьці гэтае работы і ня сумеў згуртаваць актыў на практычнай рабоце. Раённыя работнікі так расцэньвалі становішча па гэтым пытаньні:

„У нас няма такое пастаноўкі пытаньня, каб згуртаваць, зьвязаць партыйную масу. Усё гэта робіцца ў парадку кампаній, зьбяруць у РК, накачаюць і пайшлі...“

„Не практыкуецца падсумаваньне вопыту кампаній, якія праводзяцца“...

„Ня было такое нарады, дзе можна было-б падзяліцца сваімі наглядаваньнямі і сумненьнямі“.

„У нас ці сухая афіцыйнасьць, ці—шушуканьне і плёткі, а РК не падумаў пра формы работы з актывам“.

Ня было згуртаванасьці нават у верхавіне бюро РК.

Зьвяртае на сябе ўвагу *вялікая колькасьць хвараватых зьявішчаў* сярод членаў арганізацыі: за год падпала пад партузысканьні 25 чал. Тым часам выхаваўчая работа ў арганізацыі пастаўлена дрэнна. РК вёў змаганьне з хваравітымі зьявішчамі выключна праз меры партузысканьняў, ня прызначыўшы ўвагі пастаноўцы выхаваўчае работы.

*Рост партарганізацыі.* Пытаньне аб росьце арганізацыі, яго рэгуляваньні, аб мэтадах узмацненьня вярбоўкі ў партыю батракоў і беднаты на паседжаньнях РК на працягу году ня разу ня ставілася і не прапрацоўвалася. Таксама і ў ячэйках. Плянамернае работы па вярбоўцы ў партыю ў ячэйках не вядзецца. У шэрагу ячэек існуе погляд, што ўцягваць у партыю няма каго. У райкоме таксама ня было досыць яснае пастаноўкі ў пытаньні росту арганізацыі. Работнікі РК заяўляюць: „асабліва спадзявацца на прыцёк нельга—блізкасьць граніцы прыводзіць да таго, што сярод актывістаў ёсьць боязкасьць уступаць у партыю". Тым часам база для росту арганізацыі маецца: у раёне лічыцца пад 300 дарослых батракоў, 267 членаў саюзу Рабземлес у саўгасах, 268 камсамольцаў, ня кажучы ўжо пра бядняцкі актыў. Рост-жа арганізацыі недастатковы: прынята за год 20 чалавек, з іх 1 батрак, 5 с.-г. рабочых, 12 беднякоў, 1 серадняк, 1 служачы.

*Работа парт'ячэек.* У раёне 7 сельскіх і 1 местачковая ячэйка, пры чым тыпова вясковаю зьяўляецца толькі адна, а рэшта мяшаныя (саўгасы, дзеткалёніі, чыгунка). Падае на вока вельмі нязначны лік сялян ад плуга, пры чым гэтая група вясковых камуністаў ёсьць палітычна найбольш адсталаю і, як правіла, найменш актыўнаю. Гэта абцяжарвае ўстанаўленьне арганічнае сувязі вясковых ячэек з сялянствам. Усё-ж неамаль усе ячэйкі маюць у сваім складзе досыць моцнае, кіраўнічае ядро з 2—3 старых партыйцаў, якія маюць вопыт грамадзка-палітычнае работы. Пры ўмове наладжанага практычнага кіраваньня ад РК, пры правільным складаньні сыстэмы работы, ячэйкі здолелі-б прарабіць вялікую работу па кіраваньню вёскаю. Тым часам *такое сыстэматычнасьці няма ў рабоце ячэек.* Паперш, галоўны цяжар яе кладзецца на актыўнае ядро ячэйкі (3—5 чал.), рэшта-ж партыйцаў у паўсядзённую практычную работу ўцягнуты слаба. Нават унутры бюро ячэек няма сталага разьмеркаваньня: ня вылучаны, напрыклад, апоргі, амаль уся работа кладзецца на сэкратароў ячэек. *Але самым асноўным недахопам у зьмесьце работы ячэек ёсьць адсутнасьць мэтавае, канкрэтнае ўстаноўкі, работа цягнецца ад кампаніі да кампаніі. Ячэйкі распыляюць сваю ўвагу і сілы на поўна задач,* ня выконваючы як сьлед ніводнае. У выніку арганізуючае ўзьдзейнічаньне ячэек на культурна-гаспадарчае жыцьцё вёскі адчуваецца слаба.

Дасюль яшчэ парт'ячэйкі ня сумелі перастроіць, прыстасаваць сваю работу да практычнага ажыцьцяўленьня дырэктыў XV і XI партзьездаў па рабоце ў вёсцы. Практычнае праламленьне гэтых дырэктыў у рабоце ячэек чуецца вельмі слаба. Ячэйкі абмежаваліся прапрацоўкаю рашэньняў XV зьезду ў гуртках і палітшколах. *Ніводная ячэйка не* прапрацавала пытаньня аб практычным ажыцьцяўленьні *гэтых рашэньняў прыстасоўна да ўмоў свайго раёну.*

Пытаньні калектывізацыі, вытворчага каапэраваньня, работы з беднатою і батрацтвам, масавае работы саветаў, работы з беспартыйным актывам вельмі слаба адбіты ў практычнай рабоце ячэек.

Калі ў ячэйках і ставяцца практычныя пытаньні палітычнага і культурна-гаспадарчага жыцьця свайго раёну, дык у большасьці выпадкаў ячэйкі ня ўмеюць улавіць самага галоўнага і намеціць канкрэтныя

мерапрыемствы па палепшаньню пэўнае галіны работы. Гэтак, Старасельская ячэйка, па дакладзе крэдытнага таварыства, не ўважаючы на выяўленыя выпадкі няправільнае выдачы пазычак і іншыя недахопы, выносіць гэткую пастанову: „Зьвярнуць увагу, каб прыказчык прыходзіў у лаўку сваечасова, каб рахункавод зьяўляўся на работу акуратна, зжыць закупку вяпрукоў у мясцовага насяленьня“. У раёне гэтае ячэйкі маецца некалькі малочных арцеляй, якія адыгрываюць вялізарную ролю ў гаспадарчым жыцьці раёну. Самі члены ячэйкі гэтак характарызуюць становішча справы ў малочных арцелях: „арцелі ня хочуць прымаць беднякоў, трымаюць сябе аўтаномна і не жадаюць нікому даваць справаздачы. Заможныя члены арцелі бяруць напавер машыны, атрымоўваюць шмат концэнтраваных кармоў, паляпшаюць сваю гаспадарку, а бедната застаецца ў тупіку. Думка беднаты, што гэтыя арцелі ёсьць арганізацыямі спэкулянтаў для адурачваньня беднаты“. І гэтая характарыстыка ў асноўным правільная.

Тым часам, ячэйка ня сумела зрабіць нічога для ўзмацненьня ўплыву ў арцелях, а па дакладзе аб малочных арцелях вынесла пастанову, якая нічога ня кажа: „адзначыць, што ў арцелях мала беднаты, неабходна больш кіраваньня арцелямі ад сельсаветаў“. Ячэйка слухала даклад пра рэвізію Сп. Тав. Выяўлена была нястача 132 р., раздадзена напавер на 305 р., пры чым напавер выдавалася заможнікам, а ня пайшчыкам. А ячэйка выносіць наступнае рашэньне: „склікаць пасяджэньне лавачнае камісіі, паставіць пытаньне аб пераабсталяваньні крамы, зьліквідаваць запазычанасьць і ўжыць меры ад пацукоў“.

Сёмкава-Гарадзецкая ячэйка паставіла на партдні пытаньне: „Аб гаспадарчай рабоце ячэйкі“. Пытаньне ня было як сьлед падрыхтавана і ў выніку вынесена рашэньне: „прапрацаваць пытаньне аб арганізацыі таварыстваў і малочных арцеляй“, але на справе ячэйка да гэтага пытаньня больш не варочалася. Гэтая-ж самая ячэйка спрабавала зарганізаваць с.-г. арцель, але нічога не дамаглася.

Праўда, па некаторых пытаньнях ячэйкі выносяць спраўныя, практычныя рашэньні, але праверка выкананьня гэтых рашэньняў не наладжана, дзякуючы чаму шмат якія з іх застаюцца без выкананьня.

Работа сярод беднаты пастаўлена ў ячэйках слаба; немаль ніякае работы не вядзецца сярод батрацтва; ні ў воднэй ячэйцы нічога ня робіцца з беспартыйным актывам.

Вельмі слаба праломлены ў рабоце ячэек мэтады самакрытыкі.

У час абсьледваньня былі выяўлены сярод паасобных членаў ячэек настроі, якія адбіваюць правы ўхіл, недаацэнка клясавых супярэчнасьцяй у вёсцы і значэньне работы з беднатою. У некаторых партыйцаў гэткія, да прыкладу, адносіны да работы з беднатою: „зьбіраць сходы беднаты—справа цяжкая, серадняка дражніць наша работа з беднатою і ён дэманстратыўна зрывае ўсе нашы мерапрыемствы“. Адгэтуль—боязкасьць праводзіць сходы беднаты. Вядома на справе дык не серадняк пратэстуе супроць сходаў беднаты, а кулак, заможнік. Іншыя таварышы разважаюць гэтак, што быццам кулакоў у нашым сельсавеце няма немаль. У выніку і атрымліваецца тое, што работа з беднатою ў раёне надзвычайна слабая. З другога боку выявіліся настроі зьбянтэжанасьці перад цяжкасьцямі перажываемага пэрыоду, паніка перад гэтымі цяжкасьцямі. Заміж таго, каб узмацняць работу, прыстасоўваць яе да задач моманту, некаторыя партыйцы спаўзаюць на шлях прыстасаваньня камбедаўскіх мэтадаў работы, на шлях „раскулачваньня“. Адзін сэкратар ячэйкі заявіў: „трэба ўвесьці продналог і добра прыціснуць кулацтва, іначай з імі нічога не паробіш“.

## III

Арганізацыя за апошні год мае некаторыя дасягненьні *ў гаспадарчым жыцьці раёну*, пра якія гаварылася вышэй: аздараўленьне с.-г. крэдытнае каапэрацыі, рост малочных арцеляй і ўзмацненьне ўцягваньня беднаты ў малочную каапэрацыю, некаторы рост першапачатковых вытворчых аб'яднаньняў, палепшаньне работы па дабрабыту раёну (асабліва на сродкі па самаабкладаньню). Але ўсё-ж кіраўніцтва райкома гаспадарчым будаўніцтвам мае буйныя недахопы.

Ні на пасяджэньні РК, ні на партсходах ня было пастаўлена пытаньне аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні ў жыцьцё рашэньняў 15 партзьезду, прыстасоўна да ўмоў сельскае гаспадаркі раёну і аб мерапрыемствах, патрэбных для ўзмацненьня сацыялістычнага сэктару: не прапрацоўвалася пытаньне аб калектывізацыі вёскі, аб разьвіцьці першапачатковых аб'яднаньняў. Таму ў кіраўніцтве гаспадарчым будаўніцтвам ня было пэўнае плянавае ўстаноўкі.

Раённыя арганізацыі ня маюць прадуманых плянавых намётак, меркаваньняў па гаспадарчым будаўніцтве ў раёне. Паасобныя мерапрыемствы па разьвіцьці сельскае гаспадаркі (земляўпарадкаваньне, с.-г. крэдыт, разьвіцьцё вытворчых аб'яднаньняў, машынаснабжэньне і аградапамога) ня ўвязаны ў адну суцэльную праграму. Усё кіраўніцтва сельскаю гаспадаркаю раёну грунтуецца на агульным уяўленьні, што сельская гаспадарка раёну павінна разьвівацца па лініі малочна-жывёлагадоўчае гаспадаркі. У сувязі з гэтым кіраўніцтва гаспадарчым жыцьцём мае ня досыць глыбокі і канкрэтны характар.

Ня была як сьлед загострана ўвага на задачы *калектывізацыі* сельскае гаспадаркі. У гэтай адносіне раён далёка астаецца. За апошні год арганізавана ўсяго толькі адно таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі і то—карлікавае (5 двароў). Нельга прызнаць за дастатковы і рост першапачатковых вытворчых аб'яднаньняў. У 1928 годзе арганізаваны: 3 малочных арцелі, мэліаратыўнае і 1 машыннае таварыствы. Калгасаў-жа ў раёне налічваецца ўсяго 2—1 сельска-гаспадарчая арцель і 1 таварыства.

У адносіне *каапэраваньня* райком дамогся аздараўленьня с.-г. крэдытнага таварыства, выжыўшы патраты, бесгаспадарчасьць і дэфіцытнасьць. Але процант каапэраваньня па лініі с.-г. крэдытнае каапэрацыі нізкі—30% усіх двароў. Горш справа з спажывецкаю каапэрацыяю. Паперш, не падабраны склад работнікаў каапэрацыі: работнікі Заслаўскага Сп. Тав. пераменьваюцца праз кожныя тры месяцы. Падругое, у спаж. каапэрацыі на працягу шэрагу гадоў цягнецца непарыўная палоса патратаў: за $2^{1}/_{2}$ гады агульная сума іх дасягае 10.000 руб., што дыскрэдытуе каапэрацыю на вачох насельніцтва і падрывае яе грашовы стан. Процант каапэраваньняў сялянскіх двароў яшчэ недастатковы—69. Сярэдні аплачаны пай—5 р. 20 к. Сялянскіх укладаньняў няма. Каапэраваньне наогул ішло самаходам. Прырост ішоў, галоўным чынам, за кошт фонду каапэраваньня беднаты. Немаль поўнасьцю адсутнічае арганізацыйная і масавая работа: ня было работы з упаўнаважанымі і крамкамісіямі. Дасюль дрэнна была пастаўлена работа рэвізійных камісій, культурная работа не вялася: каапэрацыйныя гурткі і куткі не працуюць.

Вялікую ролю ў раёне адыгрывае *малочная каапэрацыя*. У раёне 8 малочных арцеляй і аб'ядноўваюць яны 1.382 пайшчыкаў (22% усіх сялянскіх двароў). Дасюль рост малочных арцеляй ішоў стыхійна. Старыя арцелі, арганізаваныя ў 1925—26 г., былі кулацкімі арцелямі. На працягу апошняга году за кошт фонду каапэраваньня беднаты, у

склад арцеляй уцягнута 344 бядняцкія гаспадаркі. Але ўсё-ж і цяпер *уплыў у арцелях належыць у асноўным заможнай праслойцы*, бо каапераваньне беднаты носіць пакуль што фармальны характар: маючы адну абы-якую карову, бядняк ня можа здаваць малака, а тым самым і атрымліваць канцэнтраваных кармоў, і не карыстаецца ніякімі перавагамі.

Работа па ўнятрэньню *шматпольля* разгорнута яшчэ заслаба. Шматпольле ўведзена на плошчы 3.085 гэкт., што складае 8,6% ад усяе выданае плошчы і 12,7% ад усяе зямляўпарадкаванае.

Ня было прызначана патрэбнае ўвагі кантролю па правядзеньні ў жыцьцё закону аб працоўнай арэндзе зямлі. У выніку—поўна выпадкаў падпольнае незаконнае арэнды і кабальных зьдзелак.

## IV

У галіне ажыўленьня *работы масавых арганізацый* адзначыць прыкметных дасягненьняў няма.

*Сельсаветы.* Нездавальняюча пастаўлена кіраваньне сельсаветамі ад РВК. За 10 месяцаў РВК заслухаў даклады 5 сельсаветаў з 12, прычым 3 заслуханы без папярэдняга абсьледваньня, а 2 абсьледваны: адзін—сэкратаром РВК, а другі дзелаводам (?!). Нарад старшынь і і сэкратароў сельсаветаў ня было. Пытаньне аб ажыўленьні работы камісій пры сельсаветах не абгаварвалася. У выніку масавая работа сельсаветаў не разгорнута. Камісіі ў большасьці не працуюць, кіраўніцтва над імі няма. Сельсаветы мала займаюцца гаспадарчымі і культурнымі пытаньнямі: Заслаўскі сельсавет за паўгода разглядзеў 3 гасп. і 1 культ. пытаньні, Слабодзкі—2 гасп. і 1 культурнае.

З прычыны слабога жывога кіраваньня сельсаветамі, у іхнай рабоце праяўляецца моманты выкрыўленьня клясавае лініі і злоўжываньня. Праверка работы Гатовінскага сельсавету выявіла шэраг злоўжываньняў і наяўнае перакручаньне клясавае лініі; схаваньне аб'ектаў ападаткаваньня старшынёй сельсавету і некаторымі членамі, фіктыўны разьдзел маемасьці старшыні с/савету са сваім бацькам (каб менш плаціць с.-г. падатку), раздача лесу сваяком, абарона інтарэсаў заможнікаў супроць беднякоў (у зямельных пытаньнях).

*Палітычная работа сярод беднаты слабая.* Па раёне „лічыцца" 8 груп беднаты, фактычна-ж працавала толькі тры ды то вельмі слаба. Напрыклад: у Новадворскай ячэйцы не арганізавана ніводнае групы. Недастаткова таксама работа па лініі правядзеньня сходаў беднаты. Сёмкава-Гарадзецкая ячэйка за 7 месяцаў правяла 2 сходы беднаты, Новадворская за гэты самы пэрыяд—4 сходы. Нават пры правядзеньні самаабкладаньня работа з беднатою праводзілася ня досыць энэргічна і рашуча. У шэрагу выпадкаў сходы па самаабкладаньню зрываліся таму, што ня было праведзена работы з беднатою. Сярод некаторых членаў ячэйкі і нават раённых работнікаў, ёсьць *боязкасьць весьці работу з беднатою*, тлумачачы гэта тым, што „серадняк выяўляе нездавальненьне калі праводзіцца сход беднаты і дэманстратыўна зрывае мерапрыемствы, якія высоўвае бедната". Значная дзель віны за слабую работу ячэек з беднатою прыпадае на РК, які ня даў досыць яснае ўстаноўкі ў гэтым пытаньні. Характэрнай ёсьць пастанова РК па дакладзе аб правядзеньні самаабкладаньня: „сходы беднаты праводзіць у тых выпадках, дзе гэтае пытаньне ставіцца вельмі гостра" (гэтая пастанова потым была ў працэсе кампаніі папраўлена). Па пытаньню аб рабоце груп беднаты РК выносіць гэткую пастанову: „усім ячэйкам прыступіць да арганізацыі груп беднаты".

*Работа сярод батрацтва.* У раёне маецца досыць вялікая колькасьць батракоў і с.-г. рабочых. Райком рабземлеса абслугоўвае пад 1.500 чал. Батракоў і пастухоў маецца пад 1.000 чал., з іх ахоплена прац. дагаворамі 720 чал. Пытаньні работы сярод батракоў знайшлі вельмі слабое адбіцьцё ў рабоце ўсяе партарганізацыі. Знарок гэтае пытаньне ў РК у працягу году ня ставілася. У сельячэйках работа таксама немаль не вядзецца.

У выніку мы маем такое становішча: ва ўсёй партарганізацыі лічыцца ўсяго 2 батракі, за год прыняты ў партыю 1; у камсамольскай арганізацыі на 1/I 1928 г. было 12 батракоў; ва ўсіх сельсаветах членамі лічацца 2 батракі, пайшчыкамі ў каапэрацыі 35 батракоў.

Дрэнна йдзе эканамічная работа сярод батрацтва на сельскіх сходах, на паседжаньнях сельсавета пытаньні аб працоўным законадаўстве ня ставіліся, хаты-чытальні не вядуць работы па растлумачэньню насяленьню працоўнага законадаўства, у большасьці сельсаветаў няма рэгістрацыі дагавораў. Ніякае праверкі выкананьня дагавораў сельсаветы не вядуць, няма вучоту батракоў, фактычнае абмежаваньне рабочага дня батракоў у кулацкіх гаспадарках не праводзіцца: працуюць ад цямна да цямна.

*Работа з беспартыйным актывам.* Плянамернае работы з беспартыйным актывам ні ў воднай ячэйцы няма. Няма вучоту блізкіх да партыі беспартыйных актывістаў. Формы і мэтады работы з беспартыйным актывам няясныя ячэйкам. У арганізацыі адчуваецца недаацэнка значэньня гэтае работы. Спэцыяльных нарад беспартыйнага актыву не праводзілася.

*Дабрахвотныя таварыствы.* Ня дрэнна адносна разгорнута работа Т.П.Н. Энэргічна працуе раённая арганізацыя Т.П.Н., ёсьць практычныя дасягненьні ў ліквідацыі няпісьменнасьці. Дрэнна працуе МОПР, Асоавіяхім і „Чырвоны Крыж“. Параскідаліся ячэйкі МОПР у мястэчку Заслаўль і Старым Сяле. Шэраг ячэек лічыцца на паперы, арганізацыйнае і выхаваўчае работы не вядзецца.

*Работа па ваенізацыі.* Не ўважаючы на магчымасьці шырокага выкарыстаньня работнікаў з пагранатраду, вядзецца слаба і ня нясе масавага характару. У летні пэрыяд, галоўным чынам у тыдзень абароны, была прароблена значная работа: некалькі мітынгаў, дакладаў, скарбоначны збор у фонд масавае работы Асо-Авіяхіму, стралковыя спаборніцтвы членаў таварыства (30 удзельнікаў), тактычныя заняткі 2 ячэек КСМ, аднадн ёвыя манэўры членаў КСМ і Асо-Авіяхіму. Вяліся вайсковыя заняткі з партыйцамі. Але сыстэматычная работа па ваенізацыі не напраўлена. Дрэнна працуе арганізацыя Асо-Авіяхім. У раёне 25 ячэек АСО з 650 членаў. Большасьць ячэек лічацца толькі на паперы і ніякае работы не вядуць, а частка зусім параскідалася. Толькі некалькі ячэек пры пагранзаставах працягваюць якую-кольвек работу, у раёне няма ніякага вучоту работы Асо-Авіяхіму.

Маецца 6 ячэек „Чырвонага Крыжу“ з 350 членамі. Райком „Чырв. Крыжу“ не працуе. Членскія ўзносы здала толькі адна ячэйка. Па сутнасьці работа „Чырвонага Крыжу“ зусім не разгорнута.

*У галіне культурнага будаўніцтва* ў раёне можна адзначыць некаторыя дасягненьні. Сетка школ досыць густая і ахоп дзяцей дасягае больш за 70%. Але тут-жа трэба сказаць, што з школьнымі будынкамі ў раёне вельмі ня добра, шмат якія школы працуюць у наёмных памяшканьнях, няпрыгодных да заняткаў. Дрэнна падабраны склад настаўніцтва. Ёсьць дасягненьні ў прасоўваньні газэты ў масу: у раёне выпісваецца 1 газэта на 4 двары. Нездавальняюча пастаўлена работа хат-чытален і бібліятэк. Раённая бібліятэка зусім не адпавядае сваёй

назове. Некаторыя хаты-чытальні не працуюць па некалькі месяцаў з прычыны адсутнічаньня хатніка.

Вялікім прахонам у рабоце арганізацыі ёсьць слабасьць *нацыянальнае работы:* па беларусізацыі раён далёка астаецца, слаба пастаўлена работа сярод польскага і яўрэйскага насяленьня.

*Узаемаадносіны пагранатраду з насяленьнем і грамадзянскімі арганізацыямі.* Узаемаадносіны райкому з партарганізацыяй пагранатраду нармальныя. У склад райкому ўваходзяць 5 палітработнікаў атраду, з іх 2 у бюро РК, і бяруць актыўны ўдзел у рабоце РК. Але сувязь раённае партарганізацыі з партарганізацыяю пагранатраду носіць некалькі вузкі характар, ахопліваючы вяршкі. Уся маса партыйцаў пагранатраду яшчэ заслаба зьвязана з грамадзянскаю арганізацыяю і мала ўцягваецца райкомам у работу. У рабоце сярод насяленьня скарыстоўваецца райкомам вузкае кола работнікаў пагранатраду.

Узаемаадносіны пагранчасьцей з насяленьнем у агуле добрыя.

Пагранічнікі вядуць работу сярод насяленьня ў 12 вёсках. Работа, галоўным чынам, выражаецца ў папулярызацыі важнейшых падзей і мерапрыемстваў Савецкае ўлады, а часткова і ў дапамозе мяйсцовым арганізацыям (сельсаветы, партыйныя і камсамольскія ячэйкі). Галоўным недахопам ёсьць культурніцкі ўхіл у рабоце, адсутнасьць работы па выяўленьню і арганізаваньню ініцыятывы самога сялянства ў пытаньнях культурна-гаспадарчага будаўніцтва.

У агуле, райком яшчэ ня досыць поўна выкарыстоўвае сілы партарганізацыі атраду для ўзмацненьня работы ў вёсцы.

## V

*У чым-жа асноўныя прычыны слабасьці работы арганізацыі?* У сваёй пастанове па дакладзе Заслаўскага РК, сэкратарыят ЦК КП(б)Б гаворыць, што „акром слабога падбору работнікаў і заслабое практычнае дапамогі раёну ад акруговых арганізацыі, аднэй з *асноўных* прычын слабое работы арганізацыі зьяўляецца налічча буйных недахопаў у *сыстэме* работы РК і ячэек; акром недастатковае згуртаванасьці партыйнага актыву, ня было прызначана патрэбнае ўвагі задачы стварэньня навакол ячэек беспартыйнага актыву, маецца недаацэнка значэньня работы з беспартыйным актывам, у рабоце маецца раскіданасьць, распыленьне ўвагі на мноства задач, у ячэйках няма сталага разьмеркаваньня абавязкаў сярод партыйцаў, ня ўведзены інстытут сельпарторгаў, няма сыстэмы праверкі выкананьня рашэньняў“. Гэты пункт рэзалюцыі ЦК з вычарпальнаю паўнатою і яснасьцю выкрывае прычыны слабасьці ў рабоце арганізацыі.

Праўда і тое, што ў сыстэме работы акруговых арганізацый абслугоўваньне прыгранічнага раёну ня было вылучана, як асабліва важная задача. У працягу паўтара гадоў раённая партарганізацыя ня была абсьледавана. У адносіне культурна-гаспадарчага абслугоўваньня—такое самае становішча. Праўда і тое, што акругкомам ня было прызначана патрэбнае ўвагі ўзмацненьню раёну работнікамі. Падбор работнікаў раённага апарату слабы. Наглядаецца вялікая плывучасьць работніцкага складу.

Але ўсё-ж *карэньні слабасьць работы арганізацыі* ня ў гэтым. Першаю, галоўнейшаю прычынаю ёсьць адсутнасьць згуртаванасьці ў рабоце партактыву. Райком недаацаніў надзвычайнае важнасьці гэтае задачы. А пры адсутнасьці згуртаванасьці партактыву нельга забясьпечыць высокі тэмп работы. Другою каранною і рашаючаю прычы-

наю буйных недахопаў у рабоце ёсьць слабасьць масавае работы і немаль поўная адсутнасьць работы з беспартыйным актывам. Райком даў буйнейшую памылку, не паставіўшы гэтае задачы ў аснове ўсяе работы, не змабілізаваўшы ўвагі ячэек на гэтай задачы. І ў выніку работы з беспартыйным актывам па сутнасьці ў арганізацыі няма. Ячэйкі недаацэньваюць важнасьці гэтае работы, не разумеюць форм і мэтадаў яе з б/п. актывам, ня маюць вучоту актывістаў, ня знаюць іх. Характэрным зьяўляецца заява членаў Старасельскае ячэйкі: „У нас быў актыў, але ён сьпіўся (?!)“.

У ячэйках наглядаецца тэндэнцыя ўсю работу праводзіць толькі сіламі партыйцаў. Гэтае неразуменьне значэньня работы з беспартыйным актывам знайшло сваё вырашэньне і ў адсутнасьці ўсякае работы па высоўваньню актывістаў батракоў і беднякоў на грамадзкую работу. Ува ўсім раённым апараце няма ніводнага беспартыйнага селяніна.

Цяпер, калі ўлічыць, што работа масавых арганізацый вядзецца слаба, беспартыйны актыў ня згрупованы, з ім ніякае работы не вядзецца, што бедната дрэнна арганізавана, дык стане зразумела чаму так нязначны вынікі работы за год у райпартарганізацыі. Без апірышча на шырокі пласт беспартыйнага батрацкага і бядняцка-серадняцкага актыву поўна якія мерапрыемствы партарганізацыі не маглі быць праведзены ў жыцьцё, яны няўнікнёна зрываліся.

І трэцяю прычынаю недахопаў у рабоце ёсьць нясталасьць сыстэмы работы РК і ячэек: раскіданасьць, арганізацыйная няпэўнасьць і г. д. Райком ня сумеў з мноства задач вылучыць і паставіць у цэнтры ўвагі самыя галоўныя, з тым, каб навакол іх згуртаваць актыўнасьць арганізацыі. Кідаецца ў вочы распыленасьць, раскіданасьць у рабоце. У ячэйках таксама няма мэтавае канкрэтнае ўстаноўкі ў рабоце. Работа йдзе „ад кампаніі да кампаніі“. Заміж таго, каб сканцэнтраваць галоўную ўвагу на 2—3 важнейшых задачах, ячэйкі распыляюць свае невялія сілы на мноства задач, ня выконваючы як сьлед ніводнае. Зусім немаль адсутнічае вучот работы, важнейшыя гаспадарчыя і палітычныя кампаніі дрэнна або зусім не падсумоўваюцца, вопыт работы не абагульняецца. Не наладжана праверка выкананьня рашэньняў. У раённых арганізацыях поўна сілы і часу трацiцца на паседжаньні, поўна якія з іх непатрэбны і толькі адцягваюць работнікаў ад жывое справы.

У выніку няправільнага пабудаваньня работы ў арганізацыі такое становішча, што партыйцы выносяць вялікую нагрузку, арганізацыя працуе шмат, трацiцца шмат сілы і энэргіі, а рэзультаты надзвычайна нязначныя, работа ў значнай долі працякае „напуста“.

Вось чаму ЦК у сваёй рэзалюцыі па дакладзе Заслаўскае арганізацыі апроч указаньня на зжываньне паказаных у сыстэме работы недахопаў, прапанаваў:

„У грунт усяе работы паставіць задачу ажыўленьня масавае работы саветаў, каапэрацыі і г. д., гадуючы на практычнай рабоце масавых арганізацый беспартыйны батрацка-бядняцкі і серадняцкі актыў, шырэй і больш рашуча прыцягваючы яго да правядзеньня мерапрыемстваў, якія намячаюцца партарганізацыяй“.

---

М. Зярніцкі

# Рэагаваньне на крытыку ў друку і ў насьценгазэтах

У вядомай адозьве ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы, як і шэрагу іншых дырэктыў кіруючых парт. органаў, асабліва падкрэсьліваецца тая думка, што неабходна максымальна забясьпечыць *на справе* як мага больш хуткае правядзеньне ў жыцьцё практычных прапаноў рабочых. Рабочыя масы павінны ўпэўніцца, што да іх прапаноў, да іх крытыкі ўважліва прыслухоўваюцца, што іх крытыка дапамагае нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву. З гэтага пункту погляду становіцца зразумелым, чаму гэтак важна барацьба за правільнае і сваечасовае рэагаваньне на рабселькороўскія заметкі, за тое, каб гэтыя заметкі білі ня „ў халастую", а давалі сваё дзейнічаньне.

*Барацьба за дзейнічаньне рабселькораўскіх заметак* тым больш важна яшчэ і таму, што яна *садзейнічае разгортваньню самакрытыкі зьнізу*, а гэта-ж, як вядома, задача далёка яшчэ ня вырашаная нашымі парт. арганізацыямі.

Адсюль зусім зразумела, чаму органы ЦКК—РСІ зрабілі прадметам спэцыяльнага вывучэньня і праверкі пытаньне аб тым, як рэагуюць у нашых органах і ўстановах на заметкі ў друку і насьценгазэтах.

У мінулым паўгодзьдзі органамі ЦКК—НК РСІ Бел. сумесна з рэдакцыямі паасобных газэт была праароблена по шэрагу прадпрыемстваў і ўстаноў (да 30-ці) у Менску, Гомелі і Бабруйску—праверка, як рэагуюць на газэтныя заметкі. Праверка закранула таксама работу рэдакцый газэт, кантрольных органаў і пракуратуры.

### Што-ж высьветліла праверка?

Асноўны вынік—гэта тое, што, не ўважаючы на шэраг кіруючых дырэктыў партыі і кантрольных органаў пра абавязковае рэагаваньне на заметкі і на некаторае палепшаньне ў гэтым напрамку за апошняе паўгодзьдзе (у зьвязку з разгортваньнем самакрытыкі), *справа гэта ў огуле пакуль што пастаўлена нездавальняюча.*

Дзейственасьці самакрытыцы ў друку яшчэ да гэтага часу перашкаджае бюракратычнае супраціўленьне дзяржапарату і няўважлівыя адносіны да запатрабаваньняў мас з боку паасобных праф. і парт. органаў, ячэек, што знаходзіць адбітак у такіх праявах бюракратычных адносін да самакрытыкі ў друку, як-та: цяганіна і надзвычайная працягласьць расьсьледваньняў заметак, нездавальняючая якасьць адказаў—замест абгрунтаваных адказаў і водгукаў на заметкі— у шматлікіх выпадках наглядаюцца фармальныя бюракратычныя адпіскі „абвяргацельства" і досыць часта—зьявішчы поўнага ігнараваньня заметак у друку.

Да ліку недахопаў ў справе рэагаваньня на заметкі ў друку яшчэ трэба аднесьці існуючы *паралелізм* паміж рознымі органамі і адсутнасьць разьмежаваньня работы паміж органамі, якія расьсьледуюць заметкі, кантрольнымі органамі, Пракуратурай, рэдакцыямі газэт, прафорганамі і важнейшымі цэнтральнымі органамі (ВСНГ і трэсты, НКЗем, НКГандль у каапэрацыйныя органы і г. д.).

Але пяройдзем да асьвятленьня вынікаў праверкі па парадку

**Як рэагуюць на заметкі ў друку на прадпрыемствах і ва ўстановах?**

У большасьці ўстаноў і ў адміністратараў прадпрыемстваў не ўстаноўлены парадак прагляду газэт, ня робіцца выразак і рэгістрацыі іх. Звычайна спадзяюцца на прысылку выразак з адпаведных органаў ці рэдакцый газэт. Няма таксама кантролю за выкананьнем пытаньняў з прысланых заметак і ходам іх расьсьледваньня.

Рэагаваньне на заметкі (у тых выпдакак, калі рэагуюць) вельмі часта робіцца праз пасылку пісьмовых адказаў, але не праз дачу даручэньняў асобным работнікам для спэцыялянай проверкі ці жывога расьсьледваньня. Пры гэтым трэба зазначыць, што дача нават толькі гэткіх пісьмовых адказаў у шмат якіх выпадках зацягваецца на доўгі час. (У Бабруйску (у земоргане) зафіксаван выпадак дачы адказу на заметку з мая 1926 г. у кастрычніку 27 г.), што выклікае з боку органаў КК—РСІ неаднаразовыя напамінаньні, а з боку рэдакцый газэт, акром гэтага, яшчэ паасобныя запытаньні і напамінаньні праз друк.

Разам з гэтым трэба адзначыць выпадкі і поўнага нерэагаваня на заметкі („сярод абсьледваных: адміністрацыя зав. „Пралетары", „Чырвоная Зорка" і інш., у Менску, адміністратары асобных прадпыемстваў у Бабруйску) на тэй падставе, што нібы „рабкоры пішуць для ганарару, нечага ім адказваць, самі ўсё ведаем".

Маюцца выпадкі, калі пасылаемыя газэтамі ці кантрольнымі органамі заметкі передаюцца ўстановамі для адказу абвінавачваемым у заметках асобам. Так, напрыклад, заметка з газэты „Камуніст" (Бабруйск) аб шэрагу непарадкаў у аднэй школе Парыцкі РВК передаў для расьсьледваньня... самому загадчыку гэтае школы. Заметку, прысланую з „Палескай Праўды" (Гомель) у фабком запалкавай ф-кі „Днепр"— Рэчыца, адносна п'янства на фабрыцы, фабком передаў... тым, якіх заметка выкрывала.

**„Абвяргацелі" і „абвяргацельствы"**

Прыходзіцца канстатаваць, што ў значнай большасьці выпадкаў (гэта паказвае ўся практыка работы органаў КК—РСІ і расьследвацельскіх аддзелаў газэт) прысылаемыя адказы не даюць канкрэтнага асьвятленьня сутнасьці закранутых у заметках пытаньняў, не паведамляюць аб ужытых мерах па зьнішчэньню недахопаў, а зьяўляюцца больш ці менш удалымі фармальнымі бюракратычнымі адпіскамі, „абвяргацельствамі", імкнуцца даказаць, што „все благополучно", не прызнаюць недахопаў.

Прывядзем некаторыя прыклады з шматлікіх выпадкаў выкрытых пры абсьледваньнях ЦКК—НКРСІ Бел.

Па заметцы ў газэце „Зьвязда" адносна Дзедлаўскага Камбінату п. н. „Прапіваюць завод"—дырэктар у сваім абвяржэньні Бельсельтрэсту, каму ён падпарадкаваны, пісаў: *„Все это ложь и клевета, как со стороны винокура, так и со стороны селькора—его сына"*. Па гэтаму пытаньню дырэктарам і мясцовымі арганізацыямі быў скліканы сход, дзе большасьць, як быццам, выказаліся, што заметка няправільная

і патрабавалі прыцягненьня аўтара да адказнасьці. Але калі заметку расьсьледвалі Рагачэўскі РК КП(б)Б і Бабруйская АКК яна амаль што цалкам падцьвярдзілася і дырэктару і іншым была вынесена вымова, а некаторыя работнікі былі паздыманы з работы.

Шэрагам заметак у „Зьвяздзе“ і „Рабочым“ было ўзьнята пытаньне аб пагрозе спыненьня заводу імя Домбаля, дзякуючы адсутнасьці сырцу. Шклотрэст даў адказ газэтам, дзе, выкладваючы аб'ектыўныя ўмовы і цяжкасьці дастаўкі сырцу, адначасова зазначыў, што становішча ня было настолькі пагражаючым, каб уздымаць гэткую сэнсацыю ў друку.

Гэты адказ ЦКК не здаволіў, і абвяржэньне было паслана для абгаварэньня рэдкалегіі насьценгазэты заводу сумесна з рабкорамі. У выніку высьветлілася, што бязумоўна былі некаторыя аб'ектыўныя ўмовы, што выклікалі перабой у дастаўцы сырцу, але заметкі былі зьмешчаны ў друку сваечасова і вымусілі трэст ужыць больш рашучыя меры. ЦКК прызнала вельмі важным той факт, што рабкоры праз друк папярэдзілі катастрофу. А адказ нам. дырэктара трэсту, які разважаў, што не патрэбна было ўздымаць сэнсацыі, быў асуджан, як нявытрыманы.

У заметцы з газэты „Правда“ п. н. „Секретничают“ паведамлялася, што некаторыя трэсты ВСНГБел. замiж тага, каб пытаньні рацыяналізацыі праводзіць праз масавыя арганізацыі (вытворчыя камісіі) з інфармацыяй на агульных сходах, гэтая работа праводзіцца габінэтным парадкам.

На запытаньне ЦКК КП(б)Бел. — плянавая группа ВСНГБел. дала гэткі адказ: „па лініі ВСНГБ неаднаразова даваліся дырэктывы падведамсьцьвеным трэстам аб тым, што ўся праца па зьніжэньню сабекаштоўнасьці, рацыяналізацыі і г. д. *павінна* праводзіцца на прадпрыемствах пры шырокім удзеле рабочых мас. Значыць, ВСНГ дае толькі дырэктывы і лічыць, што на гэтым — канец, усё зроблена. А як-жа наконт таго, каб праверыць, як выконваюцца трэстамі гэтыя дырэктывы—гэтага ня было зроблена. Выходзіць, заметка правільна асьвятліла факты, а ВСНГ-жа даў ЦКК адзін толькі фармальны адказ—і ўсё.

У газэце „Гудок“ была надрукавана заметка „Выдвигают, а потом задвигают“, у якой паказана што на Менскім вучастку МББ чыг. вылучылі раней аднаго таварыша, а потым, каб аслабаніць мейсца іншаму работніку, пастанавілі вылучанага таварыша „задвинуть“. Прафэсыйны вучастковы орган падтрымаў гэткую замену.

Пасьля зьмяшчэньня заметкі Учкпрофсож піша абвяржэньне ў газэту, якое па сутнасьці адмаўляе ўсё, дзе гаворыцца, што рабкор наблытаў, што гэта — паклёп і г. д. На справе пры праверцы дакумэнтаў—заметка цалкам падцьвердзілася і ЦКК за ашуканскае абвяржэньне вынесла кіраўнікам Учкпрофсожу вымову.

А вось некалькі адказаў, якія можна паслаць у гумарыстычную часопісь, а аўтарам выдаць прэмыю за багаты „розум“.

У газэце „Бел. Вёска“ была зьмешчана заметка, што ў Пясоцкай сямігодцы сыны жандараў, былых ахвіцэраў—настаўнікі п'янствуюць. „Толькі і знаюць, што гарэлку лупяць. Панапіваюцца і ходзяць ракам. Ніякае культурнае працы не праводзяць“.

Мен. Акрана на гэту заметку адказала, што „*факт падцьвердзіўся*“ — вывучылі, расьсьледвалі і канстатавалі. Ну, а што-ж далей,—аб гэтым у адказе ні слова.

На другую заметку аб п'янстве ў аднэй школе апарат НКАсьветы даў клясічны адказ—растлумачэньне: „*ніякіх вечарынак і п'янак у школе настаўнік не павінен рабіць*“, іншымі словамі, нібы, што газэта

чапляецца: вядамо-ж што, настаўнік *не павінен п'янстваваць.* Усе гэтыя работнікі былі прыцягнуты да адказнасьці Менскай АКК—РСІ—па прапанове ЦКК КП(б)Бел.

На заметку рабкора ў газэце „Рабочий", што Харчтрэст штомесячна плаціць НК Граш. Спраў за несваечасовае атрыманьне бандзероляў—нам. дырэктара адказаў: „Мы за бандзероль пеню плацілі, плацім і будзем плаціць, так як *у нас няма сродкаў на сваечасовую закупку бандзероляў*" (*?!*).

Адносна дрожзавода „Чырв. Зорка" (Менск) у газэце „Рабочий" пісалася (у заметцы п. н. „Плохие хозяева"), што машыны на дварэ і іржавеюць, крахмал ляжыць пад адкрытым небам і г. д. Заметка паўнасьцю сьцьвердзілася. Аднак, адміністрацыя ў сваім адказе рэдакцыі піша: у сувязі з пераходам заводу на мелясовы спосаб работы гэтыя машыны не патрэбны. *Крахмал ад таго, што ляжыць на двара, паляпшаецца якасьцю*(*?!*).

Гэткія прыклады можна яшчэ доўга працягваць, але мы абмяжуемся толькі гэтымі.

Да ліку прычын, спрыяючых дачы гэткіх агідных адказаў на крытыку ў друку, трэба прызнаць наглядаючуюся *незацікаўленасьць парт. і праф. ячэек* у адносінах дачы адказаў на рабселькораўскія заметкі ў друку па тым з іх, якія датыкаюцца адміністрацыі іх установы ці прадпрыемства. У гэтых выпадках ячэйкі ня ставяць перад адміністрацыяй суадпаведных пытаньняў, не патрабуюць, каб былі даны сваечасовыя і дакладныя адказы, не арганізоўваюць масавага абмеркаваньня і праверку адказаў, якія пасылаюцца адміністратарамі ў рэдакцыі газэт.

## Роля газэтных заметак

Трэба, аднак, таксама прызнаць, што, ня гледзячы на адсутнасьць у многіх выпадках дакладнага пісьмовага рэагаваньня, заметкі ў друку адыгрываюць вялікую ролю, асабліва ў апошнія 8-9 месяцаў (з моманту разгортваньня самакрытыкі). Ствараемая імі грамадзкая думка вакол найбольш важных момантаў—недахопаў працы ці ненармальных зьявішч прымушаюць ва многіх выпадках установы і прадпрыемствы, а таксама іншыя органы, прымаць неабходныя меры да зьнішчэньня адзначных у заметках момантаў альбо ўлічваць іх так ці інакш у сваёй бягучай працы. Акрамя гэтага, газэтныя заметкі досыць часта, як вядома, ускрывалі факты важнага палітычнага значэньня: аб „гнойніках", аб скарыстаньні кулацкімі элементамі савецкіх устаноў, аб антысэмітызьме, аб фактах скажэньня нацпалітыкі і інш. (гэткія прыклады маюцца ў кожнай друкаванай газэце).

## Пастаноўка справы расьсьледваньня заметак у рэдакцыі газэт

Пастаноўка гэтай справы ў рэдакцыях газэт—нездавальняючая.

Па шэразе рэдакцый газэт (ня ўсіх) маюцца аддзелы па расьсьледваньню заметак, вылучана па адным работніку на гэтую работу, але няма пэўнага, цьвёрда вызначанага, парадку: а) вядзеньня вучоту і клясіфікацыі заметак, патрабуючых рэагаваньня (зьмешчаных у газэце і ня зьмешчаных); б) па якіх адрасох (установах) павінны пасылацца тыя ці іншыя заметкі; в) строгага кантролю за сваечасовымі адказамі ўстаноў на пасланыя ім заметкі. Мае яшчэ мейсца і залежваньне падоўгу ў портфэлях рэдакцый заметак бяз усякага руху. З гэтых прычын рэдакцыі газэт у шмат якіх выпадках зусім ня ведаюць пра лёс заметак, лік гэткіх заметак, ад якіх устаноў няма адказу і г. д. Ня

ўсімі рэдакцыямі практыкуецца перадача адказаў для праверкі аўтарам, рабкорам, ці органам.

Па ўсіх гэтых прычынах не сыстэматычна вядуцца ўсімі газэтамі *аддзелы водгукаў і адказаў* на заметкі і газэты ня ведаюць пра лёс усіх заметак. Досыць часта—без асаблівых прычын—не зьмяшчаюцца і грунтоўныя адказы і абвяржэньні на надрукаваныя артыкулы і заметкі („Пал. Праўда“ да ліпеня г. г. зьмяшчала толькі 10-15 проц. паступаючых адказаў на заметкі).

Звычайнымі, але не сыстэматычна практыкуемымі формамі рэагаваньня зьяўляюцца выклікі і напаміnаньні праз газэты ўстановам і органам, якія доўгія часы не адказваюць на заметкі і зьмяшчэньне некаторымі газэтамі вынікаў па асобных заметках.

Зваротаў у органы КК—РСІ з сьпісамі і пералічэньнем заметак і суадпаведных устаноў, не адказваючых на заметкі — рэдакцыямі не практыкуецца.

Яшчэ большыя цяжкасьці—з рэагаваньнем на заметкі ў газэтах, якія выдаюцца на яўрэйскай („Акцябр“), ці польскай („Орка“) мове. Гэтыя газэты ў установах вельмі слаба чытаюцца, ці зусім ня выпісваюцца.

Трэба наогул зазначыць, што ў факце няўважлівых адносін кіруючых работнікаў рэдакцый газэт да работы Бюро расьсьледваньня ня цяжка прыкмеціць і агульную недастатковую ўвагу з боку рэдакцыі газэт да справы давядзеньня да канца ўзьнятых у заметках пытаньняў. Зьмясьцілі заметку—ну і добра. А ці ўзьдзейнічала яна, ці дала вынікі, які эфэкт дала тая ці іншыя заметка—гэта, як быццам, другараднае пытаньне для рэдакцый газэт. Але нават у тых выпадках, калі заметкай дасягнуты вельмі значныя станоўчыя вынікі—дык і тады аб гэтым звычайна зьмяшчаюцца няпрыкметныя маленькія заметкі на апошняй старонцы газэты. *Нашы газэты вельмі слаба паказваюць на сваіх старонках дасягненьні, эфэктыўнасьць рабселькораўскіх заметак.* Чаму, напрыклад, не практыкаваць ад часу да часу спэцыяльныя агляды дасягнутых па газэтных заметках, якія (агляды) зьмяшчаць на відным мейсцы ў газэты. Гэта, бязумоўна, будзе садзейнічаць уцягненьню больш значных колаў рабочых і вясковага актыву да крытыкі праз друк.

## У судова-сьледчых органах і пракуратуры

Акруговыя органы Пракуратуры сочаць у першую чаргу за мясцовай акруговай газэтай. Робіцца прагляд таксама і цэнтральных газэт. Па заметках ва ўсіх гэтых газэтах, якія маюць адзнакі крымінальнага пакараньня ўчынкаў па справе, даюцца даручэньні сьледчым органам ці органам дазнаньня, па іншых заметках Пракуратура рэагуе ў форме пратэсту, прагляду матар'ялаў і інш. прапановы.

Аднак спэцыяльнага вучоту (рэгістрацыі) і кантролю за рухам заметак, па якім пракуратура рэагуе—няма: гэта вядзецца ў агульным парадку. Толькі тыя ўзбуджаныя па газэтных заметках справы, якія маюць буйнае грамадзкае значэньне, знаходзяцца ў стадыі расьсьледваньня пад асобным кантролем Акрпракуратуры і ў адносінах да іх прыймаюцца меры да хутчэйшага расьсьледваньня.

Паміж мяйсцовымі рэдакцыямі газэт і Акр. Пракуратурай (Віцебск, Гомель) існуе дагаворанасьць у адносінах прысылкі тых заметак, якія не скарыстоўваюцца ў друку, але носяць выкрываючы характар. Гэткія лісты атрымоўваюцца і з цэнтральных газэт і ў паасобных выпадках—непасрэдна рабселькорамі.

Для характарыстыкі работы суд-сьледчых органаў па расьследваньню газэтных заметак прывядзем кароткія даныя па Віцебскай Пракуратуры.

З 1-га студзеня па 1-е ліпеня 1928 г. была зьвернута ўвага на 390 заметак, галоўным чынам, мяйсцовага друку (у Гомельскай Пракуратуры за гэты час прайшла 81 заметка).

З гэтага ліку было накіравана: на вытварэньне дазнаньняў (у органы міліцыі, крымінальнага вышуку, інспэкцыю працы) — 57, на сьледзтва—6, накіравана ў розныя ўстановы з прапановай зьнішчыць недахопы—232, высьветлена шляхам запытаньняў—92. Па скончаных заметках маюцца наступныя вынікі: зьнішчаны недахопы па 92 заметках, перададзена ў суд спраў—2, спынена спраў за недаказанасьцю—9, не падцьвердзілася—24 заметкі. Па шэрагу заметак маюцца папярэднія паведамленьні, што яны ў працэсе расьследваньня падцьвярджаюцца.

З пададзенага можна бачыць, што *паведамленьні друку далі станоўчыя вынікі.* Нават не падцьверджаныя заметкі прынесьлі карысьць, у сэнсе накіраваньня ўвагі ўстаноў на маючыя недахопы.

*Галоўны недахоп — гэта маруднасьць расьсьледваньняў заметак.* Па частцы працяжнасьці расьсьледваньня спраў па заметках маецца такое самае нездавальняючае становішча, як з шмат якімі іншымі сьледчымі справамі. Гэта тлумачыцца як загружанасьцю сьледчага апарату і бюракратычнымі адносінамі устаноў да запытаньняў Пракуратуры па заметках, гэтак—вельмі часта—і няўважлівымі адносінамі да расьсьледваньня заметак з боку паасобных судовых работнікаў.

Патрэбна адзначыць, як дадатны момант—зьмяшчэньне перыядычных паведамленьняў у друку пра лёс рабселькораўскіх заметак. Гэта практыкуе Віцебская Пракуратура ў газ. „Заря Запада“—заметкі пад назваю—„Пракурор адказвае на заметкі рабкораў“. Тое самае практыкуе і Бабруйская Пракуратура ў газ. „Камуніст“ — заметкі п. н. „На ахове рэвалюцыйнае законнасьцьці“ — вынікі расьсьледваньняў па заметках. Але гэтая практыка далёка ня ўсюды сыстэматычна праводзіцца (Гомель, Менск і інш.). Тым часам для масавага чытача, ня кажучы ўжо пра рабселькораў, гэткія паведамленьні пракуратуры ў газэтах маюць вельмі вялікае грамадзка-выхаваўчае значэньне.

## Праца органаў ЦКК—НК РСІ Бел. па рэагаваньню на рабселькораўскія заметкі

У ЦКК—НК РСІ Бел. праводзіцца агляд 14 беларускіх газэт і часопісаў, а таксама маецца сувязь па лініі расьсьледваньня больш важных заметак з 19-ю цэнтральнымі органамі.

Для характарыстыкі работы органаў КК—РСІ па рэагаваньню на заметкі ў друку азнаёмімся з некаторымі лічбамі па гэтым пытаньні з работы ЦКК—РСІ за апошні год.

Усяго ЦКК—РСІ пры ўдзеле Акр. КК—РСІ і цэнтральных органаў расьсьледвана 320 газэтных заметак (акром тых, якія яшчэ расьсьледуюцца). Асноўная маса заметак падае на цэнтральныя беларускія газэты: „Зьвязда“, „Рабочий“, „Сав. Беларусь“, „Бел. Вёска“, „Акцябр“ (231), а з цэнтральных—большая колькасьць падае на „Праўду“ (20 заметак з 89-ці). З 320 заметак расьсьледвалася: непасрэдна апаратам ЦКК—РСІ 71—22 проц.—гэта пераважна заметкі з цэнтральных газэт і найбольш важныя заметкі з мяйсцовых газэт, АКК—РСІ паслана на расьсьледваньне—128—40 проц., у адм. парадку (праз цэнтр. сав.

органы)—65—20 проц., парторганам—31—9 проц., праворганам—9, пракуратуры—10. Апроч гэтых органаў—ЦКК—РСІ прыцягвала да расьследваньняў нізавыя парт'ячэйкі, вытворчыя і эканомкамісіі, але гэта недастаткова праводзіцца. У некалькіх выпадках вынікі расьсьледваньняў з боку ўстаноў перадаваліся для праверкі рабкораўскім кутком.

Якая колькасьць заметак зьяўляецца праўдзівамі?—вось пытаньне, якое бязумоўна заслугоўвае вялікае ўвагі.

Па данных ЦКК—РСІ аказваецца, што ў працэсе расьсьледваньня падцьвердзіліся 142 заметкі ці 44 проц., часткова—83 ці 25 проц.; не падцьвердзіліся 63 ці 19 проц., невядома—32. Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што *большасьць заметак у друку—да 70 проц.— падцьвярджаюцца.*

Вельмі цікава прасачыць таксама, як доўга цягнуцца расьсьледваньні:

22 проц. заметак расьсьледваны на працягу 7-мі дзён, 17 проц.—у працягу ½ месяца; 36 проц. у працягу 1 месяцу; 16 проц.—у працягу 2-х месяцаў; 6 проц.—у працягу звыш 2-х месяцаў і 3 проц. звыш 3-х месяцаў. *Сярэдняя працяжнасьць расьсьледваньня аднэй заметкі па лініі кантр. органаў раўняецца 1 месяцу і 5 дням, што ёсьць вельмі доўгім тэрмінам.* Побач з шэрагам аб'ектыўных умоў, што зацягваюць расьсьледваньне,—дача даручэньняў розным органам, неабходнасьць правільнага ўстанаўленьня фактаў, дальнасьць аб'ектаў у раёнах, сельсаветах, перасылка праз АКК, што затрымлівае і падаўжае тэрмін і г. д.,—*маецца аднак і шмат фактаў няўважлівых бюракратычных адносін да расьсьледваньня заметак,* у выніку чаго яны часам доўга ляжаць бяз усякага руху. Па выяўленых гэткіх канкрэтных фактах ЦКК—РСІ належным чынам рэагавала.

Цяпер паглядзімо, якія меры ўжыты ЦКК—РСІ ў выніку расьсьледваньня заметак. Ужыты тыя ці іншыя меры—паасобнымі ўстановамі ці органамі (праз Прэзыдыум ЦКК і Калегію НК РСІ)—па 164 заметкам, што ў адносінах да падцьвердзіўшых (поўнасьцю або часткова) складае 72 проц.; з гэтага ліку агульныя мерапрыемствы, што паляпшаюць сыстэму работы, або выпраўляюць высьветленыя па заметках недахопы—складаюць 30 проц.; вынесена асабістых спагнаньняў—18 проц., зьнята з работы—17 проц., перадана ў суд—7 проц.

Трэба яшчэ ўказаць на практыку рэагаваньня з боку ЦКК—НК РСІ на выкрытыя факты „абвяргацельстваў" з боку асобных устаноў, ці органаў. (Шклотрэст, БКС Праўленьне Зах. чыг., яч. НКАсьветы, Бабруйскі Саматужпрамсаюз), як праз друк—шляхам зьмяшчэньня артыкулаў і фэльетонаў у газэтах,—гэтак і шляхам накладаньня спагнаньняў на абвяргацеляў (такіх спагнаньняў вынесена па 8 выпадках), што таксама бязумоўна ўзьдзейнічае і выхоўвае працаўнікоў сав. апарату і грамадзкіх арганізацый у сэнсе ўважлівых адносін да заметак у друку.

З боку *АКК—РСІ* у адносінах рэагаваньня на заметкі праводзяцца спэцыяльныя праверкі ў гэтым напрамку (Бабруйск. АКК—РСІ—2 разы, Віцебская і Магілёўская АКК—РСІ) з задачай адпаведных дырэктыў. Акрамя гэтага разглядаюцца мяйсцовыя і паасобныя цэнтральныя газэты з мэтай рэагаваньня на заметкі, АКК вытвараюцца і непасрэдныя расьсьледваньні па важных заметках, прымаюцца адпаведныя пастановы і меры спагнаньняў (у парт. і сав. парадку) у выніку расьсьледваньняў ці няправільнага рэагаваньня на заметкі з боку ўстаноў.

Галоўнае ненармальнае становішча тут—*зацяжнасьць расьсьледваньняў* і досыць часта *нявысокая якасьць расьсьледваньняў,* што тлумачыцца шматлікасьцю заметак, падлягаючых расьсьледваньню. Гэта

аказваецца вельмі цяжкім для АКК пры невялікім уласным апараце, недастатковым яшчэ ўцягненьнем нізавога актыву ў работу КК—РСІ і невялікім вопытам работы прыцягваемых.

*Дзейнасьць Камісіі па рабселькораўскіх справах.* Акрамя разгляду заметак па сутнасьці паказаных у іх фактаў ці пасылкі на расьсьледваньне іх аднаведным органам, ЦКК—РСІ прыходзіцца расьсьледваць цэлы шэраг спраў, зьвязаных з дзейнасьцю саміх рабселькораў, з ганеньнем на іх і г. д.

Для папярэдняй прапрацоўкі і разгляду гэтых пытаньняў арганізавана, гэтак званая, рабселькораўская камісія пры ЦКК, у якую ўваходзяць 5 членаў ЦКК: 3—працуюць непасрэдна ў апараце ЦКК і 2—знаходзяцца на іншых работах (рэдактар газ. „Бел. Вёска“, Пракурор Менскай акругі). Камісія зьбіраецца па меры патрэбы, г. зн. калі маецца якая-небудзь „рабселькораўская“ справа, зьвязаная з сапраўдным ці выбражальным ганеньнем. За гэты пэрыяд камісіяй быў разгледжаны цэлы шэраг спраў, унесеных потым камісіяй у Парткалегію ці Прэзыдыум ЦКК КП(б)Бел. Напрыклад, *справа карэспандэнта Шутава,* спэцыялістага, служачага ў Кіраўніцтве Заходн. чыг. Па яго справе старшыня Праўленьня зьняты з работы і атрымаў партспаганьне. *Справа рабкора Самкова,* які быў звольнен за сваю рабселькораўскую дзейнасьць. Пасьля расьсьледваньня ён быў адноўлен на рабоце. Па пайсканьні аб выплаце яму за вымушаны прагул, хоць і пасьля доўгае зацяжкі ў судовым парадку ён быў задаволен. *Справа рабкора Агейчыка,* звольненага па тых самых матывах. ЦКК, разглядзеўшы гэтае пытаньне, паставіла на від Мазырскае Пракаратуры, профсаюзным арганізацыям Рабземлесу і Мазырскай КК, якія чамусьці пры расьсьледваньні не знаходзілі дастатковых матар'ялаў для абвінавачваньня прасьледваньняў рабкораў. Заг. савгасам прапанована зьняць з работы. Разам з гэтым даручана было Пракурору па працоўным справам разглядзець справу Агейчыка і забясьпечыць яго працоўныя правы. Акрамя таго разглядаліся такія самыя справы рабкораў Гурэвіча і Маластоўкера, вырашаныя на іх карысьць.

Пры разглядзе рабселькораўскіх спраў маюцца і выпадкі адваротнага парадку т. з. „лжэрабкораў“, калі рабселькоры выкарыстоўваюць сваё званьне і становішча ў карысьлівых мэтах і г. д. (справы селькораў Шыманоўскага, Парфіяновіча і інш.). Але мы тут на гэтым зьявішчы не застанаўліваемся, бо гэта асобнае пытаньне.

На гэтым можна скончыць характарыстыку ўсяе пастаноўкі справы рэагаваньня на заметкі, зьмешчаныя ў друкаваных газэтах.

Пярэйдзем да насьценгазэт.

## Як рэагуюць на заметкі ў насьценгазэтах

### Зьмест насьценгазэт палепшыўся

За апошні пэрыяд (у зьвязку з разгортваньнем самакрытыкі) у насьценгазэтах павялічылася асьвятленьне недахопаў на прадпрыемствах і ва ўстановах і высоўваньне канкрэтных прапаноў па палепшаньню работы, хаця агульныя кампанейскія заметкі яшчэ займаюць значнае мейсца. Адзначаны рад каштоўных заметак аб патаненьні сабекошту прадукцыі і палепшаньню яе якасьці, аб рацыяналізацыі вытворчасьці, а таксама аб бытавых балячках—п'янству, лаянцы і інш. формах някультурнасьці; аб антысэмітызьме. У іншых газэтах асьвятляліся пытаньні аб працдысцыпліне, факты бюракратызму, безгаспадарчасьці. Слаба закрануты ў газэтах пытаньні аб 20 проц. зьніжэньні выдаткаў.

Гэтыя даныя сьведчаць аб узрастаючай актыўнасьці і зацікаўленасьці зьнізу—у масах, да пытаньняў рацыяналізацыі вытворчасьці і савецкага апарату, да выкрыцьця балючых зьявішч і ўнясеньня канкрэтных прапаноў па ўсім гэтым момантам.

## А як рэагуюць?

Між тым *з рэагаваньнем на заметкі ў насьценгазэтах*—у першую чаргу з боку адміністрацыі—*справа яшчэ горшая, чымся па заметках у друку* (Бабруйск, Менск), хаця ў параўнаньні з мінулым і маецца некаторае палепшаньне ў гэтым напрамку (некалькі дапамагла пастанова ЦКК—РСІ Бел. аб абявязковым рэагаваньні на рабселькораўскія заметкі, агульна-партыйныя дакумэнты, як адозва ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы і інш.). Гэтак да прыкладу абстаіць справа—з ліку абсьледваных—у Шклотрэсьце, зав. „Пролетары“ (Менск) і „Пролетарий“ (Гомель); ва ўстановых, аб'яднаемых Саюзам Транспартных рабочых.

А ёсьць, што і зусім не адказваюць: Камгас, зав. „Чырвоная Зара“ (Менск), у некалькіх абсьледваных прадпрыемствах Бабруйску і інш.

Гэткае становішча, між іншым, зьвязана з настроямі, што насьценгазэт, нібы, усё адно ня чытаюць, што яны ня маюць гэткага значэньня, як друкаваныя, якія чытаюць розныя кіруючыя органы за межамі прадпрыемстваў ці ўстаноў.

На запытаньні адміністратары адказвалі—„няма часу“, ці „проста ня лічыў патрэбным адказваць“ (Бабруйск), а ў Віцебску адміністратары Паўн.-Зах. чыг. рабілі спробы ўхіліцца ад адказаў на тэй падставе, што, нібы, існуюць загады аб тым, што не абавязкова адказваць на заметкі, замоўчваючы аб загадах адваротнага зьместу.

Па даных газэты „Зьвязда“ ў Менску па 60-ці насьценгазэтах атрымліваюць адказы—15, пасьля вялікага націску і напамінаў—29, а на 16 прадпрыемствах адміністрацыя ўпарта не адказвае на заметкі, ня гледзячы на ўсе меры, што ўжываюцца.

Побач з гэтым, аднак, абсьледваньнем устаноўлена, што маюцца паасобныя прадпрыемствы і ўстановы, дзе адміністрацыяй даюцца сваечасовыя адказы на заметкі ў насьценгазэтах. Сюды ў першую чаргу адносяцца прадпрыемствы, дзе выдаюцца друкаваныя насьценгазэты: завод „Бальшавік“ (Менск), „Палесдрук“ (Гомель), а таксама інш. газэты, напрыклад: Страхкаса (Гомель), газэта чыгуначнікаў „Сігнал“, шпалерная ф-ка (Менск). Заслугоўвае ўвагі дадатная практыка насьценгазэты на ф-цы „Двигатель революции“ (Гомель). Адміністрацыя на заметкі кожнага выпуску газэты афіцыйна паведамляе рэдакцыю, што ўжыта па тэй ці іншай заметцы і якія атрымаліся вынікі. Пасьля гэтага рэдкалегія разглядае на сваім пасяджэньні, наколькі ў адказах адміністрацыі вычарпаны ўсе магчымасьці па зьнішчэньню таго ці іншага недахопу і, калі адказ адміністрацыі нездавальняючы, рэдкалегія патрабуе больш дакладнага вывучэньня таго ці іншага пытаньня. Аб усім гэтым паведамляюцца зацікаўленыя насьценкоры.

У адносінах да якасьці шмат якіх адказаў, што даюцца адміністратарамі (калі яны ўжо даюцца), прыходзіцца адзначыць, што часта яны зьяўляюцца толькі адпіскамі, але не адказамі па сутнасьці заметкі, ці паведамленьнямі, што канкрэтна ўжыта па заметцы. На жаль, аб гэткіх фактах могуць сказаць амаль што ўсе насьценгазэты.

### Дасягненьні насьценгазэт

Адсутнасьць у рэдкалегіях насьценгазэт вучоту дасягненьняў і наогул усяе свае работы не дае магчымасьці ўстанавіць, як адхіляюцца недахопы, адзначаемыя ў заметках, якіх вынікаў дабіваюцца насьценгазэты. Агульны падлік па 8 газэтах (за першыя месяцы 1928 г.) паказаў, што недахопы зьнішчаліся толькі на 30 проц., што, зразумела, зусім недастаткова. Найменшы процант дала насьценгазэта Службы Цягі МББ (Магілёў), дзе па 231 заметцы ўжыты меры толькі ў 23 выпадках, што складае толькі 10 проц.

Па тых насьценгазэтах, якія дабіліся афіцыйных адказаў ад адміністрацыі, процант ажыцьцяўленьня прапаноў па заметках значна большы, напрыклад: па Палесдруку—Гомель з унесеных прапаноў праведзена ў жыцьцё 70 проц. Як на прыклад дасягненьня значных вынікаў у сваёй рабоце, можна ўказаць на насьценгазэту цагельняў Гандльстрою ў Менску, якая дабілася пераходу на агульнае ацяпленьне печаў, што дае 10.000 р. эканоміі ў год; на службе руху МББ чыг. насьценгазэта „Чырвоны сэмафор“ дапамагла ўдакладніць манэўравую работу. На фабрыцы „Чырвоная Бярэзіна“ па прапановах рабкораў зьняты з работы тры прагульшчыкі, звольнены прынятыя бяз біржы працы 2 рабочыя, арганізована ячэйка па барацьбе з алкагалізмам, арганізавана часовая кантрольная камісія і г. д. Віцебская насьценгазэта „Транспартэр“ узьняла рад важных пытаньняў аб якасьці прадукцыі, аб ахове заводу, аб лішнім штату і інш. Газэта арганізавала пераклічку з гутай. Па ініцыятыве насьценгазэты арганізавана ячэйка па барацьбе за цьвярозасьць. Газэта Акргандлю—„Гандлёвы працаўнік“—выкрыла рад злачынстваў у Белпайгандлі, Хлебапрадукце, Рудмэталгандлі, дзякуючы чаму група работнікаў гэтых устаноў прыцягнута да судовае адказнасьці. Дзякуючы выкрыцьцю ў насьценгазэце зьняты з работы служачы-антысэміт. Дзякуючы сьмелай крытыцы (з пералічэньнем прозьвішчаў) у насьценгазэце „Ерш“ (Менскі сьпіртаводачны завод) зьнішчана п‘янства на прадпрыемстве, што некаторы час наглядалася на гэтым заводзе.

Значныя дасягненьні ёсьць і ў вёсках па матар‘ялах „Зьвязды“, шэраг насьценгазэт у Бабруйскай акрузе (*вёскі Бугаціна, Кружаноўка, Дабравольшчына, Князь-Возера, Новыя Дарогі* і інш.) прапаганду сельска-гаспадарчых ведаў вядзе ня толькі праз зьмяшчэньне заметак, але і практычна, праз закладку калектыўных і індывідуальных паказальных вучасткаў, на справе даводзячы селяніну карысьць ад тых ці іншых культур. У гэтых вёсках у бягучым годзе былі закладзены паказальныя вучасткі з пасевамі караньплодаў і траў. Насьценгазэта ў *В. Крушынскім сельсавеце*, Рагачоўскага раёну выявіла 100 дзесяцін стоенай ад вучоту зямлі, арганізавала ячэйкі Асоавіяхіму і інш. Газэта *в. Кабанаўка* дамаглася таго, што Камітэт Узаемадапамогі пабудаваў сьвіран для хаваньня хлеба, дабіліся арганізаваньня мэліярацыйнага таварыства, абсталяваньня чырвонага кутка, дала матар‘яльную дапамогу пагарэльцу. Насьценгазэта ў *в. Тарасевічы* зьвярнула ўвагу камітэту сялянскае ўзаемадапамогі на нядбайнае захаваньне інвэнтару. Інвэнтар быў прыбраны і прыведзены ў парадак. Па ініцыятыве насьценгазэты ў *в. Бугаціна* адрамантаваны мост, 9 чалавек за розныя ўчынкі прыцягнуты да суду. У *вёсцы Пацэвічы* насьценгазэтай было ўзьнята пытаньне аб пераходзе ў савгасе на зьдзельную аплату. Прапанова была прынята і дзякуючы гэтаму ўдалося павысіць вытворчую дысцыпліну. У *Рагачоўскім лясьніцтве* па заметцы ў насьценгазэце зьняты з работы служачы. Рэдкалегіяй *в. Навасёлкі* (Бабр. акр.) па заметкам грамадзян узьнята 16 сьледчых спраў, засуджана па заметках 10 асоб.

Гурткам пры насьценгазэце арганізаваны лікпункт, дзе навучаюцца 30-40 ч., а ў бліжэйшай вёсцы—пажарная дружына.

Звычайна меры, якія ўжываюцца насьценгазэтамі да атрыманьня адказаў—гэта перадача адбіткаў заметак адміністрацыі, ці парт'ячэйцы і фабзавмясцкому. Заводзяцца аддзелы ў насьценгазэтах „Адміністрацыя адказвае“, ці „Што робіцца па заметках“. Пішуцца выкрываючыя заметкі ў насьценгазэтах адносна „маўчаньня“ зацікаўленых асоб ці пагражаюць паслаць матар'ял у друкавую газэту. У 1-й Дзярждрукарні, Меншвеі, у гарадзкой пажарнай камандзе, на службе руху МББ чыг. і інш. прадпрыемствах у Менску—вылучаны па 1—2 чалавекі для напамінаньняў адміністрацыі. На зав. „Бальшавік“ (Менск) створана Бюро Расьсьледаваньняў. Шэраг рэдкалегій у Менску спрабавалі ўзьдзейнічаць на адміністрацыю праз бюро парт'ячэйкі (Шклозавод „Пралетары“, сьпіртазавод, ЦСК і інш).

Усе гэтыя факты сьведчаць аб тых цяжкасьцях і недапушчальных адносінах, якія маюцца па справе рэагаваньня на заметкі і ў барацьбе за дасягненьне вынікаў па заметках.

Але трэба разам з гэтым указаць, што *маюцца таксама рэдкалегіі насьценгазэт, якія ня цікавяцца вынікамі зьмешчаных заметак, недастаткова настойлівы ў патрабаваньні адказаў ад адміністрацыі* (Віцебск, Камгас—Менск).

## Пра парткіраўніцтва і ўвагу нізавых праф'ячэек

*Вельмі нязначную ўвагу прызначаюць насьценгазэтам парт'ячэйкі і фабзавмясцкомы* як у адносінах агульнага кіраваньня, гэтак і ў адносінах дапамогі насьценгазэтам у справе атрыманьня адказаў ад адміністрацыі, каб падштурхнуць апошнюю (адміністрацыю) на сваечасовыя і сапраўдныя адказы па заметках. *Сярод 427 анкет па Беларусі, прадстаўленых да Усесаюзнай Рабсельк. Нарады, няма ніводнай, якая-б гаварыла аб выстарчальным парт. кіраўніцтве газэтамі.* Гэтыя скаргі на адсутнасьць належнага парткіраўніцтва носяць масавы характар. Некаторыя рэдкалегіі гатак і заяўляюць—няма парткіраваньня, таму работа насьценгазэт слабая.

Але акрамя гэтага нават у адносінах да заметак, якія датычацца *непасрэдна парт. ячэек і фабзавмясцкомаў*, апошнія не заўсёды сваечасова, або зусім не адказваюць (чыг. МББ Віцебск, Камгас, Шклотрэст, Шпалерная ф-ка Менск і інш.).

Як вынік нерэагаваньня на заметкі, наплявацельскіх адносін да прапаноў насьценкораў—маюцца факты адыходу ад рабкораўскае работы. Напрыклад, на зав. „Пралетары“ (Менск) у 26-27 г. лічылася 32 рабкоры, а ў зьвязку з ігнараваньнем адміністрацыяй заметак рабочых, да моманту абсьледваньня (ліпень 28 г.), засталося толькі 10 рабкораў. Гэтае становішча адзначана па панчошнай ф-цы (Віцебск), дзе „лік рабкораў памяншаецца, і насьценгазэта з кожным выпускам становіцца ўсё горшаю, паслабляецца аўтарытэт газэты ў вачох рабочых“ („Заря Запада“ 11 мая г. г.).

З гэтае самае прычыны былі заявы рабочых, што „няма сэнсу пісаць, калі адгэтуль толку ня выходзіць. Усё адно адміністрацыя па заметках нічога ня робіць“. На другім прадпрыемстве па тых самых прычынах амаль што спыніўся прыток заметак аб вытворчасьці.

## Факты агідных адносін да насьценгазэт

За апошняе паўгодзьдзе, у зьвязку з рашучай выкрываючай работай насьценгазэт адзначаецца шэраг фактаў агідных адносін і проста зьдзекаў над насьценгазэтамі.

Так, напрыклад, на зав. „Пролетарий“ (Гомель) 12/VI была разарвана насьценгазэта ў зьвязку з зьмяшчэньнем выкрываючых заметак пра аднаго майстра, пра міліцыянэра, што заснуў на варце, пра некаторыя праявы антысэмітызму. На агульным сходзе рабочых гэты ўчынак быў рэзка асуджаны і справа перадана пракуратуры.

Таксама разарвалі насьценгазэту на Менскім хлебазаводзе, дзе былі зьмешчаны заметкі і карыкатуры на тэму пра агідныя хуліганскія выхадкі 4-х рабочых заводу. І тут агульны сход рэзка пратэставаў супроць выхадкі хуліганаў і ўсю справу перадаў судовым органам з просьбай разглядзець справу на заводзе ў прысутнасьці ўсіх рабочых.

Нячуваны факт зьдзекаў над насьценгазэтай меў мейсца ў Барысаве ў працкалектыве швэйнікаў. Тут газэта была сарвана са сьцяны і прыбіта цьвікамі да ўборнай. Гэты ўчынак зрабіў адзін рабочы працкалектыву—антысэміт, якога газэта неаднаразова прабірала за розныя прадзелкі і якому, акром гэтага, не спадабалася, чаму газэту п. н. „Ройтэ нодл“ выдаюць на яўрэйскай мове. Надзвычайны сход рабочых аднагалосна выключыў хулігана-антысэміта з Саюзу і патрабаваў тэрміновага ўмяшательства ў гэтую справу Пракуратуры.

У газэце служачых Полацкага Акрза і інш. устаноў п. н. „Наша жыцьцё“ ў нумары за 7/VIII быў надрукован артыкул з карыкатурай на тое, што акруговы аграном Ламака лаецца на служачых, быў выпадак, калі ён кінуў ключамі ў жонку вартаўніка, якая знаходзілася з малым дзіцём на руках. Ламака ўзяў алавок і напісаў „рэзалюцыю“ на артыкул, у якой абазваў усю рэдкалегію „хуліганамі“. Мясцком Акрза выключыў Ламаку з сяброў саюзу. Газ. „Сав. Беларусь“ патрабавала прыцягненьня яго да крымінальнай адказнасьці.

Газэтай „Зьвязда“ зафіксаваны наступныя выпадкі агідных адносін да насьценгазэт. З насьценгазэты „Чырвоны Сэмафор“ на службе руху МББ чыг. нейкі хуліган нядаўна павырываў карыкатуры. У Белкаапсаюзе насьценгазэта „Работнік каапэрацыі“ выходзіць з вялікімі перапынкамі толькі таму, што паасобныя супрацоўнікі зрываюць заметкі, карыкатуры, пішуць нецэнзурныя надпісы і г. д. Нават у Менскім Белпэдтэхнікуме быў выпадак, калі студэнт выразаў заметку, якая яму не спадабалася, а замест яе ўклеіў другую з плёткамі пра аўтара першае заметкі. Па дамаганьні рэдкалегіі гэтым студэнт быў выключаны з камсамолу і прафсаюзу.

## Пытаньні сувязі насьценгазэт з рэдакцыямі газэт і інш. органамі

Па ўсіх абсьледваных насьценгазэтах выяўлена *слабая сувязь да апошняга пэрыяду паасобных рэдкалегій з органамі КК—РСІ і судова-сьледчымі органамі* (выключэньнем зьяўляюцца друкаваныя насьценгазэты). Амаль што няма фактаў, калі-б рэдкалегіі звярачваліся за дапамогай, ці перадавалі-б свае матар‘ялы або зьмешчаныя заметкі ў кантрольныя ці судова-сьледчыя органы. Як на ўзоры агульнага дзелавога кіраўніцтва і дапамогі насьценгазэтам з боку кантрольных органоў, можна ўказаць на праведзеныя паасобнымі АКК—РСІ абсьледваньні, асабліва ў адносіне выяўленьня ўзьдзейнічаньня рабкораўскіх заметак (Бабруйск, Віцебск і інш.). У выніку гэтых абсьледваньняў насьценгазэтам даваліся адпаведныя дырэктывы на далейшую іх работу. Акром таго ЦКК—НК РСІ разаслалі нядаўна ліст пра парадак устанаўленьня практычных форм сувязі з органамі КК—РСІ.

Нельга прызнаць здавальняючай сувязь рэдкалегій друкаваных газэт з рэдкалегіямі насьценгазэт. У гэтым напрамку робяцца агульныя

(гарадзкія) агляды насьценгазэт, але вельмі рэдка (Менск, Віцебск). Сувязь-жа з паасобнымі рэдкалегіямі і інструктыўныя работы і дапамога насьценгазэтам, як агульнае правіла, пастаўлена нездавальняюча.

* * *

Вось якавы найбольш важныя факты высьвятленьня пры праверцы рэагаваньня на заметкі ў друку і насьценгазэтах.

На падставе гэтых матар'ялаў распрацованы шэраг мерапрыемстваў і канкрэтных прапаноў адносна парадку рэагаваньня на заметкі з боку прадпрыемстваў і ўстаноў, парт. і праф. органаў, рэдакцый газэт, кантрольных і судова-сьледчых органаў. Усе гэтыя прапановы маюць адну асноўную мэту: *перамагчы бюракратычную руціну і дабіцца хуткага рэагаваньня на заметкі ў друку і насьценгазэтах.*

---

# НАША ТРЫБУНА

С. Такмачоў

## Сялянская сельска-гаспадарчая школа і рэканструкцыя сялянскае гаспадаркі[1])

Рэканструкцыя сельскае гаспадаркі выяўляе сабою сумарны працэс каранных перамен у тым складным арганізацыйным цэлым, якім зьяўляецца асабовае сельска-гаспадарчае прадпрыемства.

Ці чапае рэканструкцыйны працэс сацыяльны бок гаспадаркі, перайначваючы дробнае індывідуальнае с.-г. прадпрыемства ў абагуленую гаспадарку (калектывізацыя) ці перайначвае ён які-небудзь фактар гаспадаркі, напрыклад, арганізацыю працы, замяняючы ручную працу мэханічнымі процэсамі (мэханізацыя вытворчасьці), ці рэканструкцыя распаўсюджваецца на ўсю гаспадарку цалкам, перабудоўваючы яе галіны, перамяняючы зусім напрамак гаспадаркі, робячы яе, напрыклад, са спажывецкае—гаспадаркаю таварнаю (рэарганізацыя гаспадаркі) ва ўсіх выпадках гэты працэс ставіць гаспадаруючага чалавека ў зусім новыя ўмовы гаспадараньня і пагэтаму патрабуе ад яго новых ведаў, звычак і ўмельства.

У прыватнасьці калектывізацыя, ствараючы іншыя сацыяльныя ўзаемаадносіны, звычайна трапляе пры сваім правядзеньні на вёсцы на індывідуалізм дробнага гаспадара, псыхалёгія якога заўсёды адзначалася вядомым гаспадарчым кансэрватызмам. Зьнішчыць гэты кансэрватызм можна толькі шляхам укараненьня ў сьвядомасьць селяніна поўнае ўпэўненасьці ў тым, што калектыўныя прынцыпы шмат карысьней у параўнаньні з аднаасабовымі спосабамі вядзеньня сельскае гаспадаркі. Такой перакананасьці вельмі дапамагае адукацыя, перадача пануючуму пласту вёскі пэўнае супольнасьці ведаў. Яе нельга стварыць шляхам аднэй ці двух папулярных лекцый, распаўсюджваньнем тых ці іншых плякатаў на адпаведныя тэмы. Сродкаў агітацыі, якімі могуць толькі цікавіцца—тут мала, яны павінны быць заменены сродкамі прапаганды, якія даюць цьвёрдую перакананасьць.

Калі ідэя калектывізму, як вышэйшая форма гаспадарчае дзейнасьці чалавека, для свайго распаўсюджваньня патрабуе вядомага ўзроўню інтэлектуальнага разьвіцьця грамадзтва, дык абагульваньне працэсу с-г. вытворчасьці выклікае патрэбу пэўнага ўзроўню сельска-гаспадарчае адукацыі ў тэй часьці грамадзтва, якая занята ў сельскай гаспадарцы. Пакуль гэты ўзровень ня будзе дасягнуты, грамадзкія формы сельскай гаспадаркі бадай што ня могуць разьлічваць на шырокае распаўсюджаньне і далейшае ўдасканаленьне. Сярод насельніцтва недастатна культурнага, якое ня мае ў патрэбнай ступені спэцыяльных ведаў, гэтыя формы асуджаны на застой.

Каб прысьпешыць тэмп абагульваньня сельскае гаспадаркі і дасягнуць цьвёрдасьці ўзьнікаючых калектываў, трэба як мага хутчэй

---

[1]) У парадку пастаноўкі пытаньня.

ставіць на практычную глебу пытаньне аб сельска-гаспадарчай асьвеце вёскі, надаўшы яму маштаб дзяржаўных мерапрыемстваў.

Гэтая асьвета ёсьць канечне патрэбнай і з пункту гледжаньня разьвіцьця прадукцыйнасьці тае масы дробных распыленых сялянскіх гаспадарак, якія застаюцца яшчэ пакуль што па-за працэсам абагульненьня, як самастойна функцыянуючыя гаспадарчыя адзінкі. Да гэтага часу яны зьяўляюцца асноўным таваравытворцам у нашай сельскай гаспадарцы, які стварае сур'ёзную базу прамысловасьці. І таму пытаньне рэканструкцыі іх выяўляе сабою таксама адну з найбольш тэрміновых і істотных праблем народнае гаспадаркі.

Вядома, што з боку дзяржавы ў мэтах палепшаньня сельскае гаспадаркі робіцца цэлы шэраг мерапрыемстваў, зьвязаных з вялізнымі выдаткамі. Аднак, нельга ня бачыць, што ўся гэтая сыстэма мерапрыемстваў, дайшоўшы да вёскі, урэшце ўпіраецца ў волю гаспадарчага чалавека. Вядома, дзяржава можа, рэгулюючы экономічныя ўмовы, дапамагаць таму ці іншаму працэсу рэканструкцыі гаспадаркі, але практычнае ажыцьцяўленьне яго ўсё-ж будзе залежыць ад сьвядомасьці гаспадара, яго актыўнасьці і арганізацыйнага ўмельства. Было-б памылкаю імкнуцца зьмяніць творчую ініцыятыву сялянства дзейнасьцю агранома-арганізатара, які думае аб гаспадары, арганізуе і стварае новыя формы гаспадаркі апроч гаспадара.

Падобную ролю наогул немагчыма выканаць і роля савецкага агранома ў сапраўднасьці не такая.

Зьяўляючыся правадніком сельска-гаспадарчае палітыкі дзяржавы, аграном, па сутнасьці свае працы абслугоўваньня гаспадарчых запатрабаваньняў сялянства, застаецца ў той-жа час грамадзкім аграномам. Асноўная задача сучаснага агранома, ад умельства выканаць якую залежыць посьпех усяе яго дзейнасьці, стаіць ва ўвязцы дырэктыў дзяржаўнае ўлады, якая рэгулюе эвалюцыю сельскае гаспадаркі, з шырокай ініцыятывай і самадзейнасьцю сялянскіх мас. Такім чынам гаспадарчая творчасьць самога сялянства складае самы галоўны момант у працэсе рэарганізацыі сельскае гаспадаркі. Насколькі-б ня былі правільныя дырэктывы плянуючых дзяржаўных органаў, у якой-бы ступені ня быў падрыхтован да іх правядзеньня аграномічны пэрсанал, але без сьвядомае волі гаспадарчага чалавека наўдачу ці можа гэтыя дырэктывы зрабіць жыцьцёвымі. І чым больш мяркуецца паглыбіць рэканструкцыйны працэс, тым складаней робіцца роля самаго гаспадара, тым больш трэба яму спэцыяльных ведаў і тым пільней становіцца патрэбнасьць вёсцы сельска-гаспадарчае адукацыі.

Якім-жа чынам даць вёсцы гэтую адукацыю?

Вядома, што існуючыя спосабы распаўсюджаньня с.-г. ведаў сярод дарослага земляробскага насельніцтва маюць характар эпізодычных гутарак-лекцый і кароткатэрміновых курсаў. Аграном праводзіць на вёсцы адну-дзьве гутаркі з тым, каб туды больш не зьяўляцца цэлы год.

Зусім натуральна, што вынікі гэтых спосабаў пазашкольнае адукацыі з пункту гледжаньня рэканструкцыі гаспадаркі блізкі да нуля.

Асобная с.-г. гутарка можа павярхова азнаёміць селяніна з якім-небудзь адным тэхнічным спосабам, але часта ня можа ўзброіць яго тым мінімумам ведаў, а тым больш умельствам, якія яму патрэбны для ажыцьцяўленьня на справе нават аднаго спосабу палепшаньня гаспадаркі.

Здавалася-б, у чым цяжкасьць, каб даць сялянам элемэнтарныя правілы, як карміць скаціну па дацкім спосабе? У сапраўднасьці — перад гаспадаром, які рашыў перайсьці да гэтага спо-

сабу палепшаньня гаспадаркі, устане адразу-ж шэраг пытаньняў: яму трэ' будзе ўмець без вагі вызначыць, колькі важыць жывая жывёліна, дасканала падлічыць удой, складаць кармавыя нормы і рацыёны, умельства разьлічваць і разьмяркоўваць колькасьць корму найбольш эканомна, яму прыдзецца ўзгадняць інтэнсыўнасьць летніх пашаў з зімовым кармленьнем у стойле, а ўзровень скармленьня, наогул, узгадніць з утрыманьнем і спосабам догляду за жывёлаю і г. д. Каб справіцца з задачаю палепшаньня жывёлаводзтва, гаспадар, як відаць з гэтага, павінен ведаць цэлы комплекс ведаў з галіны зоотэхнікі, кормаздабытку, арганізацыі гаспадаркі. І гэта зусім зразумела, таму што гаспадарка—не конглёмэрат галін, у супольнае цэлае, у якім кожная частка функцыянальна зьвязана з другой часткаю. Пагэтаму перамена аднаго элемэнту гаспадаркі няўхільна адбіваецца на стане іншых частак зьвязанага цэлага і патрабуе адпаведнае іх перамены. Просты спосаб, напрыклад, увядзеньне зялёнага ўгнаеньня на папары выклікае перамены ў арганізацыі летняга кармленьня жывёлы, выклікае пытаньне аб разьмеркаваньні на палёх угнаеньня, г. зн. ставіць перад гаспадаром шэраг задач арганізацыйна-эканамічнага характару.

Такіх прыкладаў можна было-б даць колькі хочаш, і ўсе яны гаварылі-б за тое, што рэканструкцыя сялянскае гаспадаркі, ня гледзячы на тое, што здаецца элемэнтарнай яе структура, патрабуе ад гаспадара не адрывачных зьвестак аб некалькіх палепшаных спосабах тэхнікі, а поўнага ўзроўню с.-г. разьвіцьця, якое набываецца толькі сыстэматычнай спэцыяльнай адукацыяй. Вось чаму пазашкольныя формы распаўсюджваньня сельска-гаспадарчых ведаў не даюць дастатнага эфэкту ў сэнсе глыбокіх перамен у арганізацыйнай структуры сялянскае гаспадаркі. Як паказала практыка, гэтыя формы не заўсёды гарантуюць нават тэхнічны бок выкананьня ўвадзімых палепшаньняў. Вядомыя выпадкі, калі сяляне пад уплывам агранамічнае агітацыі пачыналі ачышчаць усё насеньне, а наступным годам ад гэтага спосабу адмовіліся. У большасьці выпадкаў прычыны такога рэцыдыву заключаюцца ў тым, што ачыстка і сартаваньне насеньня дапамагае падвышэньню ўраджаю толькі тады, калі сеяць на досыць плоднай і ачышчанай ад сураў глебе. Пасеяўшы адсартаваным насеньнем, але пакінуўшы глебу як і раней няўгноенай і засуранай, гаспадар, зразумела, не атрымае добрага выніку.

Такія-ж няўдачы іншы раз спатыкаюць увядзеньні культуры лубіну ці пасеюць яго на не зараджанай глебе, ці вельмі глыбока засыплюць насеньне, ці пасеюць на халодную зямлю, ці не праверыўшы ўсхожасьць, засяваюць палі мала ўсхожым насеньнем.

У падобных выпадках часта вінавацяць агранома. Але калі ў асобнай буйной гаспадарцы, дзе ёсьць сталы тэхнічны нагляд за работамі, адміністрацыя часам ня мае магчымасьці дагледзець за ўсімі работамі, дык хіба можна чакаць ад раённага агранома, каб ён праінструктаваў і пракарэктаваў у распыленых сялянскіх гаспадарках увадзімыя спосабы новае палявое тэхнікі. Не дапаможа справе ў даным выпадку і павялічэньне сеткі з давядзеньнем памеру агравучасткаў на вялічыню нават пад абшар сельсавету. З гэтага вынікае, што і тут адзінай парукай пасьпяховасьці мерапрыемстваў па палепшаньню сялянскае гаспадаркі зьяўляецца культурны гаспадар, які атрымаў сыстэматычную сельска-гаспадарчую падрыхтоўку.

І, такім чынам, праца па перабудове сялянскае гаспадаркі ня мае ніякага сэнсу сіламі аднае агранамічнае арганізацыі без сьвядомага актыўнага ўдзелу ў ім самога сялянства.

А паколькі рэканструкцыя выяўляе сабаю складаны працэс перамен, які закранае самыя асновы арганізацыі гаспадаркі—гэты ўдзел сялянства абумаўляецца пэўным узроўнем с.-г. разьвіцьця, які можа быць дасягнут толькі за дапамогаю школы, хаця-б і самога элемэнтарна а тыпу.

За мяжою даўно ўжо прызналі ўсё значэньне сельска-гаспадарчае адукацыі для дарослага земляробчага насельніцтва. І ў такіх краёх, як Данія, Нямеччына, Швэцыя—цяпер шырока распаўсюджаны так званыя зімовыя с.-г. школы, якія зрабіліся сапраўднымі рычагамі ўзьняцьця с.-г. культуры. Трэба думаць, што і ў нас падышоў час, калі на пытаньні аб арганізацыі спэцыяльных с.-г. школ пара зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

Найбольш мэтазгодным тыпам школы для гаспадарчага насельніцтва зьяўляецца зімовая сялянская школа. Яе можна назваць таксама школаю сялянскае гаспадаркі, таму, што задачаю яе ёсьць палепшаньне і перабудова іменна сялянскае гаспадаркі.

Характэрна для гэтае школы тое, што яна аніяк ня рыхтуе служачых, маючы мэтаю даць адукацыю гаспадару. Падкрэсьлім яшчэ раз, што гэтая школа выключна для дарослых земляробаў. Пагэтаму яна не павінна адрываць іх у часе навучаньня ад гаспадаркі. Адсюль, тэрмін тэарэтычнага навучаньня ў ёй абмяжоўваецца зімовымі месяцамі (ад лістапада да красавіка), калі ў сельскай гаспадарцы спыняецца палявая праца.

Усё навучэньне ў школе вядзецца наглядымі мэтадамі [1]), якія здольны забясьпечыць поўнае прысваеньне вучэбнага матар'ялу малападрыхтаванымі слухачамі. Зусім зразумела, што па напрамку свайго навучаньня гэтая школа практычнага тыпу, якая мае ў цэнтры свае ўвагі праблему рэарганізацыі сялянскае гаспадаркі. Выкарыстаны ў працэсе выкладаньня вучэбны матар'ял яе мае мясцовы характар. Ці будзе гэтая школа даваць веды аб глебе, расьліннасьці, шкодных казяўках, машынах, снасьцінах, палявых культурах, севазваротах, спэцыяльных відах сельска-гаспадарчае каапэрацыі і г. д.—усюды школа спыняецца пераважна на тых аб'ектах, якія маюць практычнае значэньне ў мясцовай сельскай гаспадарцы.

Ці трэба наогул гаварыць аб тым, што такая школа ня выдае сваім слухачом якіх-небудзь пасьведчаньняў і атэстатаў, таму што ў яе прыходзяць не па службовыя правы, а па веды.

Пэдагогічны пэрсонал школы, скончыўшы зімовы сэзон, з вясны кіруе працаю сваіх слухачоў у іхных-жа гаспадарках, інструктуючы сялян па пытаньнях палявое тэхнікі, увядзеньня новых для сялянскае гаспадаркі машын, снасьцей, культур, перамены палеткаў, і іншых пытаньнях рэконструкцыі гаспадаркі. Летняя праца вучняў школы служыць замацаваньнем і прыстасаваньнем на практыцы тых ведаў, якія атрыманы імі за час зімовага навучаньня. А настаўнікам школы ўдзел у практычнай працы перабудовы сялянскае гаспадаркі дае агранамічны матар'ял, які выкарыстоўваецца імі для палепшаньня пастаноўкі навучаньня новых слухачоў.

Посьпех і папулярнасьць сялянскіх школ у значнай ступені залежыць ад агранамічнага вопыту, ведаў і пэдагагічнай падрыхтоўкі настаўніцкага пэрсаналу. Стварэньнем гэтага кадру неабходна пакла-паціцца ў першую чаргу, калі рашаць у станоўчым сэнсе пытаньне аб распаўсюджваньні на вёсцы с.-г. ведаў за дапамогаю школьнае арганізацыі.

[1]) Больш падрабязна аб пастаноўцы навучаньня гл. нашую брашуру „Школа крестьянского хозяйства", выд. Наркамзему БССР, 1925 г.

Галоўнейшы недахоп пазашкольных формаў адукацыі, і ў прыватнасьці сельска-гаспадарчых курсаў, за дапамогаю якіх у гэты час аграномы распаўсюджваюць па вёсцы с.-г. веды—заключаецца ў тым, што яны праводзяцца з пэдагагічнага боку выпадковым пэрсаналам.

Перадаць с.-г. веды, пераканаць умудранага сваім уласным вопытам селяніна ў іх праўдзівасьці і навучыць яго прыстасоўваць гэтыя веды ў цяжкіх умовах сялянскае гаспадаркі—гэта справа ня так простая і лёгкая, каб яе мог выканаць кожны аграном. Было-б памылкаю думаць, што кожны аграном можа быць у той самы час і пэдагогам. Трэба прызнаць, што пэдагогічная справа—асобная спэцыяльнасьць, а навучаньне с.-г. навуцы дарослага селяніна—спэцыяльнасьць асабліва складаная. Агра-працаўнікоў з пэдагогічным ухілам вельмі мала сярод нашых грамадзкіх аграномаў.

Параўнаўча з курсамі школа, маючы сталы настаўніцкі пэрсанал, які мае і рацыянальныя мэтады выкладаньня, штогод паляпшаючы іх шляхам зьбіраньня пэдагогічнага вопыту—магчымасьць, якое ня маюць формы пазашкольнае с.-г. адукацыі, у прыватнасьці с.-г. курсы, якія спорадычна організоўваюцца і таксама хутка ліквідуюцца.

Урэшце, гэткі сродак навучаньня, як наглядныя навучальныя падручнікі на с.-г. курсах комплектуюцца выпадкова, часта ў пасьпешным парадку і пагэтаму не заўсёды адказваюць свайму прызначэньню. С.-г. школа, наўпроць, мае магчымасьць зьвярнуць гэтаму пытаньню асаблівую ўвагу, зарганізаваўшы старанна падабраны габінэт навучальных падручнікаў.

Такім чынам розьніца зімовае с.-г. школы ад с.-г. курсаў заключаецца ў тым, што яна мае сталы пэдагогічны пэрсанал, пэўны склад навучальных падручнікаў і мэтады выкладаньня. Нельга ня прызнаць, што дзякуючы гэтаму адукацыйнае значэньне школы шмат вышэй у параўнаньні з пазашкольнымі формамі распаўсюджаньня с.-г. ведаў.

Зімовыя сялянскія школы могуць быць вандроўнымі і сталымі, адназімнымі і двухзімнымі.

Для ўмоў БССР на першы час больш падыходзячай была-б адназімка, вандроўная школа. Вычарпаўшы ў даным пункце контынгэнт гаспадароў, якія жадаюць атрымаць адукацыю, школа наступным зімовым сэзонам пераходзіць у другое месца. Калі-ж слухачы вандроўнае школы пажадаюць—школа застаецца яшчэ на адзін год у данай вёсцы і, такім чынам, робіцца часова двухзімоваю школаю. Пераехаўшы ў другі пункт, яна зноў можа зрабіцца адназімоваю школаю.

Гібкасьць гэтага тыпу школьнае арганізацыі ў сэнсе магчымасьці прыстасаваць яе да розных умоў і запатрабаваньняў—складае найбольш характэрную і каштоўную рысу вандроўнае школы.

Побач з вандроўнаю школаю, якая пэрыядычна вандрue з аднаго пункту ў другі і перавозіць кожны раз свае портатыўныя габінэты з навучальнымі падручнікамі і невялікай сельска-гаспадарчай бібліятэкай—можа існаваць і сялянская зімовая школа сталага тыпу. Гэткія школы трэба адчыняць у мясцовасьцях, дзе зацікаўленасьць да сельска-гаспадарчых палепшаньняў набыла сярод сялянства досыць яскрава выяўлены масавы характар і пры тым у больш ці менш буйных сельскіх цэнтрах, якія гарантавалі-б штогоду сталы прыток вучняў-сялян.

З пункту погляду пэдагогічнага сталыя школы больш дасканалыя за вандроўныя, таму што, карыстаючыся прыстасаванымі будынкамі, больш багатымі навучальнымі абставінамі, могуць лепш наладзіць працэс навучаньня, ствараючы ў той-жа час і больш цярпімыя бытавыя ўмовы настаўніцкаму пэрсаналу.

Вось якія, у двух словах, рысы сялянскае сельска-гаспадарчае школы.

На першы час бадай што ня трэба ставіць гэтым школам задачу масавае сельска-гаспадарчае адукацыі. Калі праз некалькі год у кожнай вёсцы будзе па два-тры культурных селяніна, якія скончылі школу, тым самым будзе ўжо шмат зроблена для ўзьняцьця сельскае гаспадаркі. Слабае месца ў практыцы нашых сельска-гаспадарчых мерапрыемстваў—гэта тое, што аграному ў большасьці выпадкаў няма на каго абапёрціся ў вёсцы. Па гэтай прычыне агранамічныя пачаткі нярэдка канчаюцца няўдачаю. Зацікаўленасьць, узьнятая аграномам, хутка гасьне пад уплывам скэптыкаў, як толькі агроном пакідае вёску. І прызначанае на сялянскім сходзе мерапрыемства застаецца часта нязьдзейсьненым, таму што на вёсцы па сутнасьці няма нікога, хто-б мог працягваць і праводзіць палепшаньні, рэкамэндаваныя аграномам.

Вось гэты пласт агранамічна адукаваных сялян, упэўненых прыхільнікаў узьняцьця і палепшаньня сельскае гаспадаркі і павінна стварыць сялянская зімовая сельска-гаспадарчая школа. Няхай гэта будуць спачатку адзінкі, але ў іх асобе гаспадарчы кансэрватызм вёскі сустрэне сталы і энэргічны адпор, прымітыўная гаспадарка, будзёншчына знойдзе ў асобе іх актыўнага супраціўніка, агранамічная-ж арганізацыя сустрэне ў іх таго саюзьніка, які гэтак патрэбен ёй у барацьбе за сельска-гаспадарчую культуру.

Гісторыя распластавала сялянства сацыяльна-эканамічна, але ў культурных адносінах яно засталося ў значнай ступені аднастайным. Зьяўленьне на вёсцы спачатку хоць-бы і малалікавага пласту, прайшоўшых агранамічную школу перадавых гаспадароў, створыць тую культурную дыфэрэнцыяцыю, у выніку якой няўхільна пачнецца ў гушчы самога сялянства ідэёвы рух за новыя спосабы вядзеньня гаспадаркі, за падвышэньне ўраджайнасьці сялянскіх палёў, за каранную перабудову нашае адсталае сельскае гаспадаркі. Вакол культурных гаспадароў, дзякуючы іх ведам, іх асабоваму гаспадарчаму прыкладу, пачнуць аб'яднацца ўсе агранамічна-жывыя элемэнты вёскі. Установіцца шчыльная сувязь яе з агранамічнай арганізацыяй, школай і вопытнай справай, сувязь, якая так настойліва патрэбна і якую цяпер гэтак цяжка наладзіць, дзякуючы амаль што поўнай адсутнасьці ў нашай вёсцы агранамічна-актыўнага і культурнага сялянства.

---

## НА МЯСЦОХ

Ф. Ляўчонак

# Пра креаўвыя аб'яднаньні калгасаў

Калгасны рух, які ўсё шырыцца, вымушае нас сваячасова ставіць пытаньне пра формы арганізацыі і кіраўніцтва. Цяпер створаны: усесаюзны, абласны і акруговыя саюзы, а на мясцох арганізуюцца групавыя куставыя аб'яднаньні. З 12 калгасаў Гарадоцкага раёну 5 аб'яднана ў куст, які на сёньняшні дзень першаю бліжэйшаю задачаю паставіў—наём і ўтрыманьне свайга агранома. Пункт, у якім заўсёды павінен жыць аграном—камуна „Чырвоны Штандар", яна дае аграному і кватэру і дае вялікую дзель на пражытак яму. Маламоцныя калгасы, што паўходзілі ў куст, у прынцыпе не адмаўляючы і не пярэчачы супроць куставога аб'яднаньня, вельмі ўпіраліся і не згаджаліся даць патрэбнае дзелі на аграабслугоўваньне. Якую-ж задачу, акром аграабслугоўваньня павінна ставіць сабе такое аб'яднаньне?

Аб'яднаныя ў куст калгасы раскінуты на абшары 2-х сельсаветаў. Агульнае пахаты ў іх 367 гэктараў, 206 гэктараў прыпадае на камуну „Чырвоны Штандар". У „Чырвоным Штандару" і „Свабодзе" ёсьць млыны, пільні, абодвы ўзялі курс на жывёлаводзтва—сьвінаводзтва. Ува ўсіх, што ўвайшлі ў куст калгасах ёсьць сады ў розную плошчу, а ўсіх 37 гэктараў.

У раёне—1.200 з лішкам сялянскіх гаспадарак, з пахатнаю плошчаю ў 6.266 гэкт., са значным лікам садоў і колькасьцю жывёлы. У „Чырвоным Штандару" працуе добра абсталяваны завод па перапрацоўцы малака.

Задача куставога аб'яднаньня—гаспадарчае зрашчваньне калгасаў навокала тых прадпрыемстваў, якія ўжо маюцца ў іх, і пабудаваньне новых агульных прадпрыемстваў, гаспадарчае зрастаньне з прымежнымі сялянскімі гаспадаркамі праз паступовае грамаджэньне ў іх пасобных вытворчых процэсаў сельскае гаспадаркі і ўцягваньня іх у агульны гаспадарчы процэс аб'яднаньня.

Арганізаваныя ў куст калгасы павінны, з аднаго боку, цьвярдзей узяць курс на пашырэньне, бо бяз гэтага немагчыма правільна паставіць сельскую гаспадарку—узяць ухіл убок жывёлаводзтва. Перапрацоўку і збываньне малочнае прадукцыі можна наладзіць агульную, скарыстоўваючы той завод, які ўжо ёсьць; у кожным калгасе можа быць адчынены зьліўны пункт, дзе трэба зьбіраць і сэпарыраваць малако ня толькі ад калгаскіх кароў, але і ад сялянскіх. Па лініі арганізаваньня малочных арцеляй, па лініі агульнае перапрацоўкі і збываньня малочнае прадукцыі і будзе йсьці гаспадарчая сувязь куста з мяйсцовым насяленьнем. Наліччa садоў у арганізаваных у кусьце калгасах зусім спрыяе, каб наладзіць агульную пладасушню або вінна-гарэлачны завод. Гаспадарчая сувязь паміж калгасамі павінна пайсьці па напрамку сумеснае рэалізацыі прадуктаў садаводзтва. Кожны наш калгас, які атрымаў з дзяржфонду сад на вялічыню ня меншы за 6 гэктараў, бярэ на сябе абавязанасьць трымаць спэцыяліста-сада-

вода. У паасобку гэта ня выконваецца, але пры сумесным, агульным карыстаньні гэта зусім лёгка зрабіць. У перапрацоўку і збываньне прадуктаў з садаводзтва павінны быць уцягнуты сялянскія гаспадаркі праз прыцягненьне да сумеснага рэалізаваньня пладоў, праз засадку новых агульных садоў у вёсках, пасёлках, пры прывядзеньні земляўпарадкаваньня, праз арганізаваньне агульных пітомнікаў і г. д.

Сьвінаводзтва, што ўсё больш разьвіваецца, вымусіць у далейшым пабудаваць агульны бэконны завод. Узьдзейнічаньне калгасаў на паасобныя сялянскія гаспадаркі праз машыны і пракатныя пункты пры куставым аб'яднаньні будзе значна мацнейшым і большым, бо даецца магчымасьць рацыянальна скарыстаць усе машыны ў аб'яднаньні.

У куставым аб'яднаньні ёсьць адзін трактар. На вясну камуна „Свабода" ставіць задачаю прыдбаць другі. У куставым раёне арганізавана адно т-ва па калякты ўнай апрацоўцы зямлі, будуць арганізаваны машыновыя, пасялковыя, ільнаводчыя і іншыя. Будуць земляўпарадкоўвацца пасёлкі, праводзіцца кантрактацыя і г. д.

Праз першапачатковыя аб'яднаньні, праз арганізаваньне прадпрыемстваў, праз машыны да аграмаджэньня паасобных процэсаў сельскае гаспадаркі, праз практычную калёну куста да агульнага засеўнага масыву.

Куст, які злучыўся для сумеснага аграабслугоўваньня, павінен ісьці да аграмаджэньня паасобных процэсаў: малочная справа, садаводзтва, насеннаводзтва,—да адзінага сельска-гаспадарчага аб'яднаньня.

Куставыя аб'яднаньні, з аднаго боку павялічваючы аграмаджаны сэктар, удасканальваючы з другога боку праз зноў арганізуемыя першапачатковыя аб'яднаньні—будзе шырэць і расьці. Задача нашага дня ёсьць, гэта ствараць куставыя аб'яднаньні.

---

Б. Шпітальнік

# Некаторыя вынікі агляду

*(З работы груп беднаты на Мазыршчыне)*

Агляд груп беднаты па акрузе прайшоў нядосыць падрыхтавана. Гэтаму пытаньню з боку некаторых райкомаў і значнае часткі ячэек ня было прызначана выстарчальнае ўвагі. Галоўнай прычынаю гэтага зьяўляецца тое, што агляд пачаўся ў разгары падрыхтоўчае і пачатку справаздачнае кампаніі сельсаветаў, апроч таго, у гэты час праводзіліся гаспадарчыя кампаніі, якім з боку вясковых ячэек аддавалася ня мала ўвагі. Усё гэта (і калі прыняць яшчэ пад увагу малаколькаснасьць сельпартячэек) перашкаджала больш пасьпяхсваму правядзеньню агляду.

Аднак, станоўчымі момантамі агляду трэба лічыць тое, што дзякуючы гэтаму ўдалося выявіць сапраўднае становішча груп беднаты і прыкаваць да іх увагу партыйнае арганізацыі.

Апошні, 1928 год даў значны колькасны рост груп. Па даных 6 раёнаў акругі рост груп характэрызуецца наступным:

| Пры якіх арганізацыях існуюць групы | Усяго груп | Тэрміны арганізацыі груп | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | да 1/VII 1927 г. | З 1/VIII па 1/X 1927 г. | З 1/X-27г. па1/1-28г. | З 1/1 па 1/IV-28 г. | З 1/V па 1/VII 28 г. | З 1/VII па 1/X-28 г. |
| Сельсавет. . . . | 30 | 9 | 3 | 5 | 9 | 4 | — |
| Спаж. каапэр. . | 9 | 2 | — | 1 | 6 | — | — |
| С.-г. каапэр. . . | 8 | — | — | 2 | 6 | — | — |
| К.С.Т.У. . . . . | 19 | 1 | 1 | 4 | 6 | 6 | 1 |
| Усяго. . | 66 | 12 | 4 | 12 | 27 | 10 | 1 |

Такім чынам бачым, што большасьць груп беднаты па гэтых 6 раёнах арганізаваны ў канцы 27 і за 28 год і пагэтаму, большасьць іх ня мае належнага вопыту ў рабоце, гэта адбілося на самай рабоце груп беднаты. Некаторыя групы не змаглі яшчэ канчаткова аформіцца, а некаторыя правялі па аднаму—па два пасяджэньні, а некаторыя не правялі ніводнага і існуюць толькі на паперы. Аб прычынах сла-

басьці работы груп спынімся ніжэй, а цяпер для поўнае характарыстыкі якаснага складу груп падамо наступныя даныя:

| Пры якой арганізацыі | Лік членаў груп: | | | З і х: | | | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | З складу выбарчых органаў | Астатнія | Усяго | Камуністых | КСМ не састаячых у КПБ | Рабочых | Батракоў | Беднякоў | Сераднякоў | Жанчын | |
| Сельсавет. . . . | 210 | 9 | 219 | 54 | 18 | 3 | 3 | 149 | 16 | 23 | па матарыялах 53 груп |
| Спаж. каапэр. . | 58 | 2 | 60 | 12 | 1 | 1 | — | 40 | 5 | 5 | |
| С.-г. каапэр. . . | 66 | 1 | 67 | 23 | 3 | 2 | 2 | 39 | 3 | 6 | |
| К.С.Т.У. . . . | 124 | 6 | 130 | 18 | 11 | 1 | 3 | 106 | 2 | 13 | |
| Усяго. . | 458 | 18 | 476 | 107 | 33 | 7 | 8 | 334 | 26 | 47 | |

Пададзеныя даныя кажуць пра тое, што калі сярэдні колькасны склад груп нармальны і ў сярэднім у кожнай групе маецца па два партыйцы, дык аднак у групы не ўцягнуты батракі і жанчыны, таксама нязначная колькасьць камсамольцаў. Гэта часткова тлумачыцца тым, што паказаныя групы, у невыстарчальнай колькасьці абраны ў розныя арганізацыі вёскі (сельсавет, каапэрацыя і г. д.), а галоўнай прычынаю зьяўляецца тое, што на работу сярод батрацтва і жанчынбеднячак і батрачак мала зьвернута ўвага як партыйных ячэек, гэтак і сельскіх арганізацый.

Чым займаліся групы беднаты і як выконваліся іхнія рашэньні. Значная колькасьць груп займалася практычнымі пытаньнямі, хоць пераважная частка разгледжаных пытаньняў носіць кампанейскі характар. Так, групамі пры сельсаветах абгавораны пытаньні пасеўнае кампаніі, разьмеркаваньня лесу, загатовак, сельгаспадарчага падатку, выбараў у саветы, распаўсюджваньня пазык і г. д. Групамі пры спажывецкай каапэрацыі абгавораны пытаньні аб каапэраваньні беднаты, зьніжэньні цэн і рацыяналізацыі, аб адтэрміноўцы крэдытаў беднаце па стыхійных няшчасьцях (па с.-г. каапэрацыі), арганізацыі таварystваў і г. д.

Але, калі разглядзець паасобныя пастановы груп, дык яны часта носяць агульны, не практычны характар. Так, групамі беднаты пры Калінкавіцкім спажывецкім таварыстве, па пытаньню каапэраваньня беднаты і папаўненьня паёў пастанаўляе: „Лічыць правільнай палітыку партыі і Савецкай улады да бяднейшага сялянства, праз якое партыя ажыцьцяўляе сваё кіраўніцтва і абараняе інтарэсы пралетарыяту і бяднейшага сялянства“.

Група беднаты пры Калінкавіцкім камітэце ўзаемадапамогі, выносіць такую пастанову: „Лічыць, што вылучаная група зможа прыняць удзел у будаўніцтве савецкай улады“...

Можна прывесьці шэраг такіх „мудрых“ пастаноў груп беднаты, якія нічога практычнага ў рабоце не даюць. У даным выпадку нельга абвінавачваць групы, а ўсю віну трэба перакласьці на кіраўнікоў і партыйныя ячэйкі. Калі-б кіраўнік групы папярэдня падрыхтоўваўся да пасяджэньняў групы, калі-б ён сам (кіраўнік) на пасяджэньні не займаўся „гаварыльняй“ і выкідваньнем агульных фраз, пастановы былі-б жыцьцёвымі і практычнымі. Але, часта бывае, што кіраўнік групы, каб запоўніць зьвесткі, каб паказаць, што ўсё-ж групы пасядалі, не

падрыхтоўвае практычных пытаньняў, а падносіць пасяджэньню даклад „аб задачах партыі па рабоце сярод беднаты“.

Некаторыя групы беднаты захоплівалі функцыі іншых органаў. Так, група беднаты пры Слабодзім сельсавеце, па пытаньню аб пасеўнай кампаніі выносіць пастанову: „Даручыць камітэту ўзаемадапамогі спагнаць запазычанасьць па насеннай пазыцы“, альбо такая пастанова па пытаньню аб сельгаспадарчым падатку: „Даручыць прэзыдыуму сельсавета скласьці сьпісы беднаты па вёсках і зьняць з іх падатак“.

Вось кароткая характарыстыка работы большасьці груп беднаты. Праўда, некаторыя групы (у Нараўлянскім і Каралінскім раёнах) працуюць ня дрэнна і змаглі паставіць сваю работу на практычную нагу, карыстаючыся вялікім аўтарытэтам сярод усяе масы беднаты і значнае часткі серадняцтва, але гэта адзінкі. Рэшта груп працуюць надта слаба.

Рашэньні груп беднаты ў большасьці сваёй выконваюцца сваечасова, гэта тлумачыцца тым, што значная частка кіраўнікоў груп беднаты зьяўляюцца кіраўнікамі тэй ці іншай арганізацыі (старшыня сельсавету, старшыня праўленьня каапэратыву—партыйцы і г. д.). Але і тут ёсьць рад момантаў, гаворачыя аб тым, што вельмі часта гэтымі кіраўнікамі затушоўваецца твар групы беднаты. Ёсьць, напрыклад, такія выпадкі, калі кіраўнік групы, ён і кіраўнік арганізацыі, уносіць прапановы на пасяджэньні ўстановы, пры якой існуе група беднаты ад свайго імя, а не ад групы беднаты, што зьяўляецца ненармальным.

Як абстаіць справа з кіраўніцтвам работаю груп беднаты з боку партыйных ячэек і райкомаў партыі. Тут справа абстаіць надта і надта дрэнна. Перш-на перш, самыя кіраўнікі груп падобраны ня досыць добра. Пагэтаму, не выпадковы такія ляпсусы, якія маюць мейсца ў рабоце паасобных груп.

Вось характэрны ляпсус і поўнейшае незразуменьне работы групы беднаты: пры Калінкавіцкім камітэце ўзаемадапамогі ўвесь час працаваў прэзыдыум камітэту, які іменаваў сябе „групай беднаты“, пратаколы прэзыдыуму называліся пратаколамі групы беднаты.

Гэты момант, ня толькі зьяўляецца ляпсусам, тут людзі займаліся пэўным ашуканствам.

Адсюль можна зрабіць і вывады аб кіраўніцтве работай з боку ячэек і райкомаў. Такая „работа“ Калінкавіцкага КСТУ адбывалася не за 30 і 60 кілёмэтраў ад райцэнтру, а пад самым носам райкому партыі і ячэйкі, але туды не заглядвалі, пакуль „зьверху“ не патрэбавалі зьвестак і запрапанавалі зрабіць абгляд. Тое самае і ў іншых мясцох. Зусім нязначная колькасьць ячэек займалася стала работай груп беднаты (заслухваньне дакладу кіраўніка групы, праверка работы групы і г. д.), адсюль і такія вынікі.

Агляд, як ужо адзначана вышэй, даў магчымасьць выявіць твар груп беднаты, сапраўднае становішча ў іх і якое мейсца прызначалася гэтаму пытаньню з боку партыйных арганізацый на мяйсцох. Гэта дало таксама і магчымасьць прыкаваць увагу партыйных арганізацый да гэтае справы і на падставе выяўленых недахопаў распрацаваць шэраг практычных мерапрыемстваў па значнаму аздараўленьню і ўзмацненьню работы на гэтым, вельмі важным вучастку.

# ГІСТПАРТ

І. Ашак

## 1917 год у Віцебску

I

Мінула ўсяго толькі 10 год, а пераржыта гэтак поўна, як быццам цэлая вечнасьць, пераржыты цэлыя этапы і неяк ня верыцца, што ўсё гэта адбылося і магло ўкласьціся ў адзін дзесятак год. Колькі прыгожых момантаў, колькі жаху, пакуты, мучэньняў перанесена лепшымі сынамі рабочае клясы і ўсёю рабочаю клясаю ўцалку за гэтыя гады для перамогі рэвалюцыі і лепшае будучыні чалавецтву. Колькі неймаверных дасягненьняў у выніку звышчалавечага напружаньня волі і энэргіі, мазгоў і мускулаў рабочае клясы ўпісана назаўсёды ў старонкі гісторыі чалавецтва. На гэта здольна толькі рабочая кляса, маючы ў авангардзе сталёвыя згуртаваныя шэрагі Ленінскае Камуністычнае Партыі, што давялі сваім жыцьцём і кроўю бяссумненную адданасьць рабочай клясе вось ужо хутка на працягу 30 год. Вось сапраўды вялікія дні пераржыты і пераржываюцца намі і цяпер, але не заўсёды мы на іх зьвяртаем патрэбную ўвагу, хутка забываем, не зафіксоўваем на паперы і шмат прыгожага, каштоўнага, разам з лепшымі змагарамі за рабочую справу, адыходзіць у краіну паданьня. Зусім зразумела—няма калі думаць пра мінулае, калі кожны дзень высоўвае ўсё новыя важныя задачы, у якія неабходна ўдацца, як гаворыцца, душою і целам.

II

### Пэрыяд да лютаўскае рэвалюцыі і лютаўская рэвалюцыя

Імпэрыялістычная вайна, разбураючы ўсё на сваім шляху, паднімала дзесяткі тысяч рабочых сем'яў у аграмаднай хвалі зьбежанцаў, заплюснула бліжэйшыя да фронту гарады. Разам з гэтаю хваляю, увосень 1915 году, і я прыбрыў у зусім чужы мне горад Віцебск, ня маючы ніводнага знаёмага. Першае, што мяне зьдзівіла надта, гэта страшэнна гаротнае становішча зьбежанскіх сем'яў, якія, ня маючы прытулку, месьціліся па старых вагонах і шатрох каля гэтак званае Юр'евае Горкі. Большасьць зьбежанцаў была з Прыбалтыцкага краю, латышы. Другое, што мяне ня менш уразіла на першы раз,—гэта страшэнная нянавісьць да гэтых няшчасных зьбежанцаў у мяйсцовага насяленьня, якое лічыла апошніх за вінавайцаў падвышэньня цэнаў на ўсе прадукты шырокага спажываньня. Пры чым вельмі характэрна, што мяйсцовыя калёністы-латышы, а таксама і старажылы Віцебску, таксама роўна з усімі ненавідзелі зьбежанцаў-латышоў ў г. Віцебску; не ўважаючы на пераважную большасьць яўрэйскага насяленьня, быў моцна разьвіты антысэмітызм. Горад быў перагружаны салдацкаю масаю розных вайсковых часьцей. Пра які-небудзь рэвалюцыйны рух ня было ніякае гутаркі. Паліцыя разам з жандармэрыяй сумела да таго часу ўсялякія рэвалюцыйныя арганізацыі пазьнішчаць і калі дзе-ні-дзе і пазаставаліся адзінкі-рэвалюцыянэры, дык яны былі паразлучваны і ніякае дзейнасьці не паказвалі. Адным словам, царская паліцыя і жандармэрыя працавала вельмі добрасумленна. Паспытаўшы смаку беспрацоўя, бяз грошай на працягу нейкіх месяцаў у незнаёмым горадзе, мне

выпала паступіць на правох кандыдата тэлеграфістам на чыгуначны тэлеграф. Але тут пачаліся новыя фацэціі. Тэрмін майго гадавога пашпарту мінуў. Пратэрмінаваны пашпарт у дамавую кнігу ня ўпісвалі, давялося йсьці ў 3 вучастак паліцыі, што пад таварнаю станцыяю, адтэрмінаваць пашпарт. Пашпарт у мяне забралі, загадалі прыйсьці праз тры дні. Зайшоў праз тры дні, сказалі яшчэ праз тры і г. д. Адным словам, прамінуў месяц і другі, а пашпарту не аддаюць. Нарэшце даведаўся, што мой пашпарт адасланы ў галоўную паліцыю, а там даведаўся, што адаслалі ў вышукнае аддзяленьне. Мне сказалі: „калі хочаш паскорыць, схадзі сам туды“. Я пакінуў хадзіць. Праз колькі дзён да мяне на кватэру ўночы зьявіліся трое цывільных, папрасілі прабачыць, што павінны зрабіць агляд на прадмет адшуканьня гарэлкі і сталі корпацца ў падушках, сяньніку і кнігах. Пасьля грунтоўнага шуканьня, нічога не знайшоўшы, пайшлі. На працягу некалькі тыдняў пасьля ў розныя часы яны зрабілі яшчэ два агляды пад кіраваньнем сышчыка Фёдарава, а пашпарту ўсё-такі не аддавалі.

Канчаўся 1916 год. Нездаволеньне ў шырокіх масах узрастала ўсё больш і больш. Хвалю абурэньня выклікаў факт расстрэлу салдата ў Мазурыне за абразу афіцэра неўзабаве пасьля наведаньня лягераў цара Мікалая II разам з насьледнікам і ўсёю сьвітаю. Арганізацыі, якая магла-б выкарыстаць як сьлед гэтае абурэньне, у Віцебску яшчэ ня было. Увясну 1916 году я пазнаёміўся з некім т. Раппам, які ў той час вельмі блізка стаяў да партыі бальшавікоў і захапляўся рэвалюцыйнымі сьпевамі і літаратураю. Гэты таварыш неспадзявана памёр і я выяжджаў у Багушэўскае, дзе з дапамогаю мяйсцовага настаўніка наладзіў грамадзянскае пахаваньне. Праз колькі дзён у Багушэўскае прыехаў з Ленінграду студэнт—брат нябожчыка, член партыі бальшавікоў. З тав. Раппам мы праседзелі да відна ў кватэры настаўніка, абмяркоўваючы розныя палітычныя пытаньні і няўнікнёнасьць перавярненьня вайны імпэрыялістычнае на вайну грамадзянскую. У канцы 1916 году я выпадкова пазнаёміўся з членам партыі бальшавікоў тав. Чунчыным, што жыў у Елагах недалёка ад мяне, стойлівым, загартаваным бальшавіком, ня раз пабыўшым на ссылцы, які страціў палову зуб, і пакалечыў нагу ў царскіх засьценках і засуджаны быў за 1905 год на сьмерць, ад шыбеніцы выратаваўся выпадкова (арыштаваны і павешаны другі—таксама Чунчын). Таварыш Чунчын, што стаў пасьля фактычным кіраўніком латыскае бальшавіцкае арганізацыі, шмат у чым дапамог мне тады разабрацца ў пытаньнях бягучае палітыкі, і я ўвесь вольны час аддаваў на гутаркі з ім. З усіх партыйцаў, з якімі мне надалей даводзілася сустракацца пры рабоце, найбольш яркаю і ідэальнаю фігураю і на сёнешні дзень у маёй памяці застаўся тав. Чунчын. Ён жыў выключна для партыі, асабовага „я“ ў яго ня было, таксама як ня было і асабовых інтарэсаў. Ужо проці самае Лютаўскае Рэвалюцыі праз тав. Чунчына я пазнаёміўся з партыйцамі-бальшавікамі т. Дзірыкам (клічка Шалконе), цяпер старшыня ЦКК у Крымрэспубліцы, з яго жонкаю-партыйкаю і з тав. Заур—таксама старым партыйцам (цяпер каапэратыўны работнік у Севастопалі). Вельмі характэрна: таго часу, служачы на тэлеграфе, я хадзіў праз дзень у зубную клініку на Смаленскай вуліцы побач рынку і немаль што-дня сустракаў там аднаго і таго самага жандара, які таксама лячыў зубы і чамусьці меў да мяне асаблівую павагу, ня раз чакаючы мяне і праводзячы да вакзалу, увесь час апавядаючы, што ён спачувае рэвалюцыянэрам і на выпадак якое патрэбы першы пакажа дзе склады з зброяю, што ён нездаволены ўрадам і што ён—за народ. Я ўважна слухаў яго і рабіў від, што нічога не разумею.

Вось і люты 1917 году. З імгненнаю шпаркасьцю па горадзе праляцелі чуткі пра непарадак у Петраградзе, пра кулямёты паліцэйскія на стрэхах будынкаў, пра тое, што жанкі і дзеці рабочых ідуць на вуліцу і патрабуюць хлеба і міру. На начным дзяжурстве 2 сакавіка мне паведаміў праз апарат тэлеграфіст з Сеславіна, што Мікалай II зрокся царства. Я ўскочыў на табурэцік і закрычаў ура. Усе тэлеграфісты зірнулі на мяне і, відаць, падумалі ці ня ўздурнеў я. Калі я ім пераказаў вестку, мне спалохана пагразілі і закамандавалі маўчаць і захоўваць тэлеграфны сакрэт. Аднак ня вельмі гэтак было. Праз паўгадзіны ведала пра гэта ўжо палова гораду, не зважаючы нават на позны час. Ураніцы пасьля дзяжурства я пайшоў у галоўную паліцыю па свой пашпарт, па дарозе ня бачыў ніводнага гарадавога і неяк радасна стала ад гэтага. Толькі на Пушкінскай заўважыў таго самага сышчыка Фёдарава, што здалёк сачыў за групоўкамі студэнтаў, вучняў і так жыхароў на вуліцы. На Гогалеўскай мяне абмінула кучка вучняў—10—12 год, з якіх адзін радасна апавядаў усім, што вось пачалася рэвалюцыя, але што гэта яшчэ ня ўсё будзе і ён, сам таго не разумеючы, казаў тады праўду. Як я прыйшоў у галоўную паліцыю, мяне сустрэлі вельмі з шанаваньнем, усе ўсталі, а даведаўшыся, што я прыйшоў па пашпарт, зараз жа аддалі без адтэрмінаваньня, растлумачыўшы, што цяпер трывожны час і як усё ўляжацца, тады адтэрмінуюць. Выходзячы, я заўважыў за дзьвярыма ў кутку штук 10 вінтовак, пакладзеных, відаць, на здачу рэвалюцыянэрам, калі яны прыдуць. Перапуд на тварах ува ўсіх быў страшэнны. Таго самага дня па лініі жандармэрыі на тэлеграфе былі прыняты тэлеграмы з боку ад Смаленска і Нова-Сакольнікаў, што з пасажырскім поездам едуць атрады рабочых і на станцыях разбройваюць паліцыю. Паязды з абодвых бакоў прыехалі за малым адначасова. Яшчэ ня спыніўся цягнік на хадзе саскочылі некалькі маладых хлапцоў і пабеглі ў жандарскае аддзяленьне, а праз колькі хвілін вынесьлі адтуль паадбіраныя шашкі, вінтоўкі і рэвальверы. Адзін стары жандар, відаць, не хацеў аддаць зброю і пабег уцякаць у горад, яго злавілі на Арлоўскім пляцу, пазрывалі пагоны, разброілі і пусьцілі. Гэта быў апошні дзень у Віцебску, калі можна было яшчэ бачыць адзінак—мізэрных паліцэйскіх і жандараў. Але ўсюды відаць былі радасна - зьдзіўленыя твары ў жыхароў, упяршыню адчуўшых, што за імі не сачыць паліцэйскі і жандар. І там, дзе быў раней сьцяг расійскае царска-панскае імпэрыі, усё больш і больш паказвацца сталі чырвоныя сьцягі — сымболь барацьбы і перамогі рабочай клясе.

III

## Пэрыяд ад Лютаўскае да Кастрычнікавае Рэвалюцыі

У бліжэйшую нядзелю, пасьля нізрынуцьця самадзяржаўя, у памяшканьні цяперашняга „Мастацкага“ кіно-тэатру быў вышэйпаказанаю групаю бальшавікоў наладжаны сход латышоў рабочых і салдатаў. Сышлося чалавек 50, большасьць у шэрых шынэлях. Пасьля кароткіх выступленьняў т. т. Чунчына, Дзірыка і інш. вырашана было зарганізаваць у Віцебску латыскі рабочы і салдацкі клюб, пад які ўжо знойдзена было памяшканьне ў адным школьным будынку на 2 Елагскім завулку, № 12. Зараз-жа пасьля арганізацыі і афармленьня клюбу, там сама быў праведзены арганізацыйны сход бальшавікоў і намечаны плян работы па ўцягваньню новых членаў у арганізацыю і па падрыхтоўцы нізрынуцьця зьбежанскага камітэту, які і быў у руках у латышоў нацыяналістаў-кадэтаў. Такім чынам, першымі днямі Лютаў-

скае рэвалюцыі на 2 Елагскай, № 12 стварыўся асяродак бальшавіцкае арганізацыі, якому давялося выцягаць на сваіх плячох увесь цяжар падрыхтоўкі да правядзеньня і потым на першы час замацаваньня заваёў Кастрычніка ў горадзе Віцебску і Віцебскай губэрні. Ужо да сьвяткаваньня 1 мая ў 1917 годзе латыская бальшавіцкая арганізацыя і клюб сумелі на дэманстрацыі пад свае чырвоныя штандары сабраць вялікую большасьць латыскага пралетарыяту, а ўдзельнікі латышы-нацыяналісты пад нацыянальны сьцяг сабралі ўсяго дзесяткаў два з паловаю, большасьць з чыноўнікаў управы чыгункі і мяйсцовае латыскае інтэлігенцыі. У пэрыяд ад 1 мая да ліпнёўскіх дзён бальшавіцкая арганізацыя вырасла да 80 чалавек; гэгэмонам сярод латыскага пралятарыяту былі бальшавікі. Зьбежанскі камітэт таксама ўжо быў у руках бальшавікоў. Для ўдзелу у мясцовым прафруху быў вылучаны тав. Аболін і яшчэ адзін таварыш, якія ў той час стаялі на чале левага крыла прафруху. На бюро арганізацыі ня раз ставілася пытаньне пра неабходнасьць перанесьці работу і ў іншыя нацыянальнасьці. Гэтаму ў значнай меры перашкаджала тая акалічнасьць, што сярод арганізацыі было 3—4 чалавекі, якія больш-менш добра ведалі расійскую мову, і ня было немаль нікога знаёмага з мяйсцовымі ўмовамі. Толькі пасьля прыезду ў Віцебск з сасланьня тав. Пінсана, пачалі сур'ёзна і канкрэтна ставіць пытаньне пра работу сярод іншых нацыянальнасьцяй, навошта і было склікана на 2 Елагскай, № 12 некалькі нарад, а нарэшце ў адным з верхніх памяшканьняў был. Аляксандраўскае гімназіі сабраўся і арганізацыйны сход бальшавікоў гораду Віцебску. На гэты сход прышло пад 100 таварышоў, і ён фактычна перавярнуўся на дыскусыйныя спрэчкі розных левых палітычных груповак. Але вынікам сходу было ўтворана арганізацыйнае бюро бальшавіцкае арганізацыі, куды ўвайшлі і 2 таварышы і з латыскае арганізацыі. У пэрыяд да ліпнёўскіх дзён латыская арганізацыя (бальшавіцкая) добра паставіла справу індывідуальнае апрацоўкі, кожнаму таварышу даручалі 5—6 чалавек на тых прадпрыемствах, дзе яны рабілі, асабліва ў вайсковых часьцях, за кошт апошніх арганізацыя расла немаль штодня.

Ліпнёўскія дні. Пралетарыят у Піцеры не дастаў перамогі,—буржуазія парашыла, што настаў час больш рашучае дзеі. Пачалося наступленьне адзінага фронту на зласьнейшага ворага буржуазіі—на бальшавікоў, і Віцебск гэта адчуў. Насупраць Латыскага Рабочага Клюбу, які быў асяродкам бальшавізму мяйсцовыя кадэты і эс-эры з благаслаўленьня эсдэкаў, меньшавікоў і бунда, разьмясьцілі сотню казакаў-кубанцаў. За кожным больш-менш актыўным бальшавіком быў устаноўлены строгі нагляд. „Архангелы“ справаджалі іх самым нахабным парадкам па пятах. Не ўважаючы на тое, бальшавіцкі рух у Віцебску ўсё рос і паглыбляўся. Арганізацыя бальшавікоў расла ў такім шпаркім тэмпе, што к Кастрычніку большасьць працоўных гораду Віцебску і прыблізна палова гарнізону спачувала выключна бальшавіком, як адзіным абаронцам інтарэсаў працоўных. Расчараваньне да іншых палітычных партый расло роўна з сымпатыяй да бальшавікоў. Рабочая кляса і усе працоўныя шпарка йшлі насустрач Кастрычніку.

## IV

## Кастрычнікавы пераварот і першыя баі за кастрычнікавыя заваёвы

Вось і Кастрычнік 1917 году. Весткі аб перамогах пралетарыяту, пра баі ў Маскве з вялікаю шпаркасьцю сталі вядомы ў горадзе. Бегалі зьбянтэжаныя лідэры меншавікоў—Тарле, Квасман, Гінзбург

і інш., шукаючы сабе саюзьнікаў, якія хутка і знайшліся ў галоўным камітэце прафсаюзу чыгуначнікаў Рыга-Арлоўскае чыгункі ў асобе Мядвецкага, Алтуніна і шэрагу іншых „таварышоў“. Цэлая дэлегацыя з „Саюзу Спасеньня“, створаная гэтымі панамі, зьявілася на тэлеграф станцыі Віцебск. Выклікаюць праз апарат стаўку вярхоўната галоўнакамандуючага і вядуць зусім сакрэтныя перамаўленьні аб надзейных вайсковых часьцях, аб арганізацыі ўзмоцненага райёну, уключаючы і Віцебск, аб складах зброі і мейсцазнаходжаньні іх,—словам, пра ўвесь плян барацьбы з бальшавікамі. Яны былі цалкам упэўнены ў найстрогім сакрэту перамаўленьняў. Гутарку вёў сам загадчык тэлеграфнае станцыі Дзінберг—член „Саюзу Міхаіла Архангела“. Мяне, як адзінага нядобранадзейнага на тэлеграфе, паклікалі ад апарату, ленту вырвалі, але ўсё-ж мне ўдалося слова ў слова запісаць усю гутарку і праз паўгадзіны ўсе вялікія сакрэты арганізаваньня пэўнага райёну былі перададзены ў камітэт бальшавікоў. У камітэце пытаньне было абмяркована і вырашана было выступіць, чаго-б гэта ні каштавала, улічваючы стратэгічную важнасьць В.цебску. Арганізацыя бальшавікоў да таго часу мела за сабою большасьць. Навочным прыкладам гэтага сталіся паказальныя рэзультаты выбараў ва ўстаноўчы сход: Віцебская губэрнія па ліку выбраных дэпутатаў узяла адно з першых мейсц па ўсёй Расіі. Да моманту Кастрычнікавае рэвалюцыі партыя вырасла колькасна ў некалькі разоў і мела за сабою вайсковыя часьці, як: аэрадром, артылерыю і тэхнічную каманду, у агуле больш за палавіну ўсяго віцебскага гарнізону. Увечары гадзіне а 9-ай у латыскім клюбе заслухалі даклад тав. Чунчына аб міжнародным становішчы і аб неабходнасьці захопу ўлады ў Віцебску конча сягоньня. Таварышы, што выступалі ў спрэчках, падтрымлівалі неабходнасьць выступленьня, супроць выказаўся адзін таварыш—па перакананьнях меншавік-інтэрнацыяналіст т. Гоба, які ў сваёй прамове гаварыў пра бяссэнсавасьць выступленьня, што сёньня ўночы на вуліцах Віцебску будзе праліта непатрэбна кроў рабочых, што няма ніякіх пэрспэктыў на тое, што калі ўлада і будзе захоплена, дык утрымаць яе надоўга ня ўдасца, таму, што ня сустрэнецца падтрыманьня ад сялянства, а асабліва высоўваў ён контр-рэвалюцыйнасьць сялянства Украіны, якое, па яго словах, у большасьці заможнае. Тав. Гоба быў дадзены належны адпор і пры галасаваньні аднагодна, пры двух, што галасавалі супроць (абодвы меншавікі-інтэрнацыяналісты), было вырашана выступіць сёньня ўночы. Тав. Гоба ў парадку партыйнае дысцыпліны было закамандавана з атрадам салдатаў узяць Штаб Дзьвінскага Ваеннага Вокругу, што месьціўся на Гогалеўскай вуліцы. Тав. Габа катэгарычна адмаўляўся, але калі яму запрапанавалі канчаткова выйсьці з партыі бальшавікоў ці зараз-жа падначаліцца, ён выканаў заданьне. Чакацьня было чаго. Настала дажджавая ноч. Пад 11 гадзін вечару першая партыя бальшавікоў, дзе быў і я, накіравалася браць „афіцэрскае сабраньне“ (цяпер камсамольскі клюб імя К. Лібкнехта). Першую задачу выканалі лёгка, без усялякіх сутычак, паставілі на бальконе першы бальшавіцкі кулямёт, каля дзьвярэй вартавых, а на 3-м паверсе наш штаб. Наступнаю важнаю задачаю было забраць меншавіцкі савет, які ахоўваўся 5-ма кулямётамі і штабу Дзьвінскага ваеннага вокругу. Абедзьве задачы вырашылі бяз крыві. Савет зьнялі, ужыўшы невялічкі хітрык—вартавому і кулямётчыку, што стаялі пры дзьвярах (цяперашні Яўпэдтэхнікум) падробленыя прапускі, імгненна схапілі іх і абязьброілі. Прайшоўшы такім парадкам да 2-га паверху. Захапілі рэшту—4 кулямёты, выстаўленыя ў вокнах і на бальконе. Гэтак сама забралі і штаб Дзьвінскага Ваеннага вокругу, рэдакцыю „Віцебскіх ізвесьціі“ і рэшту

камандных устаноў. Настала раніца, папрачыналіся абывателі і даведаліся, што адбыўся бяскроўны пераварот і Віцебск у руках бальшавікоў. Праўда, патрабавалася яшчэ колькі дзён, каб устанавіць кантроль над паштова-тэлеграфнымі ўстановамі і над тэлеграфам Рыга-Арлоўскае чыгункі. Усе спробы кантролю выклікалі італьлянскую забастоўку, напрыклад, паштова-тэлеграфная кантора, і нават чыгуначны тэлеграф, у знак салідарнасьці да забастоўшчыкаў ня браў прыватных тэлеграм.

Наступным больш яскравым момантам у бліжэйшыя дні пасьля захопу ўлады бальшавікамі ў горадзе Віцебску было забраньне стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага ў г. Магілеве. Пасьля ўсім вядомае гутаркі па простаму праваду т. Леніна, Троцкага і Крыленкі са стаўкаю вярхоўнага галоўнакамандуючага і генэралам Духоніным, па распараджэньні галоўнакамандуючага тав. Крыленкі, з Ленінграду былі накіраваны атрады матросаў узяць стаўку. Чыгуначнікі, даведаўшыся пра тое, што з Ленінграду едуць два эшалёны з матросамі для паказанае мэты, паперш, трымалі ў вялікім сакрэце ад мясцовых бальшавікоў, а, падругое, да часу паведамілі пра тое меншавікоў і эсэраў і, патрэцяе распарадкаваліся, каб усе цягнікі, пачынаючы са станцыі Нова-Сакольнікі і далей, былі пазгоньваны ў Віцебск, каб ня даць магчымасьці праехаць ленінградзкім чырвонагвардзейцам. Не ўважаючы на сакрэтнасьць ужытых мер супроць бальшавіцкіх атрадаў, я даведаўся пра тое і зараз-жа пераказаў партыйнаму камітэту. Увечары-ж таго дня бальшавікі прышлі на тэлеграф станцыі Віцебск і абвясьцілі, што яны ўстанаўляюць кантроль над тэлеграфам і чыгуначным вузлом. Пры ўваходзе на телеграф адбылася цікавая сутычка. Кіраўнікі прафсаюзу чыгуначнікаў і гарадзкія меншавікі і эсэры, з аднаго боку, і бальшавікі—з другога,—дайшло немаль да кулакоў, павыхватвалі рэвальвэры і адны адным заявілі, што толькі праз іхныя трупы можна заўладаць тэлеграфам. У чыгуначнікаў асабліва вызначыліся старшыня саюзу чыгуначнікаў Мядвецкі, Алтунін, памочнік загадчыка тэлеграфнай станцыяй чарнасоценец Мацюшын. Спрэчка скончылася тым, што бальшавікі арыштавалі старшыню саюзу Мядвецкага і завезьлі на аўтамабілі ў Рэўком, а тэлеграф, як пратэст супроць гвалту бальшавікоў, абвясьціў забастоўку, усе тэлеграфісты пакідалі апараты, выключаючы мяне. Прафсаюз чыгуначнікаў закамандаваў машыністам і качагарам таксама пакінуць работу. Пад пагрозаю агульнае забастоўкі чыгуначнікаў бальшавікам прышлося выпусьціць Мядвецкага. Пасьля яго зьвярненьня падыходзіць да мяне памочнік загадчыка тэлеграфнае станцыі Мацюшын і ўголас заяўляе: „ёсьць-жа ў нас, аказваецца, на тэлеграфе сволач, якая ўсё пераказвае бальшавікам, не пасьпее мыш піснуць, а там усё вядома“. Адчуваючы што гэтыя словы кінуты на мой адрас, я ня вытрымаў, ускочыў і сказаў: „так, я пераказваю, а вам што патрэбна“. Мацюшын мне адказаў: „ах, гэта вы, дык майце-ж на ўвазе, што больш вам пераказваць не давядзецца, з заўтрашняга дня вы будзеце ўволены“. Я сказаў на гэта: „паглядзім“. І сапраўды, гэтае ночы камітэт чыгуначнікаў прыняў пастанову пра звальненьне мяне, чаго аднак ім зрабіць не ўдалося. Праз 2 гадзіны, а палове 5-ае раніцы, прыехаў першы эшалён матросаў, якія зрабілі вельмі разумна, узяўшы з Ленінграду свой цягнік і свае брыгады пад кіраваньнем т. Кудзінскага.

Першым, што зайшоўся на тэлеграф, быў паўнаваты пажылы чалавек у цывільным пальто, а з ім два чырвонагвардзейцы-матросы з вялікімі чамайданамі. Гэты чалавек быў відаць хто-небудзь з гэнералаў, што ўзялі бальшавікі на работу ў стаўку вярхоўнага галоўна-

камандуючага. За ім прышоў тав. Кудзінскі, нізенькі, у папасе і салдацкім шынэлю, з вялікі сярдзітымі вачыма; ён пагдядзеў на ўсіх тэлеграфістаў і ад таго погляду ўсё яны пацiхлi. На вакзале тав. Кудзінскага сустрэлі прадстаўнікі бальшавіцкага камітэту і відаць інфармавалі пра мяне, бо праз колькі хвілін тав. Кудзінскі паклікаў мяне і сказаў, што я назначаюся камісарам чыгуначнага вузла і тэлеграфнае станцыі і даў мне заданьне зараз-жа ізаляваць усе правады, якія ідуць з стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага. Я зьмяшаўся, паспрабаваў угаварыць Кудзінскага, каб ён назначыў каго з сваіх хлапцоў, і што мне больш выгодна будзе працаваць неафіцыйна. Але калі Кудзінскі заявіў мне, што цяпер некалі займацца з гэткімі рэчамі, таму што партыяю ўсё пастаўлена на карту, а адказаў: „пішэце мандат“. Тав. Кудзінскі напісаў мне мандат, не паставіўшы намару, з гэткім зьместам: „Дадзена гэтае тав. Ашаку ў тым, што ён назначаецца камісарам чыгуначнага вузла. Усякі, хто ня выканае яго распараджэньня, падлягае расстрэлу. Подпіс—Упаўнаважаны Галоўкаверха па забраньню стаўкі Кудзінскі“. З гэтым дакумантам я пайшоў на тэлеграф, даў прачытаць старшаму зьмены і закамандваў зараз-жа падначаліцца мне і ў далейшым слухаць толькі мяне. Тэлеграфісты, даведаўшыся пра маё назначэньне, пагражаючы і засіпелі і аб'явілі, што працаваць ня будуць. Я вярнуўся да Кудзінскага і даклаў яму пра тое. Тав. Кудзінскі ўзяў з сабою чалавек 12 матросаў, зайшоў на тэлеграф і запытаўся: „Ну, выходзь, хто ня слухае камісара?“ На тэлеграфе сьціпшцішыня, толькі нейкі Грыгор'еў заявіў, што яны будуць працаваць, толькі каб ім далі другога каго, бо тав. Ашак „наш“ і „мы ня хочам, каб з нашага асяродзьдзя быў бальшавіцкі камісар“. Аднак пасьля адпыведнага ўнушэньня і ён змоўк.

Я прыступіў да выкананьня сваіх абавязкаў, разлучыў усе правады стаўкі і ўстанавіў кантроль над усімі размовамі па тэлеграфу. Камітэт прафсаюзу чыгуначнікаў даведаўся пра маё назначэньне і паслаў на тэлеграф свайго эмісара Алтуніна, з якім у нас адбыўся канфлікт праз пытаньне, хто каму павінен падначаліцца, і мне зноў давялося папрасіць дапамогі тав. Кудзінскага, які паказаў таксама і Алтуніну яго мейсца.

На другі дзень прыехаў другі эшалён матросаў, а з ім галоўкаверх тав. Крыленка са сваім штабам. Мяне запрасілі ў вагон; тав. Крыленка паказваў мне карту ваенных дзеяньняў супроць стаўкі, сказаў прозьвішча тэлеграфіста, з якім я павінен мець сувязь на тэлеграфе станцыі Ворша; ён распытаў у мяне пра тутэйшае становішча і пачаставаў шклянкаю чаю. З тав. Крыленкам было яшчэ таварышоў 5 ваенных, хто яны—ня знаю. Таго самага дня абодвы эшалёны з матросамі паехалі далей да Магілеву. Для мяне настала жудасная хвіліна, тэлеграфісты заяўлялі, што яны мне гэтага не даручаюць, а тэлеграфіст Грыгор'еў (цяпер працуе нейдзе ў лясьніцтве) паказаў браўнінг і заявіў: „Я цябе ўсё адно дзе-небудзь заб'ю з-за вугла“. Я не пакідаў дзяжурыць, паведаміў камітэт латыскае арганізацыі і даў сьпіс 7-ёх чалавек, якіх, на выпадак чаго самною, узяць безадкладна. Я аддзяжурыў, ня выходзячы з тэлеграфу, $2^1/_2$ сутак, пакуль тав. Кудзінскі ня выклікаў мяне з Магілеву са стаўкі Галоўкаверха і не паведаміў, што стаўка забрана, Духонін забіты, і я магу йсьці да дому. Гэта было пад 5 гадз. вечара.

Па дарозе я зайшоўся ў камітэт партыі на 2 Елагскую, паінфармаваў падрабязна аб падзеях, і гадзіны праз 2 пайшоў да дому. На рагу 5 Елагскае і Поперечна-Елагскае крокаў за 15 ад мяне грымнуў стрэл, потым другі, нешта пражужукала паўз нос і пачуліся шагі чалавека, які ўця-

каў. Змарыўшыся, я спачатку ня ўцяміў сабе ў чым справа і толькі прышоўшы да хаты зразумеў, што гэта быў замах і той, што страляў, толькі выпадкова не папаў у мяне.

Наступным, досыць цікавым, момантам быў разагнаньне бальшавікамі Віцебскага харчавальнага камітэту, дзе ўсё сядзелі эсэры і меншавікі,— прадкамісарам назначылі тав. Чунчына. Гэта якраз супалася з атрыманьнем весткі аб разагнаньні ўстаноўчага сходу ў Ленінградзе. Меншавікі і эсэры на другі-ж дзень назначылі дэманстрацыю пратэсту супроць расправы з устаноўчым соймам, ставячы ўсю стаўку на чыгуначнікаў. Чыгуначнікі ўвечары адчынілі адзін вагон з вінтоўкамі і блізка 900 штук параздавалі сваёй арганізацыі. Становішча было крытычнае і толькі дзякуючы таму, што ўдалося ўгаварыць праяжджаўшых з Ленінграду ў Магілеў чырвонагвардзейцаў — 500 нешта чалавек—удалося вялікую дэманстрацыю чыгуначнікаў пасьля кароткае перастрэлкі на Арлоўскім пляцу разагнаць. Меншавікі і эсэры, кіраваўшыя ў дэманстрацыі, ганебна паўцякалі, пакінуўшы на Елагскім віадуку штандары і плякаты з надпісамі: „Уся ўлада ўстаноўчаму сходу". Гэтае выступленьне паставіла перад партыяю задачу конча патрэбнага арганізаваньня свае Чырвонае Гвардыі. Пры латыскім камітэце праз некалькі дзён сабралася ініцыятыўная група па арганізаваньню Чырвонае гвардыі пры латыскім камітэце. У гэтай групе былі т. т. Відзе, Біге, Трэйман (цяпер старшы рабочы службы. Пуці), тав. Стальберг (цяпер актыўны член у камуне „Інтэрнацыянал"), я і іншыя таварышы. На гэтай нарадзе абгаварваліся пытаньні ўзбраеньня, знаражэньня і вербаваньня чырвонагвардзейцаў, за камандзіра якім быў назначаны тав. Відзе, а за камадзіра кулямётнага разьдзелу тав. Трэйман. Вырашана было на першы час арганізаваць конную Чырвоную гвардыю, на што было даручана тав. Відзе падабраць у вайсковых часьцях патрэбны лік коняй. У хуткім часе гэтаму чырвонагвардзейскаму атраду давялося адыграць вельмі значную ролю ў Віцебску. Усё яшчэ памятаецца час заключэньня брэсцкага міру. Быў час, калі здавалася, што войскі Вільгельмавы нястрымнаю лавінаю зьнішчаць усе заваёвы Кастрычніка. Немцы ўжо захапілі Полацак і Воршу. Усё сьведчыла аб тым, што заўтра-пасьлязаўтра—немцы будуць у Віцебску. У партыйным камітэце абгаварылася пытаньне аб становішчы і ўсім было ясным пытаньне, што праз дзень-два савецкае ўлады ў Віцебску не застанецца. Апасваліся, што немцы пойдуць проста на Смаленск і Невель і Віцебск адрэжуць. Ставілася пытаньне, ці перадаваць каму ўладу ці не. У партыйным камітэце былі дзьве плыні: адны казалі, што лепш аддаць уладу меньшавікам і эсэрам, чымся кадэтам; другія, што трэба трымацца да канца і не перадаваць нікому. Увечары, у цяперашнім будынку Акрвыканкому, у верхняй салі быў склікаці сход сумесна з меншавікамі і эсэрамі для абгаварэньня становішча і ўжыцьця належных мер. Сход праходзіў вельмі бурна, каля аднае сьцяны стаялі бальшавікі, каля другое—меншавікі і эсэры. Вэльмі характэрна выступленьне быўшага камісара Часовага Ураду Мядзьведзева, які сказаў: „Мы ведаем, навошта вы запрасілі нас сягоньня, таму што не пазьней як заўтра вас пакароцяць ня больш ня менш як на адну галаву". У гэты час адзін з бальшавікоў, у матроскай вопратцы выхапіў ручную гранату і ў злабе хацеў шпурнуць у кучу меншавікоў і эсэраў, але таварышы ўгрымалі яго. Пасьля абвясьцілі перапынак на фракцыйныя нарады, па якіх бальшавікі заявілі, што ўлады не аддадуць нікому. Сход разышоўся.

Тае-ж самае ночы а 3 гадзіне ў адным сутарэньні пад цяперашнім будынкам Акрвыканкому адбылося аб'яднанае канспіратыўнае пасе-

джаньне камітэтаў латыскае і рускае арганізацыі, на якім прысутным быў і я, як член латыскага камітэту. На гэтым паседжаньні абгаварваліся пытаньні ўтварэньня падпольнага камітэту партыі ў Віцебску; было вырашана пакінуць т. Біттэ, Шэйдліну і яшчэ некага трэцяга. Ім было даручана ўжо падабраць і схаваць друкарню, чым большую колькасьць зброі і ў нейкай вёсцы, здаецца, зьбіраліся хаваць аўтамабіль. Там сама вырашылі пытаньне аб утварэньні рэвалюцыйнага камітэту, якому даручыць усю ўладу. Старшынёй гэтага камітэту прызначылі т. Бэме. Я таксама прасіўся, каб мяне пакінулі тут на падпольнай рабоце, але па катэгарычнай настойнасьці тав. Чунчына, Дзірыка і інш. мне прапанавалі выехаць. На другі дзень я зайшоўся да т. Чунчына. Ён сядзеў перад люстэркам, збрываў вусы, а каля яго ляжалі салдацкі шынэль і парык; ён заявіў, што трэба ехаць якраз сёньня, бо заўтра будзе позна, таму што мяйсцовыя эсэры, меншавікі і розныя контр-рэвалюцыянэры рыхтуюць атрады і зьбіраюцца ня выпусьціць з Віцебску ніводнага бальшавіка. Ён мне казаў, што мяркуе ў Сібір і раіў мне ехаць таксама. Гэта была мая апошняя сустрэча с Чунчыным, які паехаў у Сібір, там быў злоўлены Калчаком і расстрэлены.

Увечары конны атрад латыскае Чырвонае гвардыі, які налічваў 32 коньнікаў і 7 кулямётаў, адправіў сваю гаспадарчую частку ў адзін маёнтак за 12 вёрст ад Віцебску па Смаленскай сашы, а сам вярнуўся ў Віцебск на варту Рэўкому, у якім быў фактычна толькі адзін тав. Бэме, што жыў там ня вылазячы. На страхоцьце абвываталям каля рэўкомаўскага штабу на цяперашнім Чырвоным пляцу паставілі сапсаваны бранявік,—плюс да гэтага 32 коньнікі-чырвонагвардзейцы, вось і ўся бальшавіцкая ўлада ў той час у Віцебску.

Праз некалькі дзён, калі становішча пачало ясьнець, латыскі атрад узяў заданьне выехаць у Бешанковічы, перагарадзіць дарогу немцам, якія разьбілі маскоўскі атрад Чырвонае гвардыі ў Лепелі і пасоўваліся, не сустракаючы супраціўленьня, на Бешанковічы—Віцебск. На другі дзень пад вечар былі ў Бешанковічах і не пасьпелі пагрэцца з дарогі (у вялікую завіруху), у наш атрад прышоў селянін з вёскі Сьвечы і сказаў, што толькі-толькі ў вёску прышоў нямецкі атрад чалавек 20, стаў начаваць і раніцой выбярэцца йсьці на Бешанковічы. Абмеркаваўшы пытаньне, мы парашылі ўраніцы атакаваць немцаў. Яшчэ да відна пад'ехалі мы пад вёску Сьвечы, паглядзелі распалажэньне пры дапамозе таго селяніна і, як толькі стала віднець, паразьбіваўшыся на шэсьць груп па 5—6 чалавек у кожнай, наляцелі з усіх бакоў на вёску Сьвечы. З вёскі прагучэла некалькі стрэлаў вартовых, выстаўленых немцамі, потым відаць сталі кучкі ўцякаўшых з хат паразьдзяваных у аднэй бялізьне немцаў. Аказваецца, што яны сталі зусім пахатняму, не чакаючы ніякага нападу. Яшчэ хвіліна, і мы былі ў вёсцы, абкружыўшы зьбянтэжаных напоўадзетых немцаў, якія складвалі ў кучу зброю. Заміж 20 немцаў, па нашым падліку, іх стала цэлая рота.

Чуючы, што доўга ашукваць немцаў ня ўдасца сваім лікам, мы запрапанавалі ім пакінуць ваяваць і адступіць на той бераг ракі, за што мы абяцалі немцам аддаць зброю і далей не наступаць.

Немцы на гэтай прапанове згадзіліся, перайшлі за рэчку і спалілі мост. На абодвых баках былі пасталі вартавыя. На другі дзень, каб даць зразумець немцам, што нас цэлы латыскі конны полк, як мы ім казалі, мы парассылалі групы па 5—6 чалавек па ўсіх кірунках, даўшы заданьне кожнай паказацца немцам, але ня ўвязвацца ў перастрэлку. Адна група накіравана была ў Уллу, а адна ў Каменку,

такім чынам мы занялі вучастак на 60 вёрст. Адна група ў складзе 5 чалавек забралася ў тыл немцам па дарозе да Лепелю і ўступіла ў перастрэлку з нямецкім абозам. Вынікам перастрэлкі два немцы былі забіты і тры паранены, у нас-жа ахвяр ня было.

Таго самага дня за 3 вярсты ад вёскі Сьвечы пад Бешанковічы праз цэлы дзень праводзілі практычнае страляньне з кулямёту. Усё гэта стварыла ў немцаў думку, што нас тут відаць сапраўды цэлы полк і дзякуючы гэтаму Бешанковічы забраны імі ня былі.

Яшчэ адзін характэрны момант з таго часу. Тры вартавых у вёсцы Сьвечы самавольна пакінулі варту, заехалі ў адну вёску, узялі ў селяніна пяць пляшак самагонкі і пасьля настойнае просьбы апошняга аддалі яму самагонку, узяўшы з яго 75 рублёў. Заехалі да другога селяніна, выпілі ў яго, і, быццам-бы нічога не адбылося, вярнуліся на варту. Сяляне на другі дзень прышлі ў атрад і заявілі пра здарэньне. У вінаватых сапраўды былі знойдзены грошы, узятыя ў селяніна. Гэты факт выклікаў абурэньне ўсяго атраду,—была пададзена прапанова расстраляць усіх трох; прапанову прагаласавалі ўсім атрадам і на другі дзень пры вялізным зграмаджэньні народу ўсе тры былі атрадам расстрэлены—з іх адзін беспартыйны і два камуністы, адзін паляк, адзін латыш і адзін рускі. Усіх трох закапалі на мейсцы расстрэлу ў Бешанковіцкім парку.

І яшчэ адзін цікавы момант, які характарызуе тагачаснае становішча. Калі 5 чырвонагвардзейцаў праяжджалі праз м. Астроўна, мяйсцовым эсэраўскім атрадам былі зроблены стрэлы і паранены адзін коньнік. Даведаўшыся пра тое, атрад з Бешанковіч, а таксама навасфармаваны ў Віцебску, на другі дзень былі пасланы ў Астроўна разброіць эсэраўскія атрады. А 12-ай гадзіне дня Астроўна абкружылі з усіх бакоў конным атрадам, а 20 кулямётаў устанавілі на мястэчка, парэзаўшы ўсе тэлеграфныя драты, бо думалі, што мяйсцовы эсэраўскі савет выкліча на дапамогу ўзброеныя эсэраўскія атрады з Сеннага, дзе яны былі. Мястэчку паставілі прапанову: у працягу 2 гадзін здаць усю зброю і выдаць тых, хто страляў у чырвонагвардзейцаў, іначай распачнецца агонь і мястэчка будзе зьнішчана. За паказаны тэрмін здалі 20 вінтовак, некалькі рэвольвэраў і тры вінавайцы, якія ня бралі непасрэднага ўдзелу ў страляньні. Сапраўдныя вінавайцы сумелі загадзя ўцячы і, як потым даведаліся, фармавалі атрады па суседніх вёсках на барацьбу з бальшавікамі.

І адзін з наступных месяцаў пасьля кастрычнікавага перавароту ў Віцебску адбылося славутае выступленьне анархістаў. У тыя часы кожная палітычная партыя імкнулася стварыць свае ўзброеныя атрады. Анархістам удалося сабраць больш за 500 чалавек. У склад гэтага атраду ўступіў увесь крымінальны элемэнт. Нашым партыйным камітэтам было вырашана абзброіць яго. Разбройваньне меркавалася наступнага дня, а анархісты яшчэ ўвечары даведаліся пра гэта і з Маркаўшчыны накіраваліся ў Віцебск, а ў 9-ай гадзіне распачалі пагром на яўрэяў і грабежніцтва па крамах. Я ў той час быў у латыскім клюбе разам з некаторымі таварышамі з арганізацыі. Раптоўна на вуліцы ўсчалася страляніна і сумятня, узброеныя людзі хапалі цывільных грамадзян, ставілі да сьцяны і камандавалі „рукі ўгору!“ адбіраючы каштоўнасьці і бяз мэты страляючы ўгару. Сумятня на вуліцы пабольшала, памацнела, крык, беганіна і страляніна не перасьціхалі. Тады якраз ішоў кіно-сэанс у кіно-тэатры „Ілюзіон“ (цяпер Пролеткіно). Анархісты захапілі касу кіно-тэатру, патушылі сьвятло і сталі ўпоцемку распраўляцца з публікаю. Дзесяткі са тры яўрэяў, выратоўваючыся ад пагрому, забеглі ў наш клюб. Камандзір латыскае чырво-

нае гвардыі т. Відзе, што быў там, па тэлефоне зрабіў распараджэньне атраду ў „Сасоньніку“ засядлаць коні, а кулямёт выставіць на варце распалажэньня атраду і чакаць яго. Праз мост пераправіцца ўжо нельга было і тав. Відзе трапіла пераяжджаць Дзьвіну ў лодцы.

Анархісты ўзяліся ўзломваць магазыны на Замкавай вуліцы і па Смаленскай да самога Выканкому. Праз паўгадзіну ўсе магазыны Замкавае вуліцы былі паўзломаны—адбывалася самае сапраўднае рабаваньне. У мяне на вачох людзі на тратуары здымалі з сябе салдацкую вопратку і пераапраналіся ў цывільныя гарнітуры, што бралі ў магазынах; у Розэнгольцавым магазыне (рог Замкавае і Пушкінскае) рабаўнікоў ня менш як 150 чалавек. Каб асабліва не глядзелі людзі з дамоў, па вокнах 2-га паверху стралялі цэлымі залпамі. Такое відовішча ўбачыў латыскі конны атрад, пад'яжджаючы да Замкавае вуліцы. Атрад ехаў асьцярожна, па 2 коньнікі, дыстанцыя—30 крокаў і спрабаваў угаварваць разыйсьціся па хатах, бо іначай будзе страляць. Такім чынам, атрад з 30 чалавек праехаў да цяперашняга будынку Акрвыканкому і, убачыўшы, што Выканком вартуюць польскія часьці, вярнуўся назад на Замкавую вуліцу. Тымчасам ад Вакзальнае, падаючы рэзкія сьвісткі, павольна падыходзіў бранявік. Зноў пазьбіраўшыся, рабаўнікі пыталіся ў бранявіка: „Ты хто ёсьць, свой ці чужы?“, і, пачуўшы адказ, што свае, крычалі „ўра“, падкідвалі шапкі. Бранявік дайшоў да Савету, пераканаўся, што і Савет абаронены, таксама завярнуўся на Замкавую. Латыскі атрад, бачачы, што ніякія ні просьбы, ні грозьбы не дапамагаюць, пачаў перш страляць угару. На працягу колькі хвілін ад анархістаў таксама чутна была страляніна, частая, без парадку, асабліва з-пад цяперашняга будынку Акругкому, куды яны переважна адступалі. Раптам нашы спыняюць аднаго ў салдацкім шынэлі і пытаюцца: „ты хто?“ Адказу няма. Каманда: „рукі ўгару!“,— той ня слухае. Казалерыст выхватвае шашку і камандуе, яшчэ раз „рукі ўгару“, той падымае і з-пад шынэля ў яго на тратуар высыпаюцца гадзіньнікі, партабакі, жаноцкія пантофлі. Бліснула шашка, і рабаўнік падае пасечаны на вуліцу. Адзін быў застрэлены ў вакне магазына на Замкавай вуліцы. Трэцяя ахвяра—выцяглі з магазыну на Пушкінскай вуліцы чалавека з двума пакамі сукна. На загад „Стой!“ ён пабег уцякаць. Бачачы, што яго даганяе коньнік з шашкаю, ён прыціснуўся да плоту і тут яго дастала куля другога коньніка. Такім чынам да поўначы горад быў ачышчаны ад анархістаў і парадак напраўлены. Разьбіты анархісцкі атрад наступнымі днямі падбіралі на бліжэйшых станцыях і вёсках.

Можна-б падаць яшчэ цэлы шэраг яскравых фактаў і паказаць шэраг момантаў, якія характарызуюць барацьбу невялічкіх колькасьцю але моцных па адданасьці рабочай клясе атрадаў, што складаліся з лепшых сыноў свае клясы, што тварылі сапраўдныя цуды супроць арганізаваных, добра ўзброеных і вывучаных шматлікіх па сваім складзе атраду контр-рэвалюцыі. Перамога ўзята, дзякуючы дзейнаму падтрыманьню самых шырокіх мас, дзякуючы вялізнаму рэзэрву рабочае клясы і ўсіх працоўных мас. 1917 год у Віцебску ёсьць адным з малюнкаў барацьбы за рабочую справу на Беларусі і ўва ўсім Савецкім Саюзе.

---

# КРЫТЫКА І БІБЛІАГРАФІЯ

В. Пучкоў

## Марксызм і ленінізм у ацэнцы сацыял-дэмакратычнае і буржуазнае літаратуры [1]).

У заходня-эўропэйскай літаратуры як буржуазнай, таксама і социялдэмакратычнай вельмі шмат увагі аддаецца Леніну, ленінізму, бальшавізму, узаемаадносінам з Марксам і марксызмам. Зьяўляецца цэлы шэраг дысэртацый (Дыля, Маутнэра, Воутэрс і інш.) па гэтых пытаньнях. Прычым, ня толькі ў апошні пэрыяд, зьвязаны са сьмерцю Леніна, калі нельга было не падкрэсьліць гістарычнага значэньня ленінізму, але нават у першыя дні Кастрычнікавае рэвалюцыі на праблему бальшавізму зварочвалася вялікая ўвага. Ва ўсёй вялічэзнай заходня-эўропэйскай літаратуры аб ленінізьме і марксызьме існуюць два напрамкі: адны лічаць, што ленінізм зьяўляецца простым пасьлядоўнікам марксызму, што ленінізм гэта ёсьць артадаксальны, рэвалюцыйны марксызм і што Ленін ёсьць арыгінальным пасьлядоўнікам Маркса і Энгельса. Цікава, што на такім пункце погляду стаяць шмат якія прадстаўнікі буржуазнае навукі. А прадстаўнікі сацыял-дэмакратычнага напрамку стаяць на іншым пункце гледжаньня. Яны лічаць, што ленінізм зьяўляецца ў лепшым выпадку толькі маленькай часткаю марксызму, а ў горшым выпадку зьяўляецца іншародным уплывам на рабочы рух, і ва ўсякім выпадку, калі ён вышаў з нетраў марксызму, калі ёсьць паміж імі гістарычная і псыхолёгічная сувязь, дык лёгічнае, унутрана-неабходнае сувязі—няма. Возьмем хоць-бы такое пытаньне: Маркс і Энгельс стаялі на пункце погляду быццам-бы дэмакратыі, у іх назва „дыктатура пралетарыяту“ мела выпадковае значэньне, а бальшавікі ўзьвялі ў прынцып дыктатуру пралетарыяту, наадварот, дэмакратыя зьяўляецца ў іх зусім выпадковай. Потым для Маркса мэтад прымушэньня не адыграваў такога значэньня, якое ён атрымаў у практыцы ў бальшавікоў і, наогул кажучы, бальшавікі злоўжываюць суб'ектыўнымі фактамі сацыялізму і рэвалюцыі і быццам недастатна лічацца з аб'ектыўнымі эканамічнымі магчымасьцямі. Датыкаючыся пытаньня генэзісу, ленінізму большасьць сацыял-дэмакратычных пісьменьнікаў устанаўляюць пераважна расійскае пахаджэньне. Але расійскае яны бачаць у далёкім мінулым Расіі. Азіяцкі адсталы характар Расіі, анархічная псыхалёгія сялянства, усё гэта выявілася быццам якраз у ленінізьме, як у фокусе.

Цікава падрабязьней спыніцца на некаторых прадстаўнікох гэтых двух асноўных ацэнак. Абмяжуюся толькі аглядам „крытыкі“, бо галоўным чынам ацэнка і „крытыка“ ленінізму ў значнай ступені ўпарта і нудна паўтарае довады рэвізіянізму і буржуазнае крытыкі, якія высоўваюцца супроць Маркса і Энгельса.

Спынюся спачатку на прадстаўнікох таго пункту погляду, які адмаўляе лёгічную сувязь паміж марксызмам і ленінізмам. Возьмем

[1]) Гэты кароткі агляд зьяўляецца часткаю лекцый па ленінізму, якія чытаюцца ў БДУ.

Бэрнштэйна і прадстаўніка рэвізіянісцкае, цяпер пануючае сацыялдэмакратычнае тэорыі. Ён у сваім апошнім выданьні „спрэчныя пытаньні сацыялізму“ паміж іншым, спыняецца і на бальшавіцкай разнастайнасьці сацыялізму“. І бальшавізм параўнаўча так ацэньвае, як Троцкі ў 1904 г. Ён кажа, што Ленін спрашчае марксызм, што нібы бальшавікі няправільна тлумачаць і прыстасоўваюць тэорыю прымушэньня ў грамадзкім працэсе, пераацэнваючы мейсца волі і ня лічучыся з эканамічнымі аб‘ектыўнымі магчымасьцямі, а апошнія—нібы прымусілі тэорыю Маркса і Энгельса быць больш апартуністычнай... Ува ўсіх адносінах—піша далей Бэрнштэйн, бальшавіцкая дактрына, наддала Марксавай тэорыі характар больш грубы, можна сказаць барбарскі (стар. 235), бо „бальшавізм ёсьць спэцыфічнае расійскае зьявішча“ (стар. 250). У чым спэцыфічнасьць? У расійскай псыхалёгіі, у адсталасьці Расіі, у азіяцкім мінулым.

Другі с.-д., вядомы грузінскі меншавік Жорданія, дык той зайшоў яшчэ далей, „высьвятляючы“ дэталі тэорыі Леніна. У сваёй брашуры „бальшавізм“ ён разьбірае працу Леніна „Что делать?“. Правільна адзначае значэньне гэтае працы, Жорданія, аднак, у тэорыі Леніна аб партыі ўстанаўляе сувязь ня з Марксам і Энгельсам, а... з Ткачовым і з расійскімі народнікамі 70-х гадоў. Ёсьць-жа перапіска Ткачова і Энгельса і, вядома, што Энгельс адмоўна адносіўся да гэткага сацыялізму. І калі ўстанаўляецца сувязь з расійскімі народнікамі, выходзіць, што ленінскія ідэі—не марксыцкія. У галіне арганізацыйных прынцыпаў—ідэя прафэсіянальных рэвалюцыянэраў, узаемаадносіны партыі і клясы—ён знаходзіць агульную ідэю з Народнай Воляй, нават больш, ён знаходзіць, што арганізацыйныя прынцыпы проста сьпісаны з Народнае Волі. У галіне тактыкі Жорданія нічога лепшага не знаходзіць, як сказаць аб форме афарызму, выяўляючы свае неразуменьне дыялектычнае сутнасьці ленінскае тактыкі і палітыкі, што „Ленінская тактыка—у адсутнасьці ўсякае тактыкі“ (стар. 27). „І наогул кажучы“, заключае ён, — „бальшавізм гэта Расійскі нігілізм“, як астатак азіятшчыны.

У гэтай сувязі цікава адзначыць ацэнку „бальшавізма не сацыялдэмакратычнага эмігранта нейкага Гольдэнвэйзера. Гэты ў невялічкай брашурцы спрабуе правесьці роўналежнасьць паміж расійскай і францускай рэвалюцыяй, паміж якабінцамі францускай рэвалюцыі і якабінцамі нашай рэвалюцыі—бальшавікамі. Ён адмоўна разглядае якабінцаў. Таксама ацэньвае бальшавіцкую фазу расійскае рэвалюцыі. Ён спрабуе праводзіць такую роўналежнасьць, выяўляючы, нібы некаторае псыхалёгічнае адзінства і гэтым прадракае будучыню нашае рэвалюцыі: у бальшавікоў быў ідэалёгічным натхненьнікам Маркс, у якабінцаў—Жан-Жак-Руссо. Там—грамадзянін—моднае слова, а у нас—таварыш; там тэрор быў рашаючым мэтадам, і ў нас таксама; там рэвалюцыя была сялянская, і ў нас таксама; там разруха гаспадарчая і харчовая, і голад,—і ў нас таксама; там упад грашовых каштоўнасьцяй,—і ў нас таксама; там ашуканства,—і ў нас таксама і г. д. і г. д. Абрысоўваючы псыхолёгію адвечнага серадняка-рэвалюцыянэра, ён знаходзіць, што яна выяўляецца ў грандыёзным фокусе, які адбівае расійскія асаблівасьці, у „Пугачове з Унівэрсытэту“—Леніне“.

Трэба адзначыць, што ў сацыял-дэмакратычнай літаратуры ёсьць такія водцені, якія можна разглядаць, як імкненьне больш ці менш бесстаронна падыйсьці да бальшавізму. Гэта, галоўным чынам, адносіцца да левае часьці сацыял-дэмакратычнага, так званага, аўстрыйскага марксызму. Напрыклад, Бауэрс прабуе больш-менш бесстаронна ацаніць Леніна. Хоць ён агулам і стаіць на тым пункце погляду, як

і вышэйпаказаныя, але знаходзіць некаторую частку, некаторы момант супадзеньня марксызму і ленінізму, якога ня хочуць знайсьці разабраныя вышэй аўгары. Ён лічыць, што ленінізм—гэта маленькі кавалачак марксызму, але з ухілам мілітарыстычным. Ленінізм быццам злоўжывае элемэнтамі волі, элемэнтамі прымусу і якраз ўсе гэтыя злоўжываньні і маюць характар мілітарыстычны, трымаючы ў тэроры ўсіх сваіх супрацоўнікоў. І наогул нібы бальшавікі нічога не разумеюць ў клясавай барацьбе. Але, даючы гэткую, па сутнасьці адмоўную ацэнку, ён спрабуе ў той самы час і абгрунтаваць больш сур'ёзна сусьветнае вызваленьне Леніна. Ён проці большасьці сацыял-дэмакратычных тэарэтыкаў староўча ацэньвае заслугі Леніна ў галіне аграрнага сялянскага пытаньня, у галіне нацыянальнага пытаньня, у галіне тэорыі дыктатуры пралетарыяту, у прыватнасьці, аб савецкай сыстэме і г. д. У галіне аграрнага пытаньня ён лічыць, што ленінская пастаноўка пытаньня заслугоўвае нашае ўвагі і што вырашэньне Ленінам пытаньня аб сялянстве можа і павінна быць выкарыстана. І сам Бауэр выкарыстае яго. У аграрнай праграме аўстрыйскае с.-д. вельмі шмат ёсьць ад Леніна і бальшавізму. Нават у галіне дыктатуры пралетарыяту, крытыкі дэмакратыі ён наддае вялікае значэньне Леніну і частковa выкарыстоўвае яго. Але тут выяўляецца асаблівасьць аўстрыйскае сацыял-дэмакратыі, якраз прыходзіцца лічыцца з тым, што аўстрыйскі пралетарыят мае вялікія рэвалюцыйныя традыцыі і, выходзіць, што нельга ня лічыцца з гэтым, хоць-бы і па меншай меры ў відзе фразэалёгіі. Але ў гэтым выпадку справа ня толькі ў фразэалёгіі, але і ў больш сур'ёзным выкарыстоўваньні Леніна.

Можна падаць яшчэ шэраг цікавых фактаў, як сымптомы ўзмацненьня больш сур'ёзнае ўвагі да ленінізму і бальшавізму, як да сусьветна-гістарычнага зьявішча. Нехта Якавенка—філёзоф-эмігрант, выдаў брашуру пад назваю „філёзофія бальшавізму", у якой ён спрабуе ўсьвядоміць пасвойму грандыёзнасьць расійскае рэвалюцыі і яе ўплыў на будучыню. Пачынае сваё „дасьледваньне" з узаемаадносін філёзофіі і жыцьця наогул, далей пераходзіць да гісторыі партыі, пісьменна ў огуле выкладаючы яе. Пераходзячы-ж да сучаснага пэрыяду, ён ня вытрымлівае філёзофскі-спакойнага тону, і настолькі яго асьляпляе клясавая нянавісьць, што ён бязупынна сыпле лаянкаю і, у прыватнасьці, датыкаючыся бальшавіцкае філёзофіі, ня бачыць таго, што там ёсьць. Напрыклад, ён разглядае матэрыялізм як мэтафізычны, ні слова ня кажучы аб дыялектыцы, і адзначае нібы, што сацыяльная сутнасьць ленінізму неэтычная. Галоўнае-ж праводзіць роўналежнасьць паміж францускай і расійскай рэволюцыяй. Бяручы ў вялікім маштабе і перспэктыве. Ён бярэ пад увагу наступнае: пасьля Вялікае Францускае рэвалюцыі мы бачым росквіт філёзофіі, мы маем такія філёзофскія сыстэмы, як Фіхтэ, Шэлінга, Гэгеля, француская рэвалюцыя сваёй ідэяю волі, ідэяю новага чалавека, паслужыла стымулам для росквіту філёзофскае думкі. Нечага такога ён чакае і ў выніку расійскае бальшавіцкае рэвалюцыі. Ён чакае зьяўленьня філёзофіі, новай волі і што гэтая расійская рэвалюцыя паслужыць такім самым стымулам для філёзофскай думкі, як і француская. Ён лічыць далей, што воля, якая агалошана прынцыпам бальшавізму ў нашай рэвалюцыі, як-бы да яе не адносіцца, якая-б яна ня была, таксама будзе ўплываць на філёзофію і сьветапогляд. Ён далей спрабуе прызначыць форму філёзофскага ўсьведамленьня новае волі ў выглядзе... свае ўласнае ідэялістычнае філёзофіі. Аддаючы дань гістарычнаму значэньню бальшавіцкае рэвалюцыі і бальшавізму, ён ня можа абыйсьціся без таго, каб ня тлумачыць гэта пасвойму.

Цікава адзначыць, што цяпер, сярод сацыял-дэмакратычных тэарэтыкаў па пытаньні аб марксызьме пачынае панаваць такі пункт погляду, што марксызм, як тэарэтычная сыстэма наогул зжыў сябе, што трэба адмовіцца нават ад таго марксызму, які разьвівае сацыялдэмакратыя і перайсьці да буржуазнае лібэральнае практыкі. Напрыклад, Рэннэр у сваём артыкуле „Што такое марксызм—ідэалёгія ці навука“ за 1928 год — кажа, што цяпер шмат марксызмаў і што аўстрыйскі марксызм годзен для аўстрыйскага народнага руху, нямецкі і рэфармісцкі марксызм прыемлемы і законны для нямецкіх умоў, францускі сындыкалісцкі марксызм прыгодзен для францускіх умоў, і бальшавіцкі марксызм таксама зразумелы ў расійскіх умовах. Цікава, што ён знаходзіць марксызм і практычны бяз тэорыі марксызму ў асобе ангельскае рабочае партыі. Гэты „марксызм“ па яго думцы мае большую будучыну, чым розныя марксызмы розных краёў. Бо тыя заваёвы, якія ёсьць у ангельскай рабочай партыі, быццам лепш сьведчаць аб яе каштоўнасьці чым усе марсызмы ўзятыя разам. І адгэтуль ён робіць такі вывад, што будучыня заключаецца ў тыпе ангельскага рабочага руху.

Такім чынам Рэннэр ускосна прызнае бяссэнсавасьць с.-д. марксызму, і ня хоча прызнаваць у той самы час марксызмуленінізму.

Цікавая і сымптаматычная затое ацэнка буржуазных вучоных. Досыць вядомы Струвэ, былы марксысты, цяпер яры буржуазны вучоны і чорнасоценец выдаў у Бэрліне маленькую брашуру („Ітогі і сутнасьць камун. гаспадаркі“ 1922 г.), у якой піша, што „камунізм Леніна бясспрэчна ўгрунтаваны тэарэтычна на марксызьме, на сацыялёгічным і гістарычным вучэньні Маркса“ (стар. 13). Ён падкрэсьлівае, такім чынам, лёгічную сувязь паміж Ленінам і Марксам і ўстанаўляе нават сувязь паміж тэорыяй марксызму і сацыялістычным экспэрымэнтам, сувязь паміж тэорыяй і практыкай. Ён піша наступнае: „сацыялістычны вопыт, які зроблен у Расіі паставіў на спробу спыту... падвёў вопытнай праверцы і тыя агульныя пачаткі і матывы, на якія апіраецца сацыялізм і з гэтага боку расійскі вопыт заслугоўвае найвялікшае ўвагі, менавіта, як вопыт паступовага ажыцьцяўленьня сацыялізму (стар. 15).

Другі досыць вядомы нямецкі буржуазны вучоны Зомбард, таксама ў огуле вырашае пытаньне, бо і ён не здарма зайграваў з марксызмам і ня менш як Струвэ ведаў Марксызм. У сваім апошнім выданьні вядомае працы „Сацыялізм і сацыяльны рух“, якая выдана пад назваю „Пралетарскі сацыялізм“, ён разьбірае розныя віды сацыялізму, у тым ліку і бальшавізм. Ён датыкаецца таксама спрэчкі паміж сацыял-дэмакратычным сацыялізмам і ленінскім. Тут цікава, што ён кажа: „Палітычнай волі Маркса адпавядае толькі крайняя і паступовая рэвалюцыйная пазыцыя“ (393 стар.) і што Маркс „выліў-бы поўны кубак пагарды на ўвесь бэрнштэйнізм і мільеранізм нашых дзён“ (там-жа). Далей ён піша: „бальшавіцкае разуменьне сутнасьці рэвалюцыйных мэтадаў выяўляецца мне сапраўды марксыцкім“ (ст. 345). І па асобных пытаньнях аб сялянстве, дэмакратыі і інш., ён бальшавізм, як сапраўдны марксызм супроцьставіцца сацыял-дэмакратычнаму марксызму. Зомбарт нават выказвае непаразуменьне па адрасе сацыял дэмакратаў, па адрэсе іхных прэтэнзій на марксызм, на адбыцьцё традыцыі Маркса і Энгельса, і лічыць, што адзіным законным насьледнікам зьяўляецца Ленін.

Зомбард, таксама як і Струвэ, зьяўляюцца клясавымі ворагамі марсызму наогул. Усе іхныя кнігі дышуць наскрозь злабою і нена-

віс'цю да Маркса, да Леніна і да пралетарыяту. Але ўсё-ткі-ж яны больш об'ектыўны, чымся шэраг сацыял-дэмакратычных тэарэтыкаў. Тут выявілася, як казалі Маркс і Ленін, клясавая праўда клясавага ворага.

---

**П. Кержанцаў і А. Леонцьеў. Азбука ленінізму.** Падручнік для партшкол. Пераклад з расійскае мовы Яна Густыра. *Бел. Дзярж. Выдавецтва. Менск. 1928 г., стар. 326, цана 1 рубель.*

Выданьнем гэтага падручніку для партшкол (гарадзкіх) Бел. Дзярж. Выдавецтва зрабіла вялікую і патрэбную справу. Бо мы маем ужо сотні партыйцаў і камсамольцаў, якія вучацца ў партшколах, якія займаюцца самаадукацыяй у гуртках і для якіх вельмі мала належнае літэратуры на беларускай мове. Гэта першы сур'ёзны падручнік для адзінай партшколы выдадзены Белар. Дзярж. Выдавецтвам, заслуга якога тым большая, што гэта сапраўды добры падручнік, які дапамагае правільнаму вывучэньню асноў партыйнае граматы, асноў марксызму—ленінізму.

У падручніку Кержанцава і Леонцьева кожны, які вывучае партыйную грамату, мае добра апрацаваны матар'ял па ўсіх асноўных пытаньнях праграмы партыі і Камінтэрну.

У пачатку аўтары даюць правільны, дасканалы абгляд тэарэтычных пытаньняў марксызму-ленінізму. Гэтым пытаньньм адведзена ў кнізе 5 разьдзелаў (Партыя і кляса. Капіталістычная грамадзтва. Імпэрыялізм—апошняя ступень капіталістычнага ладу. Пераходны пэрыяд. Дыктатура буржуазіі, і дыктатура пралетарыяту). Амаль што 25 процантаў кнігі займаюць гэтыя пытаньні.

Да гэтае часткі кнігі ў нас ёсьць адна заўвага. Аўтары даюць зусім правільнае ўяўленьне аб сутнасьці імпэрыялізму, як капіталізму сучаснае эпохі. Далей ідзе азначэньне імпэрыялізму, дадзенае Леніным: „імпэрыялізм ёсьць капіталізм, на тэй стадыі (г. зн. ступені) разьвіцьця, калі склалася панаваньне манаполіі і фінансавага капіталу, набыў выдатнае значэньне вываз капіталу, пачаўся падзел сьвету міжнароднымі трэстамі і закончыўся падзел усяе тэрыторыі зямлі буйнейшымі капіталістычнымі краінамі“. Аўтары даюць таксама правільнае ўяўленьне аб фінансавым капітале. Аўтары правідлова гавораць, што „гаспадары банкаў і трэстаў маюць поўна шляхоў, каб падпарадкаваць сабе дзяржаўную машыну“ (падкуп дэпутатаў парляманту, скарыстаньне буржуазных газэт, лепшае аплата так званае рабочае арыстакратыі і г. д. Усё гэта зусім правідлова. Але ўсё гэта ня зусім дастаткова, каб з усёю паўнатой характэрызаваць фінансавы капітал. Аўтары ўпусьцілі пытаньне аб непасрэдным пракнікнавеньні капіталу ў дзяржаўны апарат, пытаньне аб зрастаньні трэстаўскага капіталу з дзяржаўным апаратам. Мы маем шмат шэраг фактаў гэтага зрастаньня ў Нямеччыне і асабліва ў Амэрыцы. Аб гэтым казаў на Кангрэсе Камінтэрну т. Бухарын і Камінтэрн гэтае зьявішча адмеціў. Гэта пытаньне не малое важнасьці, якое мае ня толькі тэарэтычнае, але і практычнае значэньне. Мы думаем, што для поўнае характарыстыкі сучаснага капіталізму аб гэтым трэ' было-б хоць трохі, але ўсё-ж сказаць.

Пяць разьдзелаў кнігі аўтары прысьвяцілі практычным пытаньням сацыялістычнага будаўніцтва краіны, абгляду задач партыі і мэтадам выкананьня гэтых задач. Гэта разьдзелы: Асновы гаспадарчае палітыкі партыі. Праз НЭП да сацыялізму. Задачы партыі ў галіне сельскае гаспадаркі. Барацьба за культуру. Правільна аўтары поўна мейсца далі пытаньням індустрыялізацыі і электрыфікацыі краіны і шляхам сацыялістычнае перабудовы вёскі.

Але і ў гэтых разьдзелах аўтары зрабілі дзьве памылкі.

Першая датычыць нашае барацьбы з прыватным капіталам. Мы лічым, што трэба было абавязкова выкрыць хітрыкі прыватніка, яго спробы прыставацца да існуючых умоў. У прыватнасьці, вядома, што калі дзяржава амаль што зусім выгнала прыватны капітал з аптовага гандлю і ў значнай частцы і з дробнага (дзякуючы пашырэньню работы рабочае кааперацыі), прыватнік пайшоў да саматужніка, робіць спробы яго закабаліць; прыватнік кінуў капітал на загатоўку дэфіцытных тавароў і г. д. Асабліва ў БССР, дзе прыватны капітал (гандлёвы) яшчэ даволі вялікі, пытаньне аб выкрыцьці ўсіх хітрыкаў прыватнікаў і барацьбе з імі на новых вучастках мае вялікую значнасьць. Паколькі ў падручніку аб гэтым сказана зусім недастаткова—гэта пытаньне павінны мець на ўвазе кіраўнікі партшкол, кіраўнікі сэмінарыяў і г. д.

Другая памылка датычыць ролі прафсаюзаў. Хоць аўтары і пішуць, што ім „прышлося надзвычайна абмяжоўваць сябе ў выбары тэмы пытаньня, каб ня выйсьці за межы параўнальна кароткага і папулярнага падручніка“. Мы ўсё-ж лічым, што пытаньню аб ролі прафсаюзаў трэ‘ было-б прызначыць значна больш увагі, чым гэта зрабілі аўтары. Аб ролі прафсаюзаў кніга гаворыць у разьдзеле 5, § 5: „партыя і масавыя арганізацыі працоўных“. У сучасны момант, калі роля прафсаюзаў усё больш і больш расьце ў сувязі з індустрыялізацыяй краіны, калі ўвага прафсаюзаў накіроўваецца ўсё больш і больш на пытаньні разьвіцьця прамысловасьці, трэ‘ было аб ролі прафсаюзаў у вытворчасьці сказаць значна шырэй, чымся гэта зрабілі аўтары.

Пяць далейшых разьдзелаў прысьвечаны гісторыі партыі, барацьбы партыі супроць меншавізму, супроць ухілаў у радох самае партыі, супроць паасобных фракцый, якія спрабавалі арганізаваць тыя ці іншыя групы. Правільна аўтары досыць увагі прызначылі пытаньням барацьбы з трацкізмам і з новаю апазыцыяй.

Аўтары пісалі кнігу тады, калі яшчэ ня былі яўна замечаны выпадкі правага ўхілу. Цяпер, калі ўвага партыі накіравана на барацьбу супроць правага ўхілу, калі, у сувязі з абвастрыўшай клясавай барацьбой у вёсцы, правы ўхіл і яго праяўленьня набываюць асаблівую небясьпеку, аўтарам патрэбна, пры трэцім выданьні кнігі гэта ўлічыць. А кіраўнікам партшкол і гурткоў трэба дапоўніць аўтараў у гэтай частцы.

Апошнія два разьдзелы гавораць аб асноўных пытаньнях работы Камінтэрну і аб міжнародным становішчы СССР.

На жаль, аўтары ня далі да разьдзелаў неабходных кантрольных пытаньняў і не паказалі літаратуры па распрацоўцы таго ці іншага пытаньня. Але ўсе гэтыя паасобныя памылкі не перашкаджаюць кнізе быць вельмі добрым падручнікам.

Кніга, напісана вельмі папулярна. Пераклад зроблены ня дрэнна. Але чамусьці цана кнігі большая за цану тае самае кнігі на расейскай мове (75 кап.).

Пажадаем, што Бел. Дзярж. Выдавецтва пасьля гэтага добрага пачатку з выданьнем кнігі Кержанцава і Леонцьева, прыступіць да выданьня патрэбнае навучальнай літаратуры на беларускай мове.

**М. Г.**

# ЗЬМЕСТ



---

## Ад рэдакцыі.

У № 11 „Бальшавіка Беларусі" у артыкуле т. **М. Зярніцкага** аб шпалернай фабрыцы (Менск) надрукавана (ст. 76 зьверху): „Состав рабочих как по квалификации, так и возрасту и общему развитию—довольно разношерстный: наряду с группой старых квалифицированных рабочих, подверженных мелко-буржуазным настроениям (что связано с прежней работой их на частных предприятиях)..."

Тут мела месца прыкрая памылка, бо аўтар меў на ўвазе ня ўсіх рабочых і хацеў адзначыць толькі тое, што сярод старых рабочых ёсьць некаторая частка, якая зьяўляецца палітычна адсталай.

---

Пры перакладзе ў № 12 „Бальшавіка Беларусі" з украінскае мовы на беларускую вытрымкі з рэзалюцыі ЦК КП(б)У укралася памылка—устаўлена слова „шлях".

Другі радок 6 абзацу рэзалюцыі трэба чытаць: „Партыя стаіць за самастойнае разьвіцьцё беларускай культуры"... і г. д.

**Рэдакцыя**

